38 260 552

3015-3
1714

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

аб 05
18574

*КНІГА*
*ДВАНАЦЦАТАЯ*

05

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя В. І. Леніна

МЕНСК — 1937

*Владзімір Лугаўской*

# КІРАЎ

Гэта імя
наша абарона,
Разам з ім
краіна ўся расла.
Лёгкі попел твой,
Сяргей Міроныч,
Зараз прыняла
Сцяна Крэмля.
Ды ніколі
мужнасць не ўмірае.
Колькі ён пакінуў
спраў і слоў
Ад гранітаў
ледзянога края
Да бакінскіх
чорных прамыслоў.
Бачу,
бачу зноў
перад сабою
Крэп і кроў
на зелені вянкоў,
У жалобе
сцягі над зямлёю,
Грозны гнеў
і жаль большэвікоў.
Здраднікі
Міроныча забілі,
Подласцю
перакасіўшы рот.
Хіба
наш народ
яны любілі?
Дзе ім палюбіць
такі народ.
Вырадкі
без племені,
без роду,
І радзімы—
з іх ніхто не меў.

Вас сустрэў
вялікі гнеў народа,
Усёзнішчальны
пролетарскі гнеў.
Смерць
злачынства вашае—
ці змые?
Смерць звычайная!
хвіліна—
і канец.
Вашы-ж сэрцы
зажыва гнілыя
Будуць гідка
і нядоўга
тлець.
Кіраў з намі,
невысокі,
добры.
Зломіш хіба
посвістам свінца
Благародны
чалавечны вобраз
Нашага трыбуна
і байца?
Ты ўстаеш
пакрыты светлай славай,
Ў кожным подвігу краіны—
праз гады.
Гэта смерць твая,
Сяргей Міроныч,
Выкрыла
варожыя
сляды.

---

*Н. Забалоцкі*

## ПРАШЧАННЕ

Прашчанне! Балючае слова!
Маўклівае, цёмнае цела.
З вышынь Ленінграда сурова
Халоднае неба глядзела.
Маўкліва без грома і спеваў,
Ўсе тры пакаленні ў гневе
Прайшлі ў гэты дзень прад табою,—
Гатовыя заўжды да бою.

Ў халодных садах Ленінграда
Забытая ў траурным горы
Магутных дубоў каланада
Як быццам стаяла ў дазоры.
Здалося высока над намі
Прырода сышлася радамі
І ціха рыдала і пела
Каля нерухомага цела.

Ды бачыў я дальнія далі
І чуў я з сябрамі маімі,
Як дзеці дзяцей паўтаралі
Яго незабыўнае імя.
І свет велізарны, бязмежны
Зіяў над магілаю свежай,
І быў ён магутны і дзіўны,
Як сэрца таго, што загінуў.

*Шота Руставелі*

# ВІЦЯЗЬ У ТЫГРАВАЙ СКУРЫ

## УСТУП

Ты магутнасцю бязмернай свету даўшы існаванне,
Ажывіўшы ўсё жывое, на планеце нежывой,
Перадаў ты людзям землю, ўсю у сонечным убранні
Даў прастолы венцаносцам—роўным воблікам з табой.

Бог адзіны! Творца дзіўны, на зямлі ўсяго жывога,
Заступіся, дай мне сілу каб я д'ябла перамог.
Захавай да самай смерці пал кахання агнявога,
Адпусціўшы грэх вялікі, што на сэрца цяжка лёг.

Льву-ўладару йдзе да твару шчыт, кап'е і меч бліскучы
Як Тамар-Царыцы—сонцу шчок рубін і кос агат.
Ці змагу цара уславіць песняй соладка-пявучай?!
Мёд і малако спрабуе—каму дорыць ён пагляд.

Я Тамар услаўлю воблік—уладарны, ясназоры,
І каму з высокіх словаў я сплятаў ужо вянок.
Мне пяро-трыснік паілі чорных воч яе вазёры—
Хай-жа сэрца працінае песня вострая—клінок.

Цяжка мне царыцу славіць словам песні невымоўнай,
Вейкі апяваць і бровы, палкіх воч яе агонь.
Зубы, што падобны пэрлам, вусны—як рубін цудоўны,
Але дробіць камень молат—з волава хай будзе ён.

Мне патрэбны: сіла слова, сэрца палкае паэта,
І прадбачнасць, каб паэма загучала як закон;
Узвялічым Тарыэля, узнясем яго над светам,
Тром героям вечнай дружбы—будзе спадарожнік ён.

Мы збярэмся ў круг,—аплачам падняволле Тарыэля
Хто, як ён, пачуццем палкім, у пакутах пакахаў.
І кап'ем прабіты суму, вершатворац Руставелі,—
Сказы, што аб ім зложылі, нібы жэмчуг, нанізаў.

Калі-ж ты кахаеш шчыра, дык як сонца будзь у зьянні!
Смелы, спрытны, будзь прыгожы—ўвасабленне пекнаты.
Мудры, шчодры і цярплівы, першы ў бойцы і змаганні,
Калі-ж гэтым не ўладаеш—дык які-ж там рыцар ты?!



**Шота Руставелі**

Партрэт работы мастака Ір. Тоідзе.

О каханне, ты—таемнасць! Сон, што шчасным толькі сніцца,
Дум адзінства, а не момант палкай поўначы сляпой.
Ёсць каханне,—блуд таксама, паміж іх ляжыць граніца,
Ты іх розніцу пазнаеш, калі ўчуеш голас мой.

А кахаеш, дык навекі, знішчы нізкае жаданне!
Так, каб вытрымаў разлуку, ў барацьбе не заняпаў,
Будзь нязменны для адзінай, захавай ў бядзе трыванне.
Мне агідна ўся спакуса і абдымкаў грубых пал.

Ты няшчырае пачуцце—не заві яго каханнем—
Дзень з адной, а заўтра з новай, развітаешся і з той.
О знаёмыя хвіліны, о мяцежнасць парыванняў!
Толькі той каханак шчыры—адхінуў спакусу хто.

У каханні боль стрымаеш і ў бяссонні доўгай ноччу,
Захаваеш воблік любы ў адзіноцтве, сумных днях.
Плач таемна, ў хваляванні выплач слёзна свае вочы,
І не бойся уладараў, адчувай прад ім ты страх.

У каханні будзь спакойны, захавай яго ад свету,
Каб знячэўку ты не выдаў сховы сэрца прад людзьмі.
Не аддай на абгаворы сэрца сумнага прыкметы,
Полымя кахання, мукі, нібы радасць ты прымі.

Я, Руствелі, пра царыцу я пяю натхнення поўны,—
Уладарку слаўнай раці—клічу ў прадсмяротным сне—
Я знямогся, для ўкаханых дзе знайсці бальзам чароўны?
Дай-жа мне збавенне цуда, ці ў зямлі спачынак мне.

Для грузін даўно вядомы сказ далёкага Ірана—
Жэмчуг поўдня, што ільсніўся на далонях тысяч рук.
Я сабраў і скарб народны аб'яднаў у верш чэканны,
Каб царыцына увага мне змякчыла цяжар мук.

Светлых позіркаў шукаю, асляпілі яе вочы,
І ў знямозе ад кахання я па стэпу заблукаў.
Хай-жа цела спяплее, асалоды дух мой хоча!
Тром героям гэтай песняй я належнае аддаў.

Тое прымем мы без скаргі, што нам лёс пісаў ад роду:
За сахой ідзе араты, воін б'ецца у баёх.
У пачуццях закаханы—хай-жа знойдзе ўзнагароду,
І каханне ушануе як чужое, так сваё.

Дар напеваў—гэта мова мудрай шчырасці высокай,
Голас слаўны і магутны песняра ў таемны час.
Чуламу прыемны вуху рытм пявучага патока,
Думкі шыр ў кароткім вершы—і ўсхвалюе песня нас.

Выпрабоўванне для коней—бег на доўгіх перагонах,
Іграку дае пяршынства па мячу удалы ўдар.
Ты-ж павінен, слова майстар, строфы асадзіць як коней,
Калі ледзь клыпае песня, верша цягнучы цяжар.

Прыглядзіся да паэта, што спявае без натхнення
І губляе красамоўнасць і кульгае рыфмаў звон.
Хай ён змоўкне, альбо спрытна завяршыўшы песнапенне,
Нібы мяч вядзе чаганам, спраўна к мэце прыдзе ён.

Не паэт, хто дзесьці, неяк верш другі выпадкам скажа,
І уявіць што славуты—выкліча прызнання гул.
Неяк ён радок з радкамі невыразнай рыфмай звяжа
І раве: „Я самы здольны“—ён упарты быццам мул.

Ёсць другі разрад паэтаў—песнапеўцаў няўмелых,
Словы іх людское сэрца ці крануць яшчэ?—Наўрад!
Я-б сказаў: няўдалы лучнік лесам крадзецца нясмела,
Звера ўзяць яшчэ баіцца і пужлівай дзічы рад.

Верш у трэйціх для забаваў, ці прысвечаны дзяўчатам,
Ці сябрам у час гулянак, для жартоўных іншых мэт.
І такі прыемна слухаць, калі думкі ў ім багата—
У мудрым сказе і магутным бачны творца і паэт.

Хто пазнаў жыцця пакуты, той валодае натхненнем!
Сэрца хай аддасць Адзінай, хай прысвеціць для яе,—
Незраўнанай ў цэлым свеце, верша палкае зіхценне,
І на струнах сэрца песні пра адну яе пяе.

Сённячы я слаўлю тую, чыё імя ў вечнай сферы,
І пяснярскі свой учынак не прынізіў я нічым.
Усё жыццё мае ў палоне той раз‘юшанай пантэры,
Вось каго навекі ўславіць вершам думаю сваім.

Я пяю каханне—з песняй духаў чыстых ўзлёт крыляе,
І невыказаны ў словах іхняй музыкі раскат.
Лёс паэта—лёс шчаслівы, к светлым высям узнімае,
Але шмат прарочыць гора і суровай крыўды шмат.

Закаханым ты дасяжна—недасяжнае каханне!
Мудры прад табой нямее, самастойнасць траціць ён.
Нават той, хто паспытае спакуслівага наслання,
Чыстае яго шануе, як дзівосны нейкі сон.

Ахрысціў Усход бязумцам закаханага бязмеры,
Неудачлівы паклоннік крыўду копіць у грудзях.
Так, каханне узнімае, нараджае радасць веры,
Аддасіся-ж асалодзе—перэтворышся у прах.

## Другі сказ аб тым, як цар арабскі убачыў віцязя, які носіць тыгравую скуру

Бачаць, нейкі невядомы віцязь плача каля рэчкі,
Льву падобны—і за повад ён каня трымаў свайго.
Жэмчуг белы упрыгожваў зброю, конскую уздзечку,
Ї як іней застывалі слёзы на шчаках яго.

Скура тыгра залаціцца на плячах паверх кафтана,
Нават з тыгравае скуры на чале шалом блішчаў.
У руцэ бізун трымаў ён, з рукаяткаю чэканнай,
Прыгажосцю незнаёмы позірк царскі прыцягаў.

Цар здзівіўся: „Што за віцязь і прыгожы, і магутны!"
Тут-жа воіна паслаў ён:—„Прывядзі яго сюды.
Перадай, у нашым краі пра яго было не чутна,
Хто-б не быў, няхай прыходзіць, як не хоча ён бяды".

Ї пайшоў паслушны воін перадаць царовы словы,
Віцязь-жа сядзеў ля рэчкі і схіліўшыся рыдаў.
Слёзы як крышталь ліліся на скалісты дол суровы.
Ї спалохаўшыся воін ледзве слова праказаў.

Не трывожыў незнаёмца недалёкі шум прывала
Ростэванаўскай дружыны, пасланца нясмелы сказ.
Быццам сэрца ў палымені, горна, жаласна рыдала,
Ї крывавымі слязамі аблівалася не раз.

Думкі віцязя вітаюць у далёкім іншым краі.
Зноў яго паклікаў воін, але вельмі здзіўлен быў,
Бо не чуе яго віцязь, горка плача у адчаі,
Ї не даў яму адказу, ружу вуснаў не раскрыў.

Ї адказ не атрымаўшы воін едзе да ўладара,
Ї даклаў: „Дзівосны віцязь адаслаў мяне назад,
Не жадае цябе бачыць, я-ж аслеплен Сонцатварым,
Пашкадуй мяне, ўладарац, я не выканаў загад".

Змрочны твар стаў у Ростэна, быццам ён пакрыўся ценем
Ён паклікаў верных служак і сурова загадаў:
„Зброю ўзяць і неадкладна выканаць распараджэнне,
Хай-жа ўпартага навучаць—хто служыць зарок мне даў.

Войска рушыла. Ад шуму, бразгату мячоў і стрэлаў
Схамянуўся слаўны віцязь, твар яго быў у слязах.
Бачыць ён, што войска многа ціха крадзецца між дрэваў;
Ї ускліснуў: „Гора, гора!" больш нічога не сказаў.

Выцершы рукою слёзы з воч пакутлівых і горных,
Меч на поясе папраўіў і са стрэламі калчан,
Скочыў на каня, як вецер конь памчаўся яго чорны,
Не звяртаў увагі віцязь, што натоўп у след крычаў.

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя В. І. Леніна

Каб схапіць яго—памчалі войскі воінаў палямі,
Злая доля іх сустрэла—вораг бы пашкадаваў:
Аб зямлю ён кідаў злосных, разбіваў ілбы ілбамі,
Нават стрэл не скарыстаўшы—бізуном іх рассякаў.

Цар разгневаўся і выслаў новых коннікаў пагоню,
Ды схапіць усё-ж прышэльца так ніхто і не сумеў.
Да яго хто набліжаўся—тых спіхаў пад ногі коней,
Лупцаваў адным другога, на цара навёўшы гнеў.

Уладар за ім пагнаўся разам з юным Аўтандзілам,
Незнаёмы аддаляўся, на скаку пахістваў стан.
Чорны конь імчаў як гончы, коннік асляпляў свяцілам
І ляцеў за незнаёмым раззлаваны Ростэван.

Той пазнаўшы уладара—не спужаўся, не спыніўся,
Знік у момант ад пагоні, апусціўшы павады—
Як на неба ён узнёсся, ці пад землю праваліўся...
Доўга коннікі кружылі каб знайсці яго сляды.

Людзі царскія дарэмна стэп шырока абшукалі,
Праваліцца ў зямлю, знікнуць гэтак злыдзень толькі мог.
Па забітых шмат рыдалі, раненых перавязалі,
Цар сказаў: „Удачы, мабыць, захацеў пазбавіць бог.

Я, дасюль заўжды шчаслівы, пэўна богу надакучыў,
Вось таму і пакараў ён, сэрца зраніўшы тугой.
Я паранены смяротна, дзе знайду бальзам жывучы?
Што-ж, такая твая воля, найвышэйшы божа мой“.

І ў грудзях з вялікім сумам едзе цар дамоў няспынна,
Ён адмовіў пір і гульні, з поля войска пасклікаў.
Паляванне прыпыніўшы разыйшлася ўся дружына:
Той шаптаў: „Усё гэта дзіўна!“—Гэты: „Божа пакараў“.

Цар пайшоў на адпачынак заклапочаны і хмуры.
І яго, як сын любімы, Аўтандзіл, суправаджаў.
Людзі выйшлі ўсе з пакояў, твар прыкмеціўшы пануры.
Не гучалі кастаньеты, змоўклі арфа і кімвал.

Пра журбу цара сказалі Тінатіне Сонцатварай,
І прыйшла яна—здалося ад яе палац зазьяў.
У дварэцкага спытала: „Як здароўе уладара“
Адказаў той: „З няудачы штосьці цар засумаваў“.

Аўтандзіл там, больш нікога не было з царовай світы,
Цар журботна заклапочан, вочы поўняцца тугой.
Тінатін слугу пазвала: „Перадай цару, глядзі ты,
Хоць трывожыць не пасмела, ўсё-ж наведала яго“.

Неўзабаве цар спытаўся: „Дзе-ж дачка мая—царэўна—
Жыватворчая крыніца і святло маіх вачэй“.
Адказалі: „Было цяжка бачыць ёй ўладарца гнеўным,
Не хацела вас у суме устрывожыць больш яшчэ“.

Ростэван сказаў прыдворным: „Бачыць Тінатін хачу я!
Тую, што жыцця дарожай, яснатварую красу.
Мне яна развее гора, ў грудзях—сэрца боль адчуе,
Я скажу ёй чаму бацьку засланяе вочы сум.

Волі бацькавай паслушна Тінатін прышла ў пакоі,
Асвятліўшы спачывальню кволым месячным святлом.
Цар дачку пацалаваўшы, поруч пасадзіў з сабою
І сказаў: „Без запрашэння ты наведвай царскі дом“.

І дачка яму сказала: „Калі ты не рады свету,
Цар, прымушан нават горды са шляху твайго сыйсці.
Смутак твойператварае ў змрок святлейшыя планеты,
Лепш у справе разабрацца, як займець журбу ў жыцці“.

Цар адказвае: „Дачушка, сёння вельмі я сумую,
Але смутак мой праходзіць, калі ўчую голас твой.
Як цалебным муфарахам нішчыш ты нуду ліхую,
Упікаць мяне не будзеш за пракляты мой настрой.

Незнаёмага я ўбачыў, з невядомай ён краіны,
Асвятляючы прасторы-сонцам твар яго зіяў.
Запрасіў яго, уведаць горкіх слёз жадаў прычыну,—
Ў гневе нават прывітацца ён са мной не пажадаў.

Як мяне заўважыў—скочыў на каня, памчаўся шквалам.
Я паслаў за ім пагоню—перабіў ўсё войска ён.
Не абняў мяне па-людску—быццам д'ябла цень прапала,—
Я не ведаю і зараз: ці то праўда, ці то сон.

Асалоду неба, божа, замяніў ты мне атрутай,
Весялосці дні прапалі, сёння ўсё забыта мной.
Непакорнасць прада мною,—мне балючая пакута,
У жыцці я больш не стрэну светлай радасці зямной.

„Уладар—дачка сказала—у цярплівасці прабудзем,
Не да твару нам на бога ўсё валіць у цяжкі час.
Ты чаму напасць узводзіш на таго, хто добры к людзям,
Хіба можа зло зрабіць той, хто ласкавым быў для нас.

Калі-ж той сапраўдны віцязь, што мільгнуўся лёгкім ценем,
Не ўцячэ, яго убачаць—да яго мы знойдзем шлях.
Калі-ж гэта быў нячысцік—нам паслаўшы затлумленне,
Дык жыццём ты будзь здаволен—скінь з сябе сумоты жах!

Выслухай мяне, ўладарац, над царамі цар уладны,
Меж няма тваім ўладанням, непахісны царскі трон.
Пасылай ганцоў усюды, хай разведаюць дакладна,—
Можа дух святы той віцязь—ці смяротным створан ён".

Перадаў Ростэн загады слугам верным і уважным:
„У дарогу выступайце,—вось такі мой царскі сказ,
Непакорнага шукайце, а краінам недасяжным
Шліце пісьмы і прасеце, каб паследаваў адказ".

І пайшлі ганцы ўладара па цяжкіх сваіх дарогах—
Усё блукалі, ўсё шукалі віцязя аж цэлы год,
Ды нічога не пачулі ад людзей, пад ласкай бога,
І ганцоў цара Ростэна быў не радасны прыход.

Далажылі: „О ўладар наш, мы шукалі дні і ночы,
Распыталі ўсіх сустрэчных і нікога не знайшлі,
Непакорнага хто стрэў-бы ў скуры тыгра, хоць аднойчы,
Знемашчэлі мы, ты іншых на замену нам пашлі!"

Цар сказаў: „Цяпер дачушкі слова шчырае збылося!
Мабыць злыдзень тут наблытаў—выклік хцівец кінуў нам.
Ён спакусны пастараўся нас аддаць благому лёсу—
Будзем радаснымі—гора не да твару ўладарам.

Так сказаў і змрочных думак перамог цяжар вялікі,
Песнапеўцаў і жанглёраў у палац ён пасклікаў.
Раздаваў ён падарункі ўсім пад радасныя ўсклікі,
Шчодрага цара такога бог яшчэ і не ствараў.

Аўтандзіл амаль раздзеты—ён ляжаў на ложку дома
І спяваў, ліліся гукі струнаў арфы залатой.
Раптам раб з'явіўся чорны і прад ім ён стаў з паклонам,
Далажыўшы: „Воблік сонца хоча бачыцца з табой".

Аўтандзіл учуўшы вестку—небу шле хвалу. Адразу
Устаў і лепшае адзенне на сябе хутчэй надзеў,
Быў натхнёны ён спатканнем, з кім у двух не быў ні разу...
Разам быць з каханай—хіба хто салодшы момант меў?

Аўтандзіл ідзе ў палацы без слядоў былога гора
К Тінатін, па кім у суме слёз не мала праліваў.
Погляд-стрэламі маланак зіхацеў непараўнанай,
Ад магутнага зіяння нават месяц цмяным стаў.

Мантыя ёй плечы ўкрыла—гарнастай цудоўна белы,
Складкамі вуаль спадала надзвычайнае цаны.
Вейкі ранілі смяротна сэрца—вастрыямі стрэлаў,
Косы абвівалі шыю, і як смоль былі яны.

Пад пурпурнаю вуальлю позірк быў царэўны хмуры,
Запрасіла Аўтандзіла з ёю побач каб прысеў.
Крэсла раб яму прысунуў—віцязь сціплы і пануры
З Сонцатвараю сустрэўся,—радасць палкую займеў.

І сказаў царэўне: „Страшна, слова выказаць не смею!
Тухне месяц, стрэўшы сонца—ўся ў праменнях далячынь,
Думкі блытаюцца—шчасны я пачцівасцю тваёю.
Ты парай, якім бальзамам мне твой сум перамагчы.

Аўтандзілу яе словы песняй казачнай здаліся:
„Хоць не быў ніколі блізкім, і кахаў мяне цішком,
Нечаканую загадку растлумачу—не дзівіся,
І скажу журба якая завалодала жыццём.

Ты прыпомні паляванне царскае ў палях шырокіх,
Віцязя у скуры тыгра—што ля рэчкі слёзы ліў.
Успаміны з таго часу сэрца раняць мне глыбока,
Ты знайдзі яго, а трэба—абшукай ўсю шыр зямлі.

Ты ў душы хаваў пачуцці дзеля дружбы паміж намі,
Воблік мой—у тваім сэрцы назаўсёды будзе ён.
У адчаі свае шчокі ты, як градам, сек слязамі.
У каханні розум, сэрца—ўзяты вечна у палон.

Я высокі абавязак на цябе ўскладаю двойчы,
Паміж смертных—ты магутны, хто пароўніцца з табой?
Да таго-ж—ты верны рыцар, гэта чула не аднойчы—
Непакорнага знайдзі мне на зямлі, ці пад зямлёй.

А стрымаеш мае слёзы—станеш самы блізкі, дружа!
Віцязя ты адшукай мне —служку чорных духаў злых,
На шляху маіх надзеяў пасадзі фіялкі, ружы,
Леў, вярніся!—ясным сонцам стрэну на шляхах тваіх.

Тры гады шукай усюды і з'явіся ты са славай,
У той дзень непараўнаны, з добрай весткай прада мной.
Незнаёмага ты знойдзеш, калі ён не дух лукавы,
Я цябе сустрэну, любы, быццам ружы цвет вясной.

Прад табою я клянуся, толькі ты мне мужам станеш,
Калі-ж сонца, стаўшы смертным, пал абудзіць у мяне.
Хай замест святога рая, буду я ў спрадвечнай тхлані,
Хай-жа меч твайго кахання маё сэрца не міне.

Адказаў ён: „Маё сонца, твае вейкі быццам джала!
Як магу інакш падумаць—шчыры я табе ва ўсім.
Мне здалося паміраю, але шчасце ты паслала,
І дазволь мне быць ад сёння век нявольнікам тваім.

Ты як сонца, ажывіла ўсё праменнай цяплынёю,
Шлях паказваеш планетам у нябеснай вышыві.
Я не варты таго шчасця, што даеш рукой сваёю—
І цвіту цяпер, як ружа у праменнай цяплыні.

Вечнай вернасці кляліся, дружбе шчырай і вышэйшай,
Іх размовы задушэўнай доўга гоман не змаўкаў.
Аўтандзіл цяжар сумоты адчуваў куды лягчэйшым,
Зіхацелі зубы-пэрлы, быццам промень там зіяў.

Шчырым сказам адказала сэрца-сэрцу на каханне,
Спалучаліся рубіны з гісерам і крышталём.
Кажа ён: „Цябе сустрэўшы ашалелым смертны стане,
І мае пылае сэрца, ахапіўшыся агнём.

Пачалося развітанне,— горкая для іх атрута:
Ён ішоў і азіраўся, стан як тональ свой хістаў.
Слёзы градам секлі шчокі, грудзі мучыла пакута,
Сэрца меў ён—дзеля сэрца і навекі пакахаў.

„О святло! Разлука злая мне трывожыць сэрца рану!
Цмеюць крышталі і лалы—як янтар я цмею тут.
Не пабачу цябе доўга, слёзы ліць не перастану,
Бо жыццё аддаць каханай вучыць рыцарства статут.

Не знайшоў спакою дома, слёзы коцяцца бясконца,
Ён дрыжаў як гнуткі тональ, што пад ветрам стан згінаў.
А задрэмле—і убачыць прад сабою сваё Сонца;
Ад рыдання і усхлінаў жорсткі боль яго ўзрастаў.

З Сонцатвараю разлука сэрца паліць палыменнем,
Коцяцца жамчужын слёзы з воч у кволай цішыні.
Лепшае надзеў адзенне і пад ранішнім праменнем
Да цара, на развітанне, ён паехаў на кані.

Да Ростэна з пільнай весткай ён эджыба *) пасылае:
„Падуладна ўсё на свеце, о ўладар, твайму мечу,
Ведаюць паны, вяльможы—непакорных ён карае—
Як дазволіш, я прымежных папярэдзіць тым хачу.

Абыйду суседзяў землі я ад краю і да краю,
Тінатін імя праслаўлю я ўсім ворагам на зло
Ашчасліўлю верных трону—непакорных пакараю,
Слаць дары з дарогі буду разам з весткамі паслоў.

Цар удзячнасць Аўтандзілу перадаў у цёплых словах:
„Леў—табе нішто не страшна, ты нязломны ў барацьбе,
Шчодры ты на падарункі, кемны ў момантах суровых;
Ну, дык едзь—глядзі-ж каб доўга не чакалі мы цябе.

*) *Эджыб*—прыдворны

Аўтандзіл зайшоў і нізка прад Ростэнам б'е паклоны:
„Да хвальбы незаслужонай не прывучвай, бацька мой,
Асвятлі мне ўсемагутны шлях цяжкі і славы поўны,
І дазволь пасля звароту зноў ўбачыць воблік твой".

Цалаваліся ў абдымках, быццам бацька з родным сынам,
Тыя, што сваёй адвагай праслаўлялі цэлы свет.
Развітаўшыся з Ростэнам Аўтандзіл палац пакінуў,
Праслязіўся уладарац, паглядзеўшы яму ўслед.

Дваццаць сутак ён праездзіў—віцязь доблесці і славы,
Адпачынку, сну не ведаў—гэтак ездзячы адзін.
Захапляючая радасць свету, моц усёй дзяржавы—
З думкай заўжды і паўсюды аб цудоўнай Тінатін,

І нарэшце бачыць віцязь рубяжы радзімы-края,
З радасцю ішлі вяльможы, шчодра нясучы дары.
Далей мкнецца Сонцатвары—шляху не перапыняе,
Хоць сустрэўшыя вассалы запрашалі на піры.

Толькі ў замку непрыступным, што краіне быў аховай,
Дзе прыроднай агарожай узняліся гмахі гор—
Паляваў тры дні тут віцязь, і ў куток гэты суровы
Для парады Шэрмадзіна запрашае ён свайго.

Шэрмадзін—вышэй названы—верны быў для Аўтандзіла,
Вырас пры двары ён разам і на службе шчырым быў,
Ды не ведаў што ўладала віцязям кахання сіла,
І рабу ваяка юны тайну сэрца ўсю раскрыў:

„Шэрмадзін, мне сорам. Сёння ўсё раскрыю прад табою,
У мінулым ты ўсё ведаў, што у сэрцы я нашу.
Аднаго дасюль не ведаў—колькі слёз праліта мною...
Тая, што дала пакуты, зараз радуе душу.

Закахаўшыся ў царэўну, ў горы я не бачыў свету,
Ліўні слёз у пышнай ружы халадзілі ў сэрцы кроў.
Гора цяжкага не мала перацерпеў я дагэтуль
Але сёння промень шчасця сэрца ўзрадаваў мне зноў.

Сонцатварая сказала: „Цяжкасцям ты не скарыся,
Адшукай напаслухмянца, вестку дай аб гэтым нам.
Мне другі не стане мужам—хай ён будзе Кіпарысам—
І для сэрца ў цяжкім суме мне дала яна бальзам".

Шчыра паслужыць патрону—абавязак для вассала,
Быць пакорным уладару—абавязак ведай свой.
Стухла полымя пакуты, што мне сэрца распякала,
І ў шляху цяпер не страшны ні напасць, ні вораг мой.

Ты з васалаў лепшы друг мне, самы блізкі і адзіны,
І як пэўнага з найпэўных упрашаю аб адным—
Ты кіруй маёй зямлёю, будзь начальнікам дружыны,
Толькі я цябе даверу дому, воінам сваім.

Будзь-жа добрым палкаводцам, вызначай свае кірункі,
Да цара ў палацы весткі хай ганец прыносіць твой.
За мяне пішы пасланні, шлі багатыя дарункі—
Захавай маё знікненне, замяні мяне сабой.

Нагадай мяне усюды: ў паляваннях і паходах,
Тры гады мяне чакай ты, і каб тайну захаваў,
Я вярнуся, калі топаль не паломіць непагода,
А памру—паплачаш троха, а пасля памінкі спраў.

Захавай аб мёртвым памяць, заўжды йдзі маёй дарогай
Добры справы ўсе выконвай і мяне ты не забудзь,
Памінай мяне ў малітвах, абаронцай будзь прад богам,
А дзяцінства як успомніш—шчырай маткай ты мне будзь.

Шэрмадзін учуўшы гэта атаропеў ад здзіўлення,
Плакаў горка прад разлукай, ў горы не стрымаў сябе.
Ён казаў: „Мяне пакінеш, дзе знайду заспакаенне?
Але бачу што не ўступіш, колькі-б не маліў цябе.

Кіраваць пасля ўладара?! Дзе ў мяне такая сіла?
Лепш маўчы, бо я не здольны працы выканаць такой.
Калі-ж ты мяне пакінеш, супакой мне дасць магіла.
Разам рушым у дарогу! О, вазьмі мяне з сабой“.

Адказаў: „Тваё рашэнне, хай мне будзе воляй брата.
У каханні адзіноцтва захавай на век сваё.
За цудоўны пэрл даецца дарагая вельмі плата,
А хлуслівому і злому сэрцу хай пратне кап‘ё.

Я табе сакрэт даверыў, будзь патронам, ўладарствуй,
Болей блізкага не маю, замяніць цябе хто-б змог.
Не пускай чужынцаў блізка, умацуй граніцы царства,
Можа я яшчэ вярнуўся, не загубіць калі бог.

Аднаго і сотню нішчыць час ліхі і перакорны.
І адзін бяду я знішчу, бог падмога ў барацьбе.
А тры годы не вярнуся, надзявай ты траур чорны...
Дам загад аб тым, што знатных падпарадкую табе!“

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.



Бюст Шота Руставелі з помніка, які будзе адкрыты ў Тбілісі ў часе святкавання 750-годдзя з дня нараджэння паэта.

## ВЯСЕЛЛЕ АЎТАНДЗІЛА І ТІНАТІН З БЛАГАСЛАВЕННЯ ЦАРА АРАВІЙСКАГА

Аўтандзіл сядзеў на троне уладарцам абвянчаным,
Побач—Тарыэль прыгожы, гонар усяе зямлі.
Для вачэй былі уцехай Тінатін і Дарэджана—
Быццам, неба бліжай стала, сонцы два на дол сышлі.

Па загаду ўладаровым на вяселлі пір няспынна,
Рэзалі быкоў, авечак. Він найлепшых пеніў сок.
І прынеслі госцям важным царскія дары па чыну.
Засланіць царыц двух ззянне, нават месяц бы не мог.

Кубкі роблены з тапазаў, ды ружовыя каменні.
Бляск вясёлкавы на посуд разліваўся цераз край.
Хто уславіў-бы вяселле, гэты пір, задаваленне?!
Кожны мог сказаць бы сэрцу: „Тут застанься і гуляй!“

Музыканты напаўнялі залу гукамі кімвалаў,
І як горы вырастала золата, чырвоны лал.
Рэчкай беглі, гралі віны Ростэванавых падвалаў,
З рання пір ішоў да ночы, ды і ноччу не змаўкаў.

Надарылі ўсіх калекаў, гэтак шчодра, быццам сонца.
Ад усіх бакоў, бы градам жэмчуг дораны спадаў.
Бралі ўсе без перашкоды і атласы, і чырвонцы.
Тарыэль як макрыён там, трое сутак піраваў.

Дзень яшчэ ішло вяселле. І уважліва з гасцямі
Ростэван сказаў вянчаным: „Даражэй вы сонца нам!
О, дзівосная царыца і ўладарац над царамі,
Зрэжце нам на завушніцы, хоць падковы, як рабам!

Нам не месца побач з вамі, о, вялікі уладар мой“!
Трон паставіў Тарыэлю—упрыгожанне двара,
А ніжэй ледзь—Аўтандзілу і царэўне сонцатварай.
Падарункі з дзіўных коштаў выраслі, як гара.

Каб прыняць найлепш прыезджых, Ростэванавы клапоты.
Частаваў гасцей ўважных, быццам іх прыслужнік ён.
Надараў сяброў дарамі і плыла хвала шчадротам.
З Аўтандзілам, роўны санам, побач пасядаў Фрыдон.

Ростэван для маладых усё аддаць гатовы, шчыра.
„Даражэй мне сына храбры і адважны, слаўны зяць“!
Кожнаму ён даў карону, скіпетр, пышную парфіру,
Не злічыць дароў вялікіх, і пяром не апісаць.

Маладым даў дар, каб шчасце у жыцці для іх гарэла,
Камянёў Романні многа, што пылалі бляскам зор,
Тысячу жамчужын буйных, быццам яйкі горліц белых,
Коней тысячу арабскіх, іх бакі—як схілы гор.

Атрымаў Фрыдон дарунак—камянёў каштоўных ўсякіх,
З сёдламі і зброяй дзіўнай, дзевяць коняй вараных.
Тарыэль цара Ростэна усхваляў як мог падзякай,
І хоць выпіў ён нямала, а не быў п'яней другіх.

Цэлы месяц піравалі і ні раз ніхто не кінуў
Царскі двор. Гасцей індыйскіх круг прыдворных забаўляў.
Тарыэля абсыпалі градам полымных рубінаў
І яны святлей за сонца асвятлялі царскі зал.

Тарыэль, падобны ружы, што ліасткамі прамяніцца,
Просіць перадаць Ростэну: „Рады вечна быць з табой,
Ганаруся шчасцем гэтым, але мушу разлучыцца,—
Пала Індыя і вораг пасціць статак свой на ёй.

Выгнаць ворага патрэбна і адвага і уменне.
Мы гаруем, наша гора ты адчуеш у сабе.
У паход ісці мне трэба, небяспечна тут спазненне.
У здароўі добрым, божа, дай убачыць мне цябе!"

Цар прамовіў: „Нерашучасць ўладару зусім не слава.
Так рабі як лічыш лепей, сілы ўсе свае агледзь.
Аўтандзіл з табою пойдзе, каб разбіць усіх хатаваў—
Тых, хто меч узнёс над Індам, пасылае беды, смерць".

Аўтандзіл цару індусаў у сяброўстве вечным кляўся.
Тарыэль-жа просіць друга: „З Тінатін павінен быць,
Ты не мусіш адлучыцца, Сонца з Месяцам застанься!"
Адказаў той: „Ты не можаш тут мяне адгаварыць!

І калі адзін паедзеш, мне пашлеш дакоры ясна:
„Закахаўшыся, парушыў свае слова, бачыць свет!"
Я разлучаны з табою, пракляну свой лёс няшчасны,
Хто ў бядзе пакінуў друга, сам пазнае многа бед".

Тарыэль сказаў з усмешкай, асвятліўшы твар крыштальны:
Развітаўшыся з табою, дзе знайду спакой мой, брат,
Не падумай, што хлушу я! Будзь са мной ў дарозе дальнай!"
І спаспет аб зборы войска неадкладны даў загад.

І на кліч прышлі дружыны, духам смелыя, нязменна,
Восемдзесят тысяч конных—у брані бліскучай радь.
Воіны былі і коні ў хварэзмійнскім ўзбраенні.
Цар арабаў зажурыўся: трубы сталі збор іграць.

Серп ад месяца і зоры загараюцца над светам,
Іх прыкмеціць лёгка можаш, толькі ўгледзься у прастор,
А калі світанне блісне, разлучаюцца планеты,
Хочаш зноўку іх убачыць—узыйдзі на высі гор.

Так зямлі вялікай творцу, плач дарэмны не расчуліць,
Разлучае два свяцілы, як планеты дня святло—
І дзяўчына да дзяўчыны ружу вуснаў к вуснам туліць,
Ды праводзячыя плачуць, апускаючы чало.

Кажа так Нестан: „Сястрыца! Лепей-бы цябе не знала!
Разлучыўшыся з каханым, еду я ў далёкі край,
Мне адказ давай на пісьмы: што ты сэрцам адчувала,
Па табе, у смутку, чэзну,—свечкаю па мне згарай!“

Тінатін ў адказ: „Ты сонца між сінеючага неба,
Будзе цяжка мне, як рушыш у дарогу ты сваю.
Хай пазбавіць бог дыхання—земных мне пацех не трэба.
А табе гадоў дасць столькі, колькі слёз я пралію“.

Цалаваліся як сёстры перад ростанню сумотнай,
Тінатін ад Дарэджаны воч не ў сілах адарваць.
Тая смуткам апавіта, паглядае так журботна—
І дзесятай часткі гора мы не можам перадаць!

Ростэван на развітанні, пасылае небу пені:
„Гора мне“!—ён уздыхае, на яе глядзіць услед;
Слёзы коцяцца па шчоках, быццам брызгі пры кіпенні
Сам агорнуты тугою, пасылае ёй прывет.

Тарыэлю, цар арабаў кажа так, цалуе шчокі:
„Не са мной ужо цяпер ты, як бы я і не таіў,
Гора вырасце раз дваццаць як паедзеш ў край далёкі,—
Ты прынёс жыцця нам радасць, ты-ж на смерць нас і прыбіў!“

Тарыэль з царом, з сынамі той краіны развітаўся,
Слёзы вылітыя імі ручаямі беглі ўдаль.
Гаварылі Тарыэлю: „Ты як сонца сцяг узняўся!“
Адказаў ён: „Плачу з вамі. Больш нешчасны я чым Сал“[1]

Рушылі за раццю раці, а за імі ўслед абозы,
Першыя—Фрыдон магутны, Тарыэль і Аўтандзіл.
Восемдзесят тысяч конных, не зважаюць на пагрозы.
Б'юцца, як адно, тры сэрцы, мэта ў іх адна зусім.

Чвэртку году ваявалі. Гэткіх віцязяў не зналі
У цэлым свеце. Больш ніколі не устане вораг зноў.
І ў шатрах адпачывалі стэпам стаўшы на прывале
І пілі не пахтаціну за бяседай, а віно.

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА.*

05
05/18574

[1] Сал, як відаць герой твору, не дайшоўшага да нас.

## Грамата Аўтандзіла васалам

Напісаў: „Мае васалы, беспрыкладныя ў служэнні,
Вы настаўнікі і кожны, мной праверaны, як друг.—
Ад маіх шляхоў і думак неадрыўныя, як цені,
Слухайце маё пасланне, у палацы сеўшы ў круг.

З праху створаны, смяротны, я абдумаў завяшчанне,
Як мае праводзіць справы,—ўласнаручна я пішу.
Лепш спаборніцтвы, банкеты чым самотны час выгнання,
Лук і верная страла мне супакойваюць душу.

Дом гаспадара пакінуў і прасторы свайго края,
Год прабуду, як вандроўнік смутны, ў старане чужой.
Аб адным прашу, васалы, з верай вас я аглядаю,—
Хай не будзе ваша царства пад варожаю пятой!

Пакідаю Шэрмадзіна даглядаць мае ўладанні,—
Хай мяне не забывае, буду мёртвым, ці жывым.
Хай прыбліжаных ён песціць, як прамень—руж красаванне
Хто зграшыць, хай іх прымірыць, хай разгоніць зло як дым

Узгадованаму мною, што мілей радні і брата,
Вы служыце, як патрону, будзьце верныя заўжды.
Кіне кліч прызыўны—будзьце гордай мужнасцю узняты,
Праз тры годы не вярнуся, вы аплачаце тады".

Муж, заўсёды красамоўны, скончыў ён сваё пасланне,
Стан у золата абвіў ён, боль разлукі перамог.
Воінам сказаў: „Раздзеліць конь са мною вандраванне!"
І, не бавіўшыся доўга, з родных выехаў дарог.

Загадаў: „Дамоў вярнуцца! Без аховы я паеду".
І без слуг сваіх астаўся, прад няведамым—адзін.
Павярнуў каня, праехаў стэп туманную без следу
І была, як смерць адзіна ў смутным сэрцы Тінатін.

Ад пакінутай дружыны адыходзіў быстрым скокам.
Хто бы мог за ім угнацца, хто бы змог яго спыніць?!
Нават меч чужы нястрашным быў яму ў шляху далёкім,
Толькі дума аб каханай, як цяжар на ім ляжыць.

Вечарэла калі слугі прыляцелі з палявання,
Не засталі Аўтандзіла—ён пакінуў родны дом;
Агарнула іх самотнасць замест ветлага спаткання
І дарэмна паскакалі панскі след шукаць вярхом.

„Хто-б нас вёў, табе на змену, не чакаем мы ад бога!.."
Прыязджалі верхавыя абскакаўшы стэп і лог,
Ды былі бясплодна імі ўсе аб'езджаны дарогі.
Рацъ, адданая паўсюды, пралівала слёз паток.

Шэрмадзінам паскліканы—ўсе сышліся у палацы,
Разгарнуў ён доўгі скрутак, стаў прыбліжаным чытаць.
І праслухаўшы маўкліва завяшчанне уладарца
Рвалі вопратку, ад гора сталі грудзі агаляць.

І сказалі Шэрмадзіну: „Не жыццё без Аўтандзіла!
Раз табе палац, багацці даручыў дык мы з табой—
Будзем мы тваіх загадаў шанаваць закона сілу“.
І слугу яны прызналі уладарцам над сабой.

*Пераклаў* АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.

## Малітва Аўтандзіла ў мячэці і патаемны ад‘езд

Як збіраўся вандраваць ён, то аплакваў сваю долю.
Полаг ночы аравійскай дол і горы атуліў.
Тыя, хто бяду спазналі, няхай неба шчыра моляць.
Аб удачных днях ў мячэці бога Аўтандзіл маліў.

Ён прасіў: „О, творца неба, вод і земляў неабсяжных,
То дабра, то зла падаўца, як нясталы гаспадар!..
Памажы суняць жаданні, невядомы, недасяжны,
Над ўладарнымі ўладарны, таямніц людскіх ключар!

Пад тваім загадам, божа, усе нетры, усе высі!
Паліш ты каханнем сэрцы, напісаўшы свой закон.
Свет прымусіў, каб з дзяўчынай я навекі разлучыўся—
Дык няўжо каханне з сэрца злосна выкінеш ты вон?

Божа, божа, чаша шчасця! Ты апора мне зямная—
Калі мне, рабу паможаш, буду цэлым і жывым.
Ухілі ад помсты, штормаў, ухілі ад лютай зграі,
Захавай мяне, да неба я ўзніму ахвярны дым.“

Памаліўся і прышпорыў ён свайго каня. Пры браме
Развітаўся з Шэрмадзінам, каб пакінуць, занядбаць.
Шчокі драў слуга нагцямі, кроў агнём паліла камень,
Як няма патрона дома—хто парадуе раба?

Ён прасіў: „Жыцця свяціла! Засмуціўся дом твой ценем,
Пры адходзе ўсходу сонца ты тугу і змрок прынёс.
Я для стрэл, што сэрца раняць, стану вернаю мішэнню,
Замест радасці і шчасця буду ліць крыніцы слёз!“

## Зварот Аўтандзіла і Тарыэля ў пячору і сустрэча з Асмат

Нахіліўшыся да друга, Аўтандзіл стаяў з жальбою.
Упрашаў: „Не муч ты сэрца! Ужо спаткання блізка час.
Няхай грозбіць лёс напасцю,—літасць госпада з табою,
Не разлучаны на век мы—бог ізноў звёў разам нас.

Укаханых ловяць беды. Не ўцячы ад х пагоні!
Той, хто піў жыцця гаркоту, будзе мёд салодкі піць,
Ёсць у каханні небяспека, вельмі блізкая к бяздонню.
Мудраца яна абдурыць, прасцяка навучыць жыць“.

Праклīналі лёс свой горкі, як вярталіся ў знямозе
І Асмат паспешна вышла, каб сустрэцца пад гарой.
Плакала, дажджом вясновым з воч ліліся шчасця слёзы
Цалаваліся сябры з ёй, як браты з сваёй сястрой.

І Асмат сказала: „Божа, над людзьмі ўладар ўладарны,
Паўната ўсяго зямнога, хто свяцілам ход прыдаў,
Да цябе няхай хваленні дымам ўзносяцца ахвярным!
Ты аблітую слязамі на пагібель не аддаў.“

Тарыэль адказ даў сумны: „Грудзі раніць мне сякіра.
Пасылае жыццё ўдачу, а за ёю шле бяду.
І спрадвеку так вядзецца ў неабсяжнай свету шыры!
Па табе бядую, сам-жа ў смерці радасць я знайду.

Вадой плюхацца ў час смагі неразумна і не можна.
Я-ж слязамі палiваю памярцвелыя лугі.
Сам ад смагі ўміраю, плачам дзень страчаю кожны,
А на вуснах ружа вяне ад самоты і тугі!“

Погляд Аўтандзіл пахмурыў, успомніў любую дзяўчыну:
„Без цябе сумую цяжка, о каханая мая!
Быць з табою мне ў разлуцы усёроўна што загінуць.
Хто уцяміць, ў якім пекле зношу здзек, пакуту я?!

Ружа ведае, што звяне, калі сонца ўкрыюць хмары!
Мы сумуем, калі сонца з воч схавае ночы мгла.
Трэба сэрцу быць гранітам, каб знясці цяжар, удары,
Каб душа для стрэчы з мілай захаваць сябе магла!“

Несуцешных пабрацімаў уцінаў боль з новай сілай.
Скуру тыграву ў пячоры разаслала ўжо Асмат.
Сесці стомленых з дарогі далікатна папрасіла.
У пячоры вуглі тлелі. Гаварылі сябры шмат.

На ражэнчыку дзяўчына скваркі смажыла паволі.
Ежы скромнае без хлеба асудзіць ніхто-б не мог.
„Еш!“ прасіла Тарыэля, глянуў ён гідліва, з болем,
На паспыт узяўшы мяса, злосна выплюнуў кусок.

Люба гутарку праводзіць, калі слухае таварыш,
Шмат былое навучае, як на свеце далей жыць.
Прамінуць бяда і смутак, знікне дым былых пажараў,
Пра мінулыя напасці ўжо няма чаго тужыць,

Нібы львы, сябры-героі гэтай ноччу разам спалі.
Усе беды расказалі, што каханне ім дало.
Пра мінулыя трывогі ранкам новым ўспаміналі
І гарачай шчырай дружбай сэрца кожнага цвіло.

Кажа Тарыэль сабрату: „Будзем гутарыць не многа.
За тваю мне дапамогу дасць аплату табе бог.
Ці ты знаеш цану клятвы, што друг другу даў надоўга?
Ці кахаеш ты так моцна, каб граніт ўстаяць не мог?

Вельмі строгі ты са мною! Я і так у агні пякельным!
Памятай, што сэрца паляць не ад крэсіва агні.
Сам згарыш ў іх падуладны волі лёсу, як смяртэльны.
У край вярніся свой, Свяціла лічыць ўжо спаткання дні.

Мне і бог не дапаможа—сэрца полымя агнісцей.
Хто слух мае—няхай чуе: ад спраў дрэнных я уцёк,
Што дано рабіць разумным, тое я рабіў калісьці,
А цяпер мае шаленства атруціла мне жыццё.

Аўтандзіл яму адказ даў: „Не судзі сабрата строга—
У тваёй размове, дружа, мудрасці няма мяжы.
Ну, няўжо няма лякарства для сардэчных ран у бога,—
У таго, хто даў збажынам праз насенне права жыць?

Ведай, што пазбаўлен ўцехі ты са згоды цара неба.
Ён разлуку даўшы з любай, кінуў ў дальні край цябе.
Што з каханнем зліты беды, памятаць смяротным трэба.
Зноў-жа ты царэўну ўбачыш—ў гэтым клятву дам табе!

Не мужчына, хто ў няшчасці на зямлю лажыцца з плачам,
Не схіляйся перад горам, лёс да шчасця прывядзе.
Ведай ты, бог літасць мае, хоць ён суліць няудачы.
Мудры муж і ў бедах стойкі, мул-жа хіліцца ў бядзе“.

Адказала: „Непахісны! Такім трэба быць мужчыну,
Тым ты служыш, што у дружбе клятву вернасці даў мне.“
І яна дазвол дала мне ўладара свайго пакінуць.
А калі цябе пакіну, трусам назаве мяне.

Слухайся маёй парады! Стойкасць захавай і сілу!
Храбрых, што ўчыняюць подвіг, стрэнуць шчыра кожны рад.
Але сумна вяне ружа, калі тухне жар свяціла—,
Сам сабе не дам я рады—памажы ты мне як брат.

Шлях трымай куды захочаш згодна волі і жадання,
Хочаш, будзь спакойна мудрым, хочаш бурамі жыві,
Дабратой сваіх паводзін і прыгожым стройным станам,
Усіх чаруй! Ніколі-ж воскам ты расталым не плыві!

Не прашу цябе аб многім: захавай на год цярплівасць:
Буду ведаць ўсё на свеце, калі свет аб'еду сам.
Вяшчуном дабра вярнуся ў час вясновы, час шчаслівы.
Будзеш рад мне, як вандроўнік рад агню і брэху пса.

Калі кончыш пэўны тэрмін і не стрэнешся з удачай,
Ведай, я ляжу змярцвелым, навісае ўсюды цень.
Пабядуй, што я нябожчык, адвядзі душу на плачы,
Потым, хочаш—весяліся, ці крэп траурны адзень.

Не судзі мяне за словы і прашу я прабачэння!
Скажа хто, нясе што гібель—конь, пясок ці парусы...
Не магу маўчаць, мой друже, як бязмоўнае стварэнне.
Мне не ведама, што бог дасць ў царстве зор і іх красы.

Тарыэль яму адказ даў: „Не хачу таміць размовай.
Ты не ўцяміш сэнса словаў, трэба гутарку спыніць.
Не схіліў на свой бок друга, дык ідзі з ім шляхам новым,
Каб з таго што патаемна, усё-ж завесу адхіліць.

Ведай ты, што у вандроўцы беды я нясу зямныя,
Для мяне цяпер ўсёроўна—ці быць дома ці ісці.
Як загад, тваё жаданне! А ў душы боль глуха ные.
Калі ты мяне пакінеш, больш не стрэнемся ў жыцці.

Кончылі яны размову, клятву дружбы паўтарылі,
Ў полі чыстым шмат дабычы білі меткаю стралой.
Як вярнуліся ў пячору, аб мінулым гаварылі.
Напярэдадні разлукі было крыўды многа злой.

Вам, што чуюць сказ мой гэты, слёзы позірк хай туманяць!
Сэрца з сэрцам пры разлуцы акрываліцца не раз.
А разлука з блізкім другам чалавека моцна раніць.
Не спазнаўшы, не ўсвядоміш, які цяжкі гэты час?!.

Як зірнула сонца ўсходу, селі віцязі на коней.
Слёзы горкія ліліся ліўнем на дыван травы.
Твары ў драпінах глыбокіх затулілі іх далоні,
І, здавалася, што ў смутку азвярэлі людзі-львы.

Наракаючы на лёс свой, ад'язджалі ад пячоры.
„Львы!"—Асмат гукнула зычна.—„У чужыне цяжка жыць!
Абласканыя каханнем! Успамяну я вас у горы!
Адчуваю я напасці. Няма з кім без вас дружыць!"

Ехалі ўвесь дзень героі незнаёмымі шляхамі.
Прыбылі на бераг мора—тут наладзілі папас.
Ноч не спалі, гаварылі пра пакуту, што, як камень,
Грудзі ціснe, раніць сэрца ў развітання цяжкі час.

Аўтандзіл сказаў з дакорам: „Сохне слёз ручэй бяздонны.
Як ты мог забыць пра друга, які даў табе каня?
Пра палонную змаглі-б мы ўсё-ж давядацца ў Фрыдона,
З тым, хто страў красуню-дзеву, ўбачыцца хацеў-бы я“.

Тарыэль ізноў успомніў тое, што даўно мінула.
Усё, што ведаў расказаў ён пра Фрыдонаў родны край.
„Шлях туды ідзе да ўсходу, бераг поўніць мора гулам.
Пра мяне раскажаш шчыра, калі ўбачыш там цара.“

На зямлі агонь расклалі, на ім смажыць сталі серну.
На траве паселі снедаць, страва ў горла не ішла.
Ноч апошнюю праспалі пад шатром дрэў неабмерных,
Праклінаалі свет, што суліць то дабро, то горкасць зла.

Немінучая разлука. Росквіт зазіяў туманны.
Словы іхнія смяротных агарнулі-б ў смутак, жаль.
Слёз патокі праліваалі, нібы лівень над палянай.
І ў абдымках з грудзьмі грудзі ў сплаў зліваліся як сталь.

Разышліся з горкім плачам раздзіраючы ўсе шчокі.
Тарыэль памчаў на Захад, друг на ўсход каня пусціў.
Галасы гучалі доўга ў асацэ густой, высокай.
Развітальны кліч герояў нават сонца засмуціў.

*Пераклаў* АЛЕСЬ ГУРЛО.

*Ю. Віцьбіч*

# МАРЫЛЯ

I

Раней чым выстраліць сабе ў скрыўлены нянавісцю рот, ён, цёпла ўсміхаючыся, выкладаў гісторыю нашай краіны. Мне даўся ў знакі гэты падкалодны гад з позіркам лані і нутром рысі. Як цяпер чую яго лісліві голас:

— Уявіце, дарагія юнакі і дзяўчаты, мінулае-даўняе роднай старонкі. Вы ўбачыце тады пекную дзяўчыну з вачыма быццам васількі.

Тут выкладчык радасна кракаў, як радасна кракае, заўважыўшы балота, начная выпь і паказваў на вокны аудыторыі. А за тымі вокнамі, насупраць нашага педагагічнага тэхнікума, высіўся над горадам вялізны, ад старасці амшэлы касцёл.

„Архітэктура—застыглая музыка“—сказаў, дарагія юнакі і дзяўчаты, паэт. І от у мурах гэтага гмаху захавалася музычная душа дзяўчыны. Паглядзіце, як імкнецца ён быццам сімхвонія угору. Гэта сімхвонія, дарагія юнакі і дзяўчаты, створана вольнымі будаўнікамі з самабытных песень—псальмаў беларускай зямелькі.

Мы слухалі выкладчыка, здзіўляліся вонкаваму бляску яго лекцый і не адразу змаглі агаліць іх сапраўдны змест. Нам, дзецям парабкаў, касцёл упарта нагадваў недабітага магната, а пахілыя хаты вакол касцёла—мінулае нашых бацькоў.—Чаму гэта расчуляцца?—думалася нам, але мы раслі разам са сваім горадам і, нарэшце, сціскаючы кулакі, усё зразумелі.

Горад раней цягнуў, як цягне чорны вол ярмо, імя аднаго з былых каралёў. Рэволюцыя скінула з яго натруджаных плячэй пяцісотгадовую мянушку. Цяпер ён з гонарам нясе імя свайго забітага балахоўцамі вайсковага камісара з тутэйшых кажэмякаў. Калі я вучыўся на першым курсе тэхнікума, раскіданыя хаты горада злучыла правадамі электрастанцыя. Калі перайшоў на другі курс—над горадам вышэй за крыжы касцёльных званіц узняліся каміны скурзавода і лесапільні. Калі заканчваў трэці, адправілі апошняе набажэнства ксёндз і апошнюю лекцыю выкладчык. Не дарэмна змагаўся і загінуў вайсковы камісар.

Горад усё-ж рос хутчэй за нас, бо, пачуўшы стрэл, я яшчэ крыху пашкадаваў красамоўнага самазабойцу.

Пакінула атрутны след невядомая вучоба, але свядома не праводзіў труну да магілак. У той дзень я працаваў у касцёле. Будынак прыстасоўвалі пад кіно-тэатр і мне прапанавалі правесці ў ім электрычнасць.

Ад партала праводка накіроўвалася па лесвіцы на хоры, каб запаліць там замест грамнічных свечак вольтавыя дугі. Я біў мо-

латам па зубастаму жалезнаму шлямбуру, прабіваючы ў сценах дзіркі. Потым у дзіркі заганяў дзеравяныя шпунты для ізалятараў, а па ізалятарах усё вышэй і вышэй поўз провад. Старадаўняя цагляная кладка супраціўлялася жалезу, як бетон. Таму, падняўшыся разам з провадам да пляцоўкі, я спыніўся адпачыць. І тут мяне зацікавіла вялікая карціна на сцяне:

Па ружовай ад лаўра дарозе ідзе ў бялейшым за лілії хітоне Хрыстос. На твары яго пануе ўсеабдымная любоў. Над галавой звісае сіняе неба Галілеі—празрыстае і спакойнае. А пад ногі падсцілаюць анёлы пояс з надпісам:

ХТО ЗМОЖА АБВІНАВАЦІЦЬ МЯНЕ Ў ГРАХАХ?

*Іоан.*

Праводка ішла проста на карціну і я, шкадуючы працу мастака, збочыў, пачаўшы прабіваць дзіркі над галавой Хрыста. Мускулы мае адпачылі, але цэгла супраціўлялася яшчэ больш, як раней. Цяпер з кожным ударам грымеў увесь касцёл. Я біў без пярэрвы, біў з усёй сілы і нечакана паляцеў на падлогу. Я не вераваў у бога, каб падумаць, што гэта ён скінуў мяне ўніз. Таму сціснуўшы ад болю зубы зноў упарта палез на памост.

У сцяне чарнела дзірка. Мой шлямбур праскочыў праз сцяну, прымусіўшы мяне згубіць роўнавагу. Мне прыгадаліся словы выкладчыка пра скарбы і я радасна пачаў пашыраць дзірку. Потым нецярпліва прасунуў галаву ў вузкую прабоіну і адразу-ж з крыкам рынуўся да вокан.

Крык мой ускалануў увесь горад. Да касцёлу бег адусюль народ. Калі першыя людзі ўзбеглі на пляцоўку, ім здалося што я звар'яцеў. Сапраўды, хіба не нагадвае вар'ята юнак, які толькі што крычаў, заклікаючы на дапамогу, а цяпер моўчкі, не адказваючы на пытанні, знішчае молатам карціну? Я ўсё-ж выціснуў з сябе некалькі адрывістых слоў і таварышы таксама рынуліся ламаць затулены мастацкай брахнёй склеп. І неўзабаве мы разам трапілі ў сярэднявечча нашай краіны.

## II

Па хісткіх рыштаваннях моўчкі падымаліся закутыя ў жалеза будаўнікі. Схіліўшыся чубамі амаль да самых лесвіц, шырока расстаўляючы ногі пакуль толькі дазваляў ланцуг, яны цягнулі ў козах за плячыма плітняк і цэглу. Праз дзіркі калісьці сініх кунтушаў і чырвоных шараварау віднелася цела. Па голеных тварах, парэзаных маршчынамі і шрамамі, цуркамі каціўся пот. Нечакана адзін з казаносаў паслізнуўся і з крыкам паляцеў уніз. Уздрыгануліся яго суровыя таварышы, ураз загрымелі кайданамі, але не спыніліся. Толькі калі на версе скінулі з сябе цяжар тады зірнулі, засмучоныя, уніз і самы стары, з доўгімі сівымі вусамі, перахрысціўшыся, сказаў:

— Божа наш гайдамацкі, прымі да сябе слаўнага лыцара войска запарожскага. Хадзіў ён яшчэ з гетманам Сагайдачным да турэцкіх берагоў вызваляць нявольнікаў з цямніц Трапезунта

і Кафы, выразаў ён разам з Тарасам Трасілам у Карсуні тры харугві ляшскіх жалнераў, біў ён разам з Хмельніцкім пад Жоўтымі Водамі магнатаў і сёння загінуў у палоне, будуючы касцёл папам—супастатам. Адказакаваў дзед Стэцка Гамалея.

І раптам застагнаў стары. Неўзаметку падыйшоўшы гайдук з усёй сілы ўдарыў яго бізуном.

— Што на сеймік сабраліся, багданавы недабіткі?! А можа раду трымаеце? Зараз-жа па цэглу! А табе, Шугалей, за сталыя твае прамовы, каб язык не падрэзалі!

— Гэй, халуй!—крыкнуў з боку малады муляр, пачырванеўшы ад абурэння.—Не чапай Шугалея. Ты-б з ім лепш спаткаўся самна-сам пад Жалезнымі Водамі? А тут над пешым арлом відаць і сарока з калом.

Раззлаваны гайдук рынуўся з бізуном да яснавокага яшчэ бязвусага юнака, але падбегшы толькі пачаў лаяцца:

— Ты глядзі, Харко, каб цябе да казакоў не пасадзілі. Недарма ты з гэтымі недасекамі заўсёды кумпанства трымаеш. Што з таго, калі ты мешчанін? Ці цэхавы? У цямніцы ёсць двухшыйны варшаўскай работы ланцуг—адзін канец яго для казацкай шыі, другі—для мяшчанскай.

А ўнізе ў лужы крыві ляжаў раскінуўшы рукі дзед Стэцко Гамалея. Яго вялікі твар, з бурымі, абветранымі стэпамі і морам, шчокамі, з мокрымі ад люлькі вусамі, адразу зрабіўся попельнашэрым. Дзед канаў, калі да яго падбегла светлавалосая маленькая дзяўчына. Яна скінула з грудзей казака цагліну, выцерла хусткай з яго твару кроў, паклала зручней галаву, зазірала ў патускнелыя ад болю вочы, каб чалавак убачыў яе, бо цяжка паміраць адзінокаму.

— Кадак... Кадак...—прахрыпеў дзед нешта прыгадваючы і застыў, высока падняўшы ўздыхам грудзі.

— Ы-ы-ы, пагарэльцава племя! Да крупнікаў, быдла!—крычаў гайдук, падбягаючы да дзяўчыны, якая толькі што закрыла вочы казаку. Над светлавалосай галавой узляцеў бізун, але не апусціўся. За два крокі ад гайдука ўпала зверху цагліна. Збялелы, ён пабег па рыштаваннях проста да Харко, але нічога падазронага не заўважыў. Надта шчыра клаў юнак цагліну за цаглінай, каб падумаць, што гэта ён шырганўў адну з іх уніз. Нават так ветліва спытаў:

— Пан гайдук спяшаўся паглядзець, як будуецца вежа?—што той заскрыпеў зубамі:

— Прывілейны хлоп. З вежы-б цябе з гэтай.

## III

Увечары, пасля дзённай працы, казакі, седзячы каля цямніцы на агульным ланцугу, пачыналі спяваць. Лягчэй жыць з песняй, лягчэй перамагаць з ёй няволю. Вось і сёння, зірнуўшы на светлавалосую дзяўчыну, якая гатавала ежу казакам і гайдукам, маладзейшы з вязняў заспяваў:

Покинь батьку, покинь мати, покинь всю худобу
Іди з нами казаками на Украйну, на слободу.

І ўсе, пачынаючы ад дзеда Шугалея да юнака Харко, падхапілі:

На Украйні всього много—і паші, і брагі
Не стоять там вражі ляхі, казацькії враги.

Калі песня скончылася, адзін з казакоў сказаў запявалу:

— А не пойдзе, Оверко, з табой Марыля на Украйну. Вось з Харко яна хоць на край света. Глядзі вачэй з яго не зводзіць. Ды і потым яны абодва вольныя, а мы з табой абодва закутыя. Нават гайдукі спяць, як гусей прадаўшы. Нікуды мы не пойдзем, хіба толькі туды, куды пайшоў дзед Гамалея.

Харко, які аб чымсьці ціхутка гутарыў з Шугалеем, пачуўшы словы казакоў, усхваляваўся:

— Вы ў кайданы закутыя, а я вольны мешчанін Харко Ждан у артыкулы Магдэбургскага права. Вы ў цямніцы гібееце, а я ў цэху. Вас б'е гайдук, а мяне цэхмістар, майстар, войт, возны і кожны ўрадавец. Ды вось паслухайце толькі.

Дзесяць год я працаваў на свайго майстра дарма за адны харчы. Паводле ўмовы меўся атрымаць акрамя харчоў яшчэ алтын грошай, жупан, боты, шапку і кушак, але атрымаў фіндос пад нос. Пайшоў спярша, шукаючы праўды, скардзіцца на майстра вознаму. Толькі сказаў:

— Да вашай міласці, пане возны—як той адразу аплявушыў мяне і кажа:

— Не вашай ласкі пане возны, а генерал яго каралеўскае ласкі яснавельможны пан дворны возны. І мае ён заўсёды вэдлуг статутаў справу са шляхтай, з земянамі, а не з мяшчанамі. Калі ты мешчанін, дык ідзі да войта.

Пайшоў я тады ад каралеўскае ласкі генарала да каралеўскае міласці войта са сваёй скаргай і захапіў з сабой індыка, каб зноў аплявуху не з'есці. Пачаў гаварыць аб прывілеях, але войт, узяўшы хабар, адразу мяне спыніў.

— Пэўна ты злачынца які, калі на свайго майстра войту скаргу прынёс? А пра такіх як ты у прывілеі і гаворыцца:

> Войт мае судзіць у розных крымінальных злачынствах і вэдлуг гэтых злачынстваў адсякаць злачынцам галовы, саджаць іх на кол, тапіць, паліць полымем, вешаць.

Цяпер зразумеў, кажа, якое дачыненне маюць да каралеўскай прывілеі індык, мешчанін і войт? Калі-ж ты не злачынца, дык ідзі, кажа, скардзіцца на свайго майстра свайму цэхмістру або бурмістру.

Пайшоў я да цэхмістра і бурмістра, але па дарозе ўспомніў, што першы даводзіцца майму майстру родным бацькам, а другі хросным.

Цяпер як падмайстар вандрую я з кельняй і вінкелем па ўсіх будовах Літвы і Русі. Мурую вось гэтыя гмахі, якія замацоўваюць за мной мае прывілеі на кол і шыбеніцу. І што зробіш—есці трэба, але і на харчы на заробіш. Майстар адсюль павязе дзесяць алтын грошай ды бочку солі, а я, вольны мешчанін, пайду атры-

маўшы некалькі дзенежак, ды скаваролку солі, ды лапці на дарогу. І дарогі гэтыя ўсё бязрадасныя акрамя адной—той што вядзе ў Літоўскі курэнь.

А з Марыляй яшчэ горш справа. Я хаця галодны ды пайсці магу ў другое месца галадаваць, а ёй і пайсці па сваёй ахвоце нельга. Ці-ж не праўда, Марылька?

Дзяўчына ўстала, трымаючы ў адной руцэ бульбіну, у другой нож і збянтэжылася. А казакам здалося, што яны толькі ўпершыню яе заўважылі. Сіняя вада ў вазёрах Полаччыны, зграбныя бярозы ў гаёх Віцебшчыны, а вочы-ж Марылі сіней за гэтыя вазёры і постаць яе зграбней за гэтыя бярозы. Валасы нібы найлепшы кужаль, маленькім ножкам пазайздросціць любая панна. Усміхнуліся гэтай прыгажосці і маладзейшы з казакаў Оверка, і вольны муляр Харко і стары гайдамак Шугалей.

— Можа чулі калі, казакі, у нас на Русі прымоўку „Ой, цяжка, як у Альбрэставе?—запыталася дзяўчына.—Дык вось я Марыля з Альбрэстава, з маёнтку іезуітаў. Раней калі Альбрэстава ўваходзіла ў каралеўскую воласць, мы яшчэ жылі так-сяк, але, як дараваў кароль маёнтак іезуітам, дык толькі і чулі штодня:

На згон, на прыгон па семера з хаты вон.

Мала таго, што зусім замардавалі працай, дык яшчэ штохвіліны здзекаваліся і над нашай верай, і над нашай мовай і над нашымі звычаямі. Вядома, іезуіт і душу выме і скуру здыме.

І, нарэшце не вытрымалі альбрэстаўцы. На чале з маім нябожчыкам бацькам—і старыя, і малыя, і мужчыны, і жанчыны пайшлі на поўдзень да бацькі Антона Нябабы, як птушкі ляцяць да выраю. Пакінулі цяглыя ўсё—і хаты, і худобу. Толькі жменьку роднай зямлі ўзяў з сабой бацька—у мяне яна цяпер, у гэтай ладанцы. Прайшлі ўцекачы не многа, як пачулі з боку:

Наш кароль Баторы слаўны.

Гэта жалнеры пра Батуру—сабачую натуру спявалі. Адбылася лютая бойка. Біліся косамі, аглаблямі, каменнем, кулакамі супроць пішчаляў і шабляў. Вядома, што жалнеры перамаглі, перабіўшы амаль усіх мужчын і жанчын. Пасля катаванняў іезуіты тых альбрэстаўцаў, што засталіся, рассавалі па розных сваіх маёнтках і мяне сюды на будову. Бацьку-ж майму, хай яму пухам зямля, але-ж не ў зямлі ён ляжыць, выпалілі гады на ілбе літары:

ЦЯГЛЫ,

а потым спалілі праклятыя жывым. І цяпер няма ў мяне сваякоў акрамя...

— Акрамя Харко,—хутка дадаў Оверко.

— Анёж!—вырвалася ў дзяўчыны і яна з такой цяплынёй зірнула на муляра, што казак уздыхнуў:

— Оксана. Садок ты мой вішнёвы. Горліца ты мая ясная.

— Куды Харко туды і я,—гаварыла Марыля,—але-ж і вы мае сваякі. Таму я надоечы і падбегла да дзеда Гамалеі, за што мяне гад гайдук і назваў пагарэлага племям. Хацелася мне палягчыць яго пакуты. Цяжка, дужа цяжка паміраў ён. Усё нейкі Кадак прыгадваў.

— Кадак?—перапытаў стары Шугалей, набіваючы люльку, і доўгія вусы яго ўздрыгнулі.—Эх, Стэцко, небарака Стэцко! Не давёў табе бог зноў пасмакаваць нашай запарожскай самлаты, не давёў табе бог зноў біць ляхаў і паноў іхных, як сабак. Ці для таго ты разбураў Кадак, каб зноў яго будаваць? На сваю галаву будаваць!—і дзед схапіўся за левы бок, дзе калісьці вісела сапраўдная казацкая жонка-шабля.

Шмат ворагаў ёсць, сынкі, у нас—і Оттаманская Порта і Крымскае ханства, але вораг з ворагаў, стары і заядлы вораг—гэта Рэч Паспалітая. Дзе яна праходзіць, застаюцца толькі попел і кроў. Амаль сто год змагаліся слаўныя лыцары запарожскія за свае звычаі і сваю веру. Нарэшце Польшча рашыла іх канчаткова зьнішчыць.

На правым беразе Дняпра, там дзе грымяць Дзід і Ненасыцец, гетман Канецпольскі пабудаваў моцную крэпасць Кадак, а гэтым самым павесіў замок на дзверы вольнай Сечы. Выйдзеш раніцой з нашага чыгірынскага курэня, а на цябе ляшскія гарматы глядзяць. І быў я, Хома Шугалей, і нябожчык Стэцко Гамалея быў, калі камендант крэпасці палкоўнік Марыон спытаў з ухмылкай сабацкай у тады яшчэ сотніка Хмельніцкага:

— Як, казак, ці падабаецца табе Кадак?

А бацька Багдане яму адказаў, як бердышам рубануў:

— Што рукамі будуецца, тое рукамі і руйнуецца.

І сапраўды праз некалькі год казакі разам з кашэвым Сулімой разбурылі Кадак. Ой-жа і разлютаваліся мы тады, аж парудзеў ад крыві Дняпро. І быў я, Хома Шугалей, і нябожчык Стэцко Гамалея быў, калі мы па каменнях расшвыргалі крэпасць і забілі самога каменданта. І пра гэтую слаўную справу кабзары спяваюць:

Як прыйшоў Суліма<br>Кадака нема.

А цяпер вось зноў апанавалі ляхі і Украіну, і Русь, як тыя вошы. Мы самі пад прымусам будуем Кадак, але калі не мы дык дзеці нашы, не дзеці дык унукі, не ўнукі дык праўнукі разбураць да рэшты і гэты Кадак.

— Мы яшчэ мусім разбурыць—заўважыў Харко.—Тады лепшае жыццё пачнецца.

— Што лепшае?! Дзе лепшае жыццё?—раптам загарлаў, прачынаючыся, адзін з гайдукоў і Оверко ў адказ зацягнуў:

На Україні суха рыба із шапранам<br>Будзеш жыці з козаком, як з панам.

Як адзін, падхапілі казакі:

А ў Польшчы суха рыба із вадою<br>Будзеш жити с вражим ляхам, як з бідою.

Супакоіліся зноў гайдукі, бо да Украіны далёка, а польскія кайданы моцныя. Яны і не чулі, як Харко сказаў запявалу:

— Не сумуй, Оверко. Неўзабаве ўсе разам пойдзем да Украйны— і ты, і я, і дзед Жугалей і Марыля. А там ты пабачыш і сваю Оксану.

Нават аслупянеў казак.

— Што ты кпіш з мяне, Харко?

— А вось пабачыш. Неўзабаве пойдзем.

IV

Ці ёсць на свеце больш прыгожыя дываны, як беларускія лугі ўлетку? Якіх толькі кветак на іх не знойдзеш. Вось любжа-трава, але навошта яна Марылі. І без любжы кахае яе Харко ды як яшчэ кахае—цалуе, мілуе, на руках носіць. А вось і чорнаглоў—трава з шэрымі, нібы абпаленымі полымем кветкамі, з вузкім, калючым лісцём, падобным на змяіныя языкі. Менавіта гэтую траву дзяўчына і шукае. Не каханне, а смерць нясе яна. Трэба толькі заварыць кветкі ў гарачай вадзе і потым выліць настой у страву. Прыгадваюцца Марылі зацкаваныя альбрэстаўцы, пакутнік бацька, нябожчык Гамалея, кайданы казакаў, прывілеі Харко, Кадак, які будуюць, і яна збірае разам са шчаўем страшную чорнаглоў-траву.

Добра павячэралі ў той вечар гайдукі. Выціраючы з твароў пот, гаварылі Марылі:

— Хаця ты і пагарэлая дачка, а стравы твае магнатам на стол ставіць можна. Проста нехтар.

— А хіба не?—адказвае дзяўчына.—Нават самога караля не грэх пачаставаць—а пра сябе думае—памінайце, гады, майго бацьку. Памінайце дзеда Гамалею. Памінайце ўсіх закатаваных вамі.

Елі гайдукі шчаўё як не ў сябе, а праз некалькі хвілін ляжалі непарушна, хто на падлозе, хто пад сталом, з шэрымі як кветкі чорнаглоў-травы тварамі, з выпучанымі вачамі. Хіба закрывае хто вочы здохлым сабакам?

Харко і Марыля абшуквалі кішэні гайдукоў. Нарэшце ў аднаго з іх яны знайшлі ключы ад кайданоў і ланцугоў. Неўзабаве казак скінулі з сябе жалеза і ўсе разам рушылі да Сечы.

— Трэба падпаліць касцёл,—сказаў Харко.

— Не чапай—адказаў дзед Шугалей.—Збягуцца з горада на вогнішча, а нам трэба паціху прайсці за ноч, як мага далей.

Але хіба стрымаеш юнака? Адну толькі іскру высек ён з-пад крэмяня і ад гэтай іскры полымя ахапіла ўвесь касцёл.

Прайшлі шмат, калі Марыля схапілася, што забылася сваю ладанку.

— Навошта табе гэта жменька?—даводзіў Харко.—Наша зямля цяпер там на поўдні.

— Я хутка. Пачакайце мяне крыху—адказала Марыля.

Дарэмна чакалі яе казакі і Харко. На вогнішча спяшаліся з гораду айцы іезуіты, майстры, жалнеры. Калі яны, здзіўленыя бязлюддзем, убеглі ў пакой гайдукоў, ад іх рынулася да вакна дзяўчына, прыціскаючы да грудзей ладанку. Дарэмна чакалі Марылю казакі і нарэшце Харко пайшоў да касцёла. Ён бачыў зводаль, як дзяў-

чыну, ужо закутую ў кайданы, вялі жалнеры. Ззаду за ёю, сціскаючы кулакі, ішлі яе гаспадары іезуіты. Не вытрымаў юнак і з адной кельняй у руках рынуўся на жалнераў. Назаўтра, раніцой, цішком на тым лузе, дзе расце любжа-трава, пахавала муляра мяшчанская галеча.

А Марыля?

## V

На плітах затуленага карцінай склепа мы ўбачылі касцяк з іржавымі кайданамі на руках і нагах. Па шырокаму тазу пазналі жанчыну. Па касе вызначылі, што яна была дзяўчына. Адзенне струхлела. Захаваліся толькі шкуматкі ад зрэбнай спадніцы ды маленькія стаптаныя лапці.

Мы паклалі дзяўчыну ў труну так, каб кожны бачыў кайданы. Потым закідалі яе найлепшымі кветкамі калгасных абшараў. А міма труны праходзілі ў суровым маўчанні—кажэмякі і студэнткі, электраправодчыкі і даяркі, рамшчыкі і трактарысткі. І маткі, праходзячы, падымалі над галавамі сваіх дзяцей, каб яны назаўсёды запомнілі мінулае працоўных нашай краіны.

Мы пахавалі дзяўчыну, закатаваную іезуітамі. Над свежым насыпам першым выступіў старшыня горсовета, які паведаміў нас аб шыфрах польскай дэфензівы, знойдзеных у рукапісах выкладчыка гісторыі. Апошнім выступаў з прамовай я. Не помню добра, што я, задыхаючыся, гаварыў. Помню толькі, што мне прагна хацелася абваліць смуродны цяжар іхнага касцёлу на магілу нацдэмаўскай падлы, на магілу гайдука Рэчы Паспалітай. І помню—прагна хацелася паказаць неўміручасць дзяўчыны ў жывым сучасным.

Прайшло толькі два гады. І, бачыце, каля педагагічнага вучылішча вялікі сквер? Вось тут некалькі стагоддзяў панаваў над горадам знішчаны намі дарэшты і назаўсёды Кадак. А побач са скверам бачыце над ракой ажурную вышку. На вышку падымаецца з песняй на вуснах дзяўчына. Яна толькі што скінула з сябе спецоўку трактарысткі. Я ведаю, што ў адной кішэні яе камбінезона—гаечны ключ, у другой—пропуск студэнткі. Вось стаіць яна, пазалочаная сонцам на самым версе вышкі. Вось узмахнула моцнымі рукамі, нібы крыллямі і лёгка прыгнула, разразаючы паветра, у ваду. Хіба вы сустракалі калі-небудзь больш прывабную дзяўчыну? І вы пэўна здагадаліся, што яе таксама завуць Марыляй.

Віцебск, 1937 г.

*М. Клімковіч*

# КАЦЯРЫНА ЖАРНАСЕК*

*Драматычная паэма*

## АКТ ТРЭЦІ

Месца першай дзеі, толькі ўдзень. Усё заліта гарачым жнівеньскім сонцам. На сцэне адна Кацярына, у шлюбным убранні. Аднак па тым, што там-сям мільгане чалавечая постаць, па тым, што ў капліцы чуваць ціхі гоман і нават нехта асцярожненька паспрабаваў звон—адчуваецца напружанае чаканне нечага. Гэта адбіваецца ў музыцы. У часе музычных пауз чуваць, як дзесьці далёка ў небе, над прырэчнымі балотамі (і звонка і мякка ў адзін і той-жа час) курлыкае журавель. Пачула Кацярына гэта курлыканне і пацягнулася душой да яго, запела:

З'ЯВА I

Кацярына

У небе сінім жураверкі,
Лятучы ў пуць дальні,
Роняць, роняць на зямельку
Крык свой развітальны:
Кур, кур, кур!

Перад вамі ў светлых далях
Сонцам шлях заліты,
Ды чаму-ж заўсёды жалем
Крык ваш апавіты?
Кур, кур, кур!

Ці занылі над хацінкай
Сэрцайкі журбою,
Ці пазвалі сірацінку
Ў вырай за сабою?
Кур, кур, кур!

О, з якой бы песняй шчырай,
Каб я крылцы мела,
Паміж вас у светлы вырай
Птушкай паляцела-б.
Кур, кур, кур!

* Пачатак гл. у № 11 „Полымя Рэволюцыі“.

З'ЯВА II

Рыгор *(з'яўляецца нечакана і, падрабляючыся знарок, пяе)*:

І стаяў бы твой Рыгорка,
Пазіраў на хмары
І слязінку горка-горка
Расціраў па твару
Кр-ру, кр-ру, кр-ру!

(Абодва смяюцца. Схапіліся за рукі, нават перакруціліся, але—блізка людзі—кінулі рукі, толькі на тварах узбуджанасць, сіла і лёгкі смутак).

Рыгор

Не, без смеху, добра журкам;
Мах, ды мах! і мілі.
Не дадумаліся людзі,
Крылляў не зрабілі.
Можа некалі і зробяць,
Бо спрадвеку-ж марацць.
А нядрэнна-б на хмурынцы
Вось на той у пары
Сесці радам, звесіць ножкі,
(Мякка як у пярыне),
І паплыць нябесным тропам
Проста на Украіну.

Кацярына

Паплывем, Рыгор?

Рыгор

А як-жа?
Ці-ж паддацца пану?
Не так страшан чорт—дарога—
Як намалявана.
На труслівага-ж сабакі
З кожнай падваротні,
Хоць ідзе здаецца ціха
Па сялу гаротнік.
Ну а смелы пад мярлогай
Пройдзе непачуты.
З богам, Каця, у дарогу
Ад няволі лютай!

Кацярына

У дарогу? Як-жа маці—
Яна-ж гадавала,
І з дачкі любімай—Каці
Вочак не спускала.

Як табе дачка аддзячыць
За твой хлеб сягоння?
Кій у рукі і жабрачыць
Пойдзеш падваконпем...

Рыгор

Што-ж ты зробіш? Мая маці
У не лепшым стане,
Два гады перачакаці
Сілы ім дастане.
А патом казацкай чайкай
Ўспенім мы Бярозу,
Паплыве дымок ад замкаў
На сухія лозы.
І калі згараць палацы—
На сваю зямліцу
Выйдзеш ты для вольнай працы
Вольнай маладзіцай.

Кацярына

Веру я табе, мой ладо,
Больш, як богу, веру—
Палячу з табою радам
Ў свет зязюлькай шэрай!

З'ЯВА III

(**Стаміўшыся уваходзіць Прузына, матка Каці**).

Прузына

„Дарэмная трата і просьбы і часу",—
Сказаў ты, Рыгорка, і праўду сказаў,
Падбіліся ногі, сама знебылася,
А ён хоць-бы слова старой адказаў.
Ды чула праз суд іх,—выходзілі людзі,—
Шамяка, раўнуючы з імі—сваты.
Судзі ты іх, божа, як нас яны судзяць,
А дзелаў, Рыгорка, як ведаеш ты.
Няма нам ратунку, няма і ахраны,
І ліст караля—толькі скрутак папер,
І вольны й прыгонны—нявольнікі пану,
А пан—ашалеўшы ад прагнасці звер.

Рыгор

Ну што-ж, пераксці нас, матуля, на дружбу,
Каб радасць і гора—усё папалам.

Прузына

Ды ўжо-ж, саслужу вам апошнюю службу,
Што ўзяла ад маткі, дачцы перадам.

Пайшлі ўсе трое ў хату, адтуль у хуткім часе выходзяць з абразамі для благаслаўлення. Двор напаўняецца дзяўчатамі, як макавым цветам).

З'ЯВА IV

Тым часам праходзяць два казакі: старэйшы і малады.

Малады казак

Пракляты поп, успёрся з пятухамі
І шмыг у двор!

Старэйшы

Хутчэй урок адбыць,
Бо дні укосныя, упусціш за панамі,
А потым тыднямі на полі будзе гніць.

Малады

Пракляты поп, хоць сам адзенься у рызы.

Старэйшы

А хто-б тут разабраў...

Малады

Ды ў кнігах я сляпы.

Старэйшы

Тут веру трэба мець, а вера брат не ў кнізе.

Малады

Ну так-то так, але-ж на што папы?

Старэйшы

Бадай што й так: на тое поп свяціўся
Каб па царкве, як той пацук, круціўся.

(Пайшлі далей)

З'ЯВА V

Дзявоцкі хор

Ай, месяц сына жэніць
Зорка замуж дачку дае.
Ай, месяц у радасці,
Зорачка ў жаласці.

Ай Агата сына жэніць,
Ай Прузына дачку аддаець.
Ай, свякроўка ў радасці,
Ай, мамачка ў жаласці.

Дзед Ахрэм

*(Як галоўны сват):*
Дай бог ў добры час пачаць,
У злы памаўчаць.
Благаславіце людзі
Блізкія суседзі
Гэтаму дзіцяці
На шлюб стаці.

Народ хорам

Бог благаславіць!

Дзявочы хор

Знаць ды пазнаць на вяселейку
Дзевачку-сіротачку:
Двор вялікі—збор не вялікі,
Не ўся яе радзіначка.
Сашлю-пашлю сівую зязюлю
На Украіначку
Па сваю радзімачку,
А салавейку шчабятлівага
Па роднага татачку.
Зязюлька ляціць, радзіна ідзе
А салавейка адказвае:
Не будзе татачка на вяселлечку
Сырая зямля дзверы залягла,
Аконцы засланіла,
На вяселлейка не пусціла.
Смаляныя дошкі
Сціснулі ножкі,
Не можа устаць
К сваймy дзіцяці
Шчасце-долю даці.

(Кацярына плачучы схіляецца на калені, за ёю Рыгор).

Дзед Ахрэм

Стань, маці,
На божай пастаці,
Дай благаслаўленне
Свайму дзіцяці.

Прузына *(благаслаўляючы абраз амі)*:

Хрышчуся, малюся богу,
Благаслаўляю дзіцятка ў дарогу,

На шлюб стаці,
Вянцы прыняці.
Вянец узяўшы
Век векаваці,
Дзяцей гадаваці
Сыноў-пахароў,
Дачок-жнеячак.
Век векаваці,
Дабра нажываці
У добрым здароўі
У вясёлым жыцці,
Людзям на пацеху,
Сабе на пажытак,
Госпаду-богу на хвалу.

Дзявоцкі хор

А поп, поп, дабрадзею,
Не звані рана ў нядзелю,
А звані позна у суботу,
Загадай дзеўкам работу,
Каб была вулачка мецена,
Каб была Кацячка праведзена.
Мецена вулачка з канца ў канец,
Ведзена Кацячка пад вянец.

З'ЯВА VI

(Тым часам казакі злавілі папа).

Казак

Тпру, кабыла! Стой, поп.

Поп

Дзеці мае, дзеці,
Беззаконнасць не чыніць,
Каб не быць у атвеце.

Першы казак

А спаўняе хто закон?

Поп

Таму бог паможа.

Першы казак

Ну, тады нам каваля
Звенчай словам божым.

Поп

Трэба ў пана запытацца.

Першы казак

Ён-жа непрыгонны.

Поп

Загадаў пан.

Першы казак

Мала што,
Гэта-ж беззаконна.

Другі казак

Эт, ды што тут гаварыць,
Знай, панава бруха
Чорт з сямі аўчын пашыў,
Яно к слову глуха.
Бось што, попік, бацька наш,
Павянчай Рыгора,
Ці чытай той атчанаш,
Што на смерць гавораць.

Стары казак Юхым

Хочаш, бацька, залаты?
Хоць ён, праўда, не святы,
А грахі замоліць,
З ім і ў цэркаў і ў сваты
І не хібіш, браце, ты,
Анідзе, ніколі.

Першы казак

Тут даецца на выбор,
Ці няхай лікуе,
Ці на сметнік у божы двор
Цягні алілую.

Поп

Зазлуецца пан, людцы,
Птушка-ж я малая.
Вы-б паехалі ў Стаўцы
Да айца Ісая,
Там і дзяк ёсць, а ў мяне
Як на зло дзяк хворы.

Першы казак

Ну, гарэлкі як глыне,
Запяе ён, запяе
Хоць адзін—ды хорам.

Дзяк (*вылузаўся з натоўпу*)

А я тут і ўжо глынуў.
Поп, ну й хмельна-ж піва,
Я і кніжкі прыцягнуў,
Запісаў, хоць крыва,
Ды выразна, быццам боб,
Пасадзіў у радочкі.

Казакі

Ну, здавайся, бацька поп.

Поп

Здаўся, галубочкі.

(Маладыя, поп, дзяк, Агата, Прузына і іншыя ідуць у капліцу—пачынаецца вянчанне).

З'ЯВА VII

Першы казак

Што-ж глядзець на сівы мох
Старанькай капліцы,
Запявай, ці што, Цімох
Падыграй-ка, Грыцю.

Казацкі хор

Тэрэн в полю, Тэрэн в полю
Піду поколышу,
На кого-ж я, товарышу,
Цю дзіўчыну лышу.
— „Ой, на мэнэ, товарышу,
На мэнэ, на мэнэ.
Буду-ж іі шануваты
Шчэ й лучэ від тэбе".
—„Доглянь, доглянь, товарышу,
Доглянь мої дзівкі,
Як до дому повэрнуся,
Нап'емся горылкі!"
Казак з війска повэртае,
Вступае дохаты,
Малэ дыця, нэвэлічкэ
Вчыцься рачкуватьг.
„Бодай тэбэ, товарышу,
Лыхая годына!
Дэ цэ взялась у дзіўчыны
Маленька дытына?
— З коня впаду, з коня впаду,
Впаду—нэ заб'юся,

Як пагляну на дывчыну,
Слёзамі заллюся!

Вясковыя хлопцы

Ну, і добра, казакі,
Сваю песню спелі,
А у нас што? Языкі
Цяляты ад‘елі.

Хор хлапцоў і дзяўча:

Па апенкі хадзіла... Цыцце
І спадніцу згубіла... Цыцце!
Ой цыцце, ой маўчыце,
Бацьку-маці не кажыце. Цыцце!
Хлопец з бору ішоў... Цыцце!
І спаднічку знайшоў... Цыцце!
Ой цыцце, ой маўчыце,
Бацьку-маці не кажыце,
Цыцце!
Як было адбылося—Цыцце!
На вяселле спяялося—Цыцце!
Ах стучыце, гручыце,
Бацьку з маткай кажыце
Усё роўна!

(Спеў канчаецца агульнымі скокамі, пляскай).

З‘ЯВА VIII

(У вясёлы натоўп уразаецца каламашка, на ёй бочачка з півам, **пісар**, **пан Дуля** які ў руках трымае досыць споры глячок з гарэлкай. Народ неахвотна расступаецца).

Пісар

Гэй, хрысціяне! старынным звычаем
Усіх, хто прышоў бы да нас на вяселле,
Мы з дарагою душой прывечаем
Ежай, і ласкай, і песняй, і хмелем.
Што-ж, прывечайце і вы нас, грамада!

Сяляне *(досыць неахвотна)*

Ды рады панам мы, рэч, ведама, рады...

Пісар

Я ласкі і песні тут бачу багата,
А ежай, як толькі застолле нахлыне
Абломіць, напэўна, сталы гаспадыня,
Вось хмельным не так мусіць хата багата?

Сяляне

Памёр гаспадар, а ўжо гэта патрава
Не бабская справа, мужчынская справа.

Пісар

Ды бог не без ласкі, ён бедных прытуліць
Законнейшы пан аб'явіўся ў Агаты,
І шле ён гарэлкі гляк, бачыш, пузаты
І піва поўбочкі.
Віват пану Дулю!

Дзед Ахрэм

Няхай сабе дулю, няхай сабе й пану,
Ды толькі не ждала Агата ў прыданых
Такіх сваякоў.

Пажылы селянін

Ды не дай бог нікому!

Дзед Ахрэм

Эй, клікні Агату. Тут нешта не гэтак.

Другі селянін

О, свет, брат, настаў:—не вылазіш ты з дому,
А там тваіх пану ўсваталі дзетак.

Пісар

Прыслаў пан гарэлкі.

Дзед Ахрэм

Ды ў горле, мосьпане,
Любая гарэлка тут колікам стане.

З'ЯВА IX

З капліцы хуценька выходзіць Агата і, прабіраючыся праз натоўп, пытаецца:

Агата

Кажаш, дуля? Што за дуля,
Не найшла другога носу,
Каб на ёй пасела скулля.
Пан? Ўсероўна дам я чосу,
Хто тут Дуля?

Дуля

Я—пан Дуля,
Маю гонар быць пасланым
Яго светласцю і панам—
Абвясціць табе—Гапуля,
Што варочаю я ўладу
Над табой і над Рыгорам.

Агата

Ой, я стану к пану задам,
Ці не ўкусіць пан за сорам.

Дуля

Што?! Каму гэта, пане пісар?
Вам ці мне?

Пісар

Вядома, пану,
Дзе ўжо нам!

Агата

Каб пан не рысаў!
На разках і на балясах
Многа ездзіць вас па свеце
Да мужыцкай працы ласых,
І брухатым пузам свеціць.
Дзе ты гэткі адшукаўся?
Нада мной бярэ ён ўладу!
Пацалуй пан пана ззаду,—
Каб суроку не баяўся.

Дуля

Гэта вам, ці мне, пан пісар.

Пісар

Вам, пан Дуля.

Дуля

Ах ты, хлопка!
Што ў цябе астатні высах
І пустой стала каробка?
Як асмелілася пану
Гаварыць такія словы?

Агата

А ці пану ці Сцяпану,
Для мяне ўсё аднальковы.

Не чапае хай пан жыта,
Дык не будзе морда біта.
Калі Міна,—едзьце міма.

Дзед Ахрэм

Праўду кажа вам жанчына,
Што дарэмна скамарошыць?
Не чакаць-жа, пан харошы,
Каб жанчына пры народзе
Пана з'ездзіла па мордзе?

Дуля

Як-то, хам? Я пан вяльможны.

Дзед Ахрэм

І ты вашэць, і я вашэць,
А хто хлеба нам напашэць?

Дуля

Як то можна, як то можна!
Я прашу суддзю паклікаць,
Я суду пастаўлю сведак.

Дзед Ахрэм *(пры дружнай падтрымцы народу)*

Кінь дарэмна, пане, бзыкаць,
Як бычок неператетак,
Бо скапыціш сабе ногі,
Лепей едзь сваёй дарогай.

(Сяляне бяруцца за колы, за коні і выштурхваюць пана з патоўпу, адбіраюць аднак і гляк і бочку з півам).

Сяляне

А глячок мы апарожнім
І бачоначак таксама.

Дуля

Як то можна, як то можна,
Хамы, хамы, хамы, хамы!

Сяляне *(перадражніваючы)*

Гам, гам, гам!

(І пад свіст і гіканне сялян пісар і Дуля паехалі назад туды, адкуль прыехалі).

### З'ЯВА Х

Выходзяць з царквы маладыя.

Дзявочы хор

Быстрая рэчачка хваляй б'ець,
Мамачка Кацю з вянца жджэць
І ў вароціках сустракае
І ў яе праўданькі пытае:
„Ці звонка званы звінелі,
„Ці ярка свечкі гарэлі,
Ці громка папы спявалі,
Як вас, маладых, вянчалі?

Дзед Ахрэм *(сват)*

Сем лет пацеў
На вяселле хацеў,
Год на печы валяўся,
Пакуль вяселля дaждаўся.
Пакуль на слуп узлез,
Увесь пуп аблез.
Бабы лён трапалі
Кастрыкай у рот папалі.
Памаўчу,
Пакуль не прамачу.

(П'е чарку і падносіць маладым).

Дзявочы хор

А ў нашага свата
Кругом хаты мята,
А ў хаце багата.
А ў нашага свата
Кругом хаты рожа,
А ў хаце прыгожа.
Ой, сватка наш, сватка,
Прасі нас у хатку,
Дай нам піць і есці,
На лавачку сесці.

Дзед Ахрэм

Людзі—суседзі,
Блізкія, далёкія,
Каго кабылка прывезла,
Каго матка на руках прынесла,
А хто сам прышоў,
Усіх прашу на княгін двор,
Усіх прашу за вясельны стол.

З'ЯВА XI

(Уваходзіць казацкі атаман **Мікола Жарнасек**).

Атаман *(да Рыгора і Каці)*

Ну, добры дзень, браценнік мой названы,
Вітаю шчыра і цябе, сястрыца,
Прымай гасця, хаця й неспадзяваны,
Але каму вяселле не згадзіцца.

(Вакол атамана вясёлы гоман).

Кацярына

Міколка, брат!

Прузына

Пляменнічак мой родны!

Хлопцы

Здароў, атаман, эй, здароў Міколка!

Пажылы селянін

Во кажуць, чалавек на свеце, як іголка
У возе сена, згіне неўзваротна.
Аж не, глядзі, вярнуўся! Малайчына!

Другі селянін

Не абыяк, а з цэлаю дружынай.

Пажылы селянін

А чым таргуеш, пане атамане?

Атаман

Адвагай, браце. Першага гатунку
Купляй—я раю, зважым, не абманем
І плату возьмем чыста, без рабунку.

Пажылы селянін

Тавар нядрэнны.

Атаман *(жартуе)*

І купец таксама.

Пажылы селянін

Аб тое кажацца, мы Жарнасекаў знаем.

Атаман

За памяць добрую вялікі дзякуй, дружа,
Хаця не зарабіў, але патом адслужым!

З'ЯВА XII

(Варочаюцца назад пісар і пан Дуля. З імі суддзя—пан Бобаецкі і войт. З капліцы выходзіць поп).

Суддзя

А ну, пан пісар, навядзі парадак.

Пісар

Эй, шапкі зняць далоў!

Атаман *(іранічна)*

А як хто з каўтуном?

Пісар *(не зразумеўшы іроніі)*

Тады хай стане ззаду—
Ці йдзе дамоў.

Атаман

Івашка!

Івашка

Тут!..

Атаман

Пастаў-ка хлопцаў ззаду.

Кацярына *(Рыгору)*

Рыгорка, чаго гэта суд на вяселлі?
Каго ён засудзіць?

Рыгор

А чорт яго знае, крапіўнае зелле!
Ды ты не пужайся. Тут—людзі.

Пан Дуля *(да папа)*

А ці няма, айцец, вінца ў тваёй капліцы?

Поп

Не, мой панок, адзін брусьнічны сок,
Ды сёлета няўрода й на брусніцы,
Чым буду прычашчаць не ведаю, панок.

Дуля *(расчаравана)*

Шкада... ні капелькі віна?

Поп

Ёсць крышачку, ды толькі для закрасы,
Ці князя прычасціць—поўпляшачка адна.

Дуля *(просячы)*

Мне палавіначку... ну чвертачку, ну столькі,
Рот спаласнуць, паселі, чорт іх, болькі...

Суддзя

Пан Дуля, не марнуйце часу,
Што вас прымусіла паклікаць суд каронны?

Дуля

Правоў шляхоцкіх, пане, абарона.
Раба мая Агатка—з дзіцянем
Калісьці уцякла...
*(да войта)*
А ці няма кілішка,
Пасохла ў роце ўсё. Ну проста языком
Не павярнуць—і крышка.

Суддзя

То будзе потым. А цяпер...
Не захаваў ніякіх пан папер—
Ці сведкі ёсць пацвердзіць пана словы?

Рыгор

Чакайце, пан суддзя!
Я бачу, вы гатовы
Ярмо на нас уздзець і нас не запытаць,
Ды я не з тых, што можна забрытаць
І весці у пятлю пад п'яныя размовы
Вось гэтага панка.
*(да мацеры)*
У чым тут справа, мама?

Агата

Даруе хай Янук—нябошчык пляму
На памяці яго. Так, я жыла ў дварэ
За Януком—падданым пана Дулі.
Янук быў хвор. Мы ведалі—памрэ...
І ім пакрылі мой дзявоцкі грэх.
Бо я табой, Рыгорка мой, хадзіла
Да шлюбу з Януком. І я цябе радзіла
У сваіх бацькоў, калі памёр Янук.

Суддзя

Хто ведае аб тым?

Агата

Апроч папа, ніхто.
Ні слёз маіх начных, ні патаемных мук
Не выдала-б я людзям ні за што
І зараз, каб не суд. Хай скажа поп Гаўрыла
Я за аброк тады
Аж тры гады
Падлогу ў царкве мыла.

Суддзя

Ну, гэта не закон!

Рыгор

Бо пісан ён
На нашай скуры,
Не, пан суддзя, дарэмна! не абдурыш
Нас мужыкоў для панскае карысці.

Суддзя

Як трэба, то й скарышся.
Закон на вецер не кідае словы,
Перад судом усе людзі аднальковы.

Рыгор

Наўрад ці так. Чаму-ж тады дасюль,
Я жыў, не знаючы ніякіх Дуль
І Дуля нас не знаў, а зараз у законе
Пан прачытаў, што не пан Дуля мне,
А я яму павінен быць у прыгоне,
І ён мяне прап'е, як быдла. Так ці не?

Суддзя

Твой бацька быў нявольнік пана Дулі.

Рыгор

Ён бацькам мне не быў. А да таго-ж мінулі
Тры дзаўнасці, калі мая матуля
Па смерці Янука пашла назад
К сваім бацькам.

Суддзя

А сведкі ёсць на гэта?

Агата

Магу пасведчыць цэлым светам!
І нават войт—навошта гад,
А тут і ён не стане лгаць у вочы.

Войт

Вось, пан суддзя, які язык жаночы.
За „будзь здароў“—аблае і абразіць,
Хоць ты вазьмі і кінь паслугі князю.
Прасіў бы пакараць брахліўку за знявагу.
А што да справы, то гатоў прысягу
Я даць, што гэты пан прыходзіў
Ка мне і мне даўным-даўно даводзіў
Аб іх падданстве, толькі наказаў,
Каб ім у вушы я не ўводзіў,
Бо той вірутнік збег бы к казакам.

Кацярына

Рыгорка мой, што кажа гэты злодзей,
Ён топіць нас. Ратуйце, людзі!

Рыгор

Стой!
Стой Кацярына. Поп Гаўрыла,
Яна, калісь, на споведзі адкрыла
Табе...

Поп

Не помню, мілы мой.

Рыгор

А што падлогу ў царкве мыла?

Поп

О, гэта помню, быў аброк.

Рыгор

За што?

Поп

Не, помню, галубок...

Сяляне

Эй, поп Гаўрыла, поп Гаўрыла,
А ці ты ксёндз, а ці-ж ты пан,
Каб так тапіць уласных прыхажан
І лезці пану ў зад без мыла?
Яны к табе прышлі за дапамогай.

Поп

„Несць уласці ажчэ не ад бога,
І власці сушчыя ад бога суць“.

Рыгор

Ну, а калі яны кроў нашу ссуць,
Калі яны на горла праўдзе сталі?
Калі яны Хрыста ўніз галавой распялі
І ты ім дапамог—на мшы пачуе бог
Цябе, прадаўшага са страху ці з выгоды
Нас.

Суддзя

Тут я не бачу шкоды,
Пан Дуля чалавек сумленнае душы.

*(К Дулі)*

Віншую пана я, пан мае тры душы
Падданых зноў—хоць можа нечакана,
Шануйце вы яго, як пана,
А ён вас як дзяцей айцец.
Пан пісар прыпішы
У падданства пану Кацярыну,
Як жонку каваля прыгоннага.
І справе ўсёй—канец.

Дуля

А вечарам у замак, для пачыну...

Рыгор

Пастой, суддзя, не можа быць, не веру,
У падданства Кацю той брыдзе?
Вар'яцтва, жарт! Няма нідзе
Такіх законаў.

Суддзя *(чытае)*

Прачытай паперу
„Літоўскі статут“—Ці прымі на веру.
„Хто за прыгоннага ідзе
У замужаства—становіцца прыгоннай“.

Поп

Пра гэта ёсць у евангельскіх законах
„Муж і жана да будуць в плоць едзіну“.

Рыгор *(папу)*

Тады мяне і Кацярыну
Ты безадкладна развядзеш!

Поп

Сілком прымусілі, каб я вянчаў,—
Развенчываць цяпер—няма зусім падстаў.

Рыгор

Паслухай, поп! Халоп
Не мае права з вольнай ажаніцца,
Развенчывай, ці твой папоўскі лоб,
Руччом крывавым забруіцца!

Кацярына *(да Рыгора)*

Чуў ты сэрцам журавелька
Ды маю нядолю,
Клікаў, клікаў мяне ў вырай
Крыкам поўным болю.
Не ўзнялася я, і хмары
Абляглі навокал—
І з табой нас паланілі,
Мой бяздольны сокал.
Каб мне рукі закавалі,
Ланцугі-б я рвала,
Каб укінулі ў падвалы,—
Я-б муры ламала,
Чым і як мяне звязалі?
Я не бачу путаў?
Дзе шукаць мне абароны
Ад ліхой пакуты?
Памажыце, добры людцы,
Супроць воўчай зграі.
Век за вас маліцца буду
Усё аддам, што маю.

(У народзе ўвесь час нарастае абурэнне, гул галасоў. Нарэшце ўрываюцца словы)

Дык што-ж маўчыце вы, суседзі?

Пажылы селянін:

Панок, патрэбна пераглядзець
Увесь закон і адшукаць ратунак.

Дзед Ахрэм

Не можна-ж так, жывым абманам
У дзень і пры людзях чыніць такі рабунак
Ды гэткім гвалтам нечуваным.

Селянін

А пану што, яму баліць ці што?

Другі селянін

Хутчэй ты літасць вымаліш у звера.

Трэці селянін

Мы для яго не людзі, а нішто.

Першы селянін

Што адказаў суддзя на скаргу аб памеру?
Дзе нашы хадакі?

Селянін

Сядзяць у замку ў казні,
Я бачыў сам—вялі к дваровай лазні!

Першы селянін

На скаргу шчырую нам учыніць наругу.

Галасы

Ды што чакаць, лупі калом падлюгу!
Усёроўна паміраць.

(**Суддзя** стараецца захаваць спакой. Дуля літаральна абмёр ад страху, поп стаіць і таксама калоціцца, а войт зьмыўся).

Суддзя

У законе сказана „хто руку ўзняў на пана
Адсеч яму руку, а хто удар нанёс,
Той мае горлам быць скараны“.

Поп

Любіць і ворагаў загадываў Хрыстос.

Рыгор

Любіць змяю, калі яна ўпускае жала
Табе ў сэрца. Дзякуй! Не хачу!
Я лепей галаву гадзюцы адкручу!

Атаман *(к суддзі)*

З панамі гаварыць патрэбна мала,
Пішы загад, каб выпусціць старых
І вырві тут пры нас свой вырак аб Рыгору!

Дзед Ахрэм

А дзе-ж той войт? што, пёс ліхі, заціх?

Сяляне

Няма? Уцёк, то будзе ў замку скора.

Стары казак Юхым *(падыходзіць да судзі і Дулі з вяроўкай).*

Што-ж, атаман, вязаць ці што тых Юдаў?
*(к сялянам)*: Тут блізка вір?

Сяляне

Ды глыбі хопіць ўсюды.

Атаман

Вязаць? Навошта? Падымаць на пана
Руку, пан кажа, будзеш катаваны.
А пану самаму так надаела жыць,
Судзіць людзей, сірот і ўдоў тапіць,
Крывёй людской штодзённа мыцца,
Не, пан рашыў, без нашых дапамог
Ісці у вір—тапіцца.

Дзед Ахрэм

Дапамажы яму у добрай справе бог!

Атаман

Ці не, пан Дуля першым, ён—уладар
Цяпер трох душ, адну сваю душу нешкодна
Яму занесці ў дар
Вірутнікам падводным.
За панам—поп—ці згодны парфіяне?

*(Дулі)*

Ну, што-ж, ідзі, вяльможны пане!

Дуля

*(заікаецца са страху, але з захаванай з надзеяй)*

Ж-ж-жартуе, атаман?

Атаман

Якія ў чорта жарты?
Няўжо вы меншага, звяругі, варты?

Дуля

Пан атаман, аб літасці прашу.
Не буду сунуць нос ў чужое аніколі.
Князь загадаў дзяўчыну заняволіць,
Суддзя параіў як, а я сваю душу
Нясі ў вір, за ласку, за якую?
Няхай нясе суддзя, калі пан не жартуе.

Атаман

Ён мае рацыю. Як мысліць, пан суддзя?

Суддзя

Я мыслю, пан халоп,
Што скора ты завіснеш на асіне.

Атаман *(спакойна)*

Магчыма. Толькі пан раней, чым хлоп, загіне.
Што-ж адпявай сябе і іх—
„Са духі праведнымі“—поп!

(Сяляне маўчаць і расступаюцца. Наперадзе ідзе суддзя, за ім Дуля, за ім поп, адпяваючы дрыготным голасам „Са духі праведнымі“. Ідуць паны неахвотна, пад дуламі пістоляў).

ЗЯВА XIII

(З тылу натоўпа пад'язджае **князь**. З ім **4 гайдукі**. Сяляне, заўважыўшы князя—акружылі сваіх паловных і прыціснулі іх да зямлі, адзін суддзя не паддаўся).

Князь Капуста

А кодла хамскае, вяселле учынілі,
Глузуюць, што княгіню адружылі.
Не, тры гады ў ваколіцы маёй
Не будзе чуць ніхто ні радасці, ні смеху.
Эй, абарваць вясельныя пацехі!
Жалобу князь ўскладае на людзей,
А каб яна была сапраўднай, непакорных
Я надзяляю пятніцаю чорнай.
— Чуй, гайдукі! схапіце маладую,
Яна вяселле ў замку дасвяткуе.
Ка мне, суддзя!

Голас Дулі

Панок, і я ў натоўпе—
Ратуйце нас, бо хамы нас утопяць.

Князь Капуста

Што? бунт?
Тым лепш:—па праву
Павесім мы з віноўнымі і правых.
*(Паказвае на Рыгора)*
Узяць зачыншчыка! *(Рыгора хватаюць)*
На дубе тут павесіць!
Ты вылучы суддзя віноўных смердаў дзесяць,
Павесім к вечару. Эй, хамы, на калені!
Ці з страху аднаго вы ўсе патрупянелі?!

(Народ паволі падае на калені і... адчыняе сцяну з 15 казакаў з узведзенымі пістолямі. За казакамі сялянскія хлопцы з косамі і тапарамі. Мінута цішыні і ў гэтай цішыні дакорлівы голас дзеда Ахрэма).

Дзед Ахрэм

Растраціў бог дарэмна матэрыял,
Калі ўкладаў табе душу у рыла:
Аднэй тваёй душы, панок,
На трох бы змей хапіла!

Капуста

Эй, гайдукі, хватай пістолі.

Рыгор

Не, князь Капуста, з нас даволі!

(Кідаецца к князю, хапае за горла. Кацярына кідае ў князя бачонак Дулі. Той знячэўкі аступаецца на гэты бачонак і валіцца).

Рыгор

Абрыўкамі сваіх кайданаў
Мы размажджэрым голаў пану!

(Дуля скарыстаўшы ўсеагульную ўвагу да Рыгора, кідаецца ў кусты).

Стары казак Юхым *(спыняючы Дулю)*

Куды? Дастаць шаблюку, пане,
Давай паб'емся. Мо' дастанеш
У баю шаблюку першы раз?

Дуля

А першы раз, дальбог, мой пане.

Стары казак Юхым

Што-ж вараб'ёў пужаць у баштане
Насіў як цацку, на паказ?

Дуля

Дальбог, мой пане, на паказ.

Казак

Спаўзлі штаны ад страху з бруха?

Другі казак

І засмярдзеўся як псяюха!

Стары казак Юхым

Бяжы ў кусты хутчэй, паганец!

(Пад агульны рогат Дуля хаваецца ў кусты. За ім ідзе і Юхым).

З'ЯВА XIV

Падымаецца з берага Бярозы **Марына**.

Марына

Стары паляк заперся ў замку,
Гарматы чысціць. Войт прыбег
Адсюль напэўна, панскі шпег,
І пан паслаў яго да ранку
Падняць усю шляхту навакол.

Атаман

Во пасадзіць каго-б на кол!
На замак, хлопцы!

Рыгор

Не дай бог
Пад Заенчкоўскіх дацца уладу
Гарэй Капусты будуць гады—
Рабаўнікі з начных дарог!
Каб Заенчкоўскі нас не здолеў
За зяця з'есці—узяць багры,
Даўбешкі, косы, тапары—
Пойдзем шукаць мы нашу волю!

Дзед Ахрэм

Паны хітрэй, чым мысліш ты
Яны на дробныя шматы
Яе рукамі разарвалі
І ў кожным замку захавалі
Кавалак волі беднаты.
А сэрца ў вашым замку, людзі:
Хай з вас пачатак панскай смерці!

Галасы

Хай будзе так, няхай так будзе!

Антон

Глядзі з валамі нехта блудзе
Дый голыя. Паспелі здзерці
З іх вопратку ці што ў дарозе?

Марына

Яны прывязаны на возе
Княгіня з Ясем—гайдуком,
Жанчына, выйдзі на сустрэчу
Накінь што-небудзь ёй на плечы.
А ты яму. Іх дагала
Раздзеў князек. Эх, чалавекі,
На смерць яе пусціць магла
І не магу пусціць на здзекі.

З'ЯВА XV

(Выяздждае ганебная калясніца з прывязанымі княгіняй і гайдуком. Калясніцу вязуць Лабач і Жук старога селяніна).

Ясь

Мужайся, Ядзя. Тут народ.
Я умалю цябе распутаць.

Княгіня Ядзя

Маўчы, гайдук! Чым заплачу
Табе за ганьбу і пакуты?

Ясь

Браты мае, няўжо між вас
Ніхто не возьме у сэрца літасць
Нас развязаць? Праклятьі князь...

Дзед Ахрэм

Які ляжыць між нас, забітым.

Княгіня Ядзя

Забіт Іван? А кім забіт?

Дзед Ахрэм

Народным гневам—божай карай.

(Развязваюць княгіню, а затым Яся).

Ясь

Ядвіся, вольны свет адкрыт
Да самых смелых тваіх мараў.
Браты мае! Распутаць рукі,
Уздыхнуць на поўны ўздых грудзей,
Пабачыць сонца і людзей,
Яе пазбавіць смертнай мукі,—
Якога-ж шчасця трэба болей!

Княгіня Ядзя

Княгіня—я. Гайдук, даволі!
Удзячна, добры мой народ,
Табе княгіня, хоць варожы
Учынак, папушчэннем божым,
Зрабіў ты. Князь Іван быў крут,
Часамі быў без меры лют
Не толькі к вам, але й ка мне,
Жанчыне слабай. Успамяне
Хай бог яму у судны дзень,
Як выручалі вы ў бядзе
Сваю княгіню...

Казак *(раптам)*

Юхым ідзе!
Пайшоў за Дуляй, а ксяндза вядзе.

З'ЯВА XVI

(Выходзяць з-за куста **Юхым** і **ксёндз**).

Стары казак Юхым

Віншуйце, людцы, з добрай лоўляй!
О, жарабец святой гадоўлі!
А ну, бяжы, гарцуй падскокам!
Гляджу я, прэцца праз кусты
Ўслед княгіні ён—святы—
І сочыць гэткім ласым вокам
За ёй, за голай.

Грамада

Ха-ха, ха!
Во не баіцца хто граха!
— А не аслеп, ксёндз, ненарокам?

Жанчына

А во ўбачылі вы цуда!
Ў сваёй малельні што, паскуда,
Ён робіць у замку? Хто пабудзе
З дзяўчат—ніколі не забудзе.

(Юхым вярнуўся назад у кусты і прыводзіць Дулю).

Княгіня Ядзя

Паслухайце княгіню, людзі!
Вось поп, і ксёндз, і пан суддзя;
Пры іх народу абяцаю
І крыж святы цалую я:
Забойства князя забываю,
Вярну народу старыну
І праўлю замкам новым ладам,
Пытацца буду добрай рады
У вас, старэйшых.

Атаман

Ну, ну!
Хацеў бы бачыць я, што выйдзе
З тых абяцанак? Так, праз тыдзень—
Каго-б павесілі на браме,
Каго-б жыўцом зарылі ў яме,
Каму-б усю скуру аблупілі,
Каго ў Бярозе утапілі.
І кожны-б даў сабе зарок,
Каб да жыцця звярнуцца мог,
Не слухаць плачаў удаваных,
Не слухаць слодычаў абманных,
А вешаць панства як сабак,

Ды не абыякіх, шалёных.
Ці так кажу я, братцы?

Грамада

Так.

Атаман

Ды стан жаночы абаронай
Табе, княгіня. (*Паказвае на астатніх*).
Вас, нейначай,
У вір усіх?

Грамада

Крывёй сабачай
За нашу кроў хай плоцяць люду!

Атаман

Ну пан суддзя, і ксёндз, і Дуля,
Прысуд народны добра чулі?
Як схільны вы к таму прысуду?

Дуля (*на каленях*)

Пан атаман, я больш не буду

Суддзя (*пахмурна*)

Я выкуп дам.

Ксёндз

Я дам збавенне,
Грахоў надэшлых адпушчэнне.

Атаман

А як скажы, суддзя, у законе
Такі пасул не забаронен?
Угаварылі, так і быць.
Не будзем, хлопцы, іх тапіць,
А возьмем к замку. Папярэдзім
Паляка старага, што едзем
З капэлай польскай.

Дуля (*спалохана*)

Як-жа так?
А як пан Юзеф ды з гарматы
Па нас зажарыць?

Атаман (*жартуючы*)

Пан паляк
Каб трох палякаў смерці ўсватаў?
Не можа быць!

Дуля *(сур'ёзна)*

З гарачкі можа.

Атаман

Ну, можа надвае варожа.

Ксёндз *(падказвае)*

Паедзе з намі пані Ядзя...

Атаман

А чарнакніжнік добра радзіць.
Узяць княгіню ў задні човен!
Мо' знадабіцца, час няровен.
*(Да Ясья)*
А ты, гайдук? І дзень і ноч
Служыць далей іх мосці будзеш,
Ці хамскі нораў свой забудзеш
І нам паможаш, чым ахвоч?

Княгіня Ядзя

Ясь, едзь са мной!

Казак

У чоўне цесна, пані.

Ясь

Я берагам пайду.

Стары казак Юхым

Уто, атопак панскі!
Прыліп к спадніцы басурманскай
І не адцягнеш да скanання,
Хоць бізуном, хоць абцугамі.

Атаман

Вы, гайдукі?

Гайдукі

Мы пойдзем з вамі.

Атаман

Дабро! Дык слухацца загаду!
Разбіць людзей на два атрады:
Адзін са мной, а хлопцаў дзесяць
Рыгор вядзе. Уздоўж узлесся
Пад самы замак. Дзед пакажа
Падземны ход і як наляжам
На замак мы,—ударыць з тылу!

Кацярына

І я з табой, Рыгорка мілы!
Плячо ў плячо пайду на бой!
І жыць і гінуць дык з табой.

Сяляне

І мы, Рыгорка, грамадой
Усе за табой, як паязжане
Твайго вяселля, як сваты.

Стары казак

А ну, трымайся, ража пане,
Ці сіл не трацячы, заране
Давай у Кракаў лататы!

Дзед Ахрэм

Так, лях пракляты не ўседзіць!

Дзяўчаты

І мы за Кацяй, дзеўкі, рушым!

Рыгор

Чакайце! Чуй, хто мае вушы!
Ідзем на ворага, суседзі.
Тут воля вольная любому.
Хто к ланцугам прынаравіўся,
І хто ў ласку к пану убіўся,
Застацца можа сабе дома,
Сядзець, як заяц, паміж лому.
Каго пан біў, ды не балюча,
Хто слёзы ліў, ды не пякуча,
Хто па дзецях не выў галодных,
Хто не хаваў ад вочаў шкодных
Сваёй дзяўчыны,—хай не йдзе.
Ці ёсць такі?

Грамада

У грамадзе
У нашай—не!

Рыгор

Тады за мной!

І пашла сялянская маса на замак, паплылі казацкія чоўны. Людзі ідуць і ідуць. І здаецца няма ім канца, як няма краю іх гневу, іх жаданню волі).

### З'ЯВА XVII

(**Марына** над трупам князя)

Марына

Ты чуеш, князь? Як божы гром
Гудзіць народ паўстаннем гнеўным
І б'е знішчальным пяруном
Яснавельможных і вялебных.
Ты думаў, князь, няма рукі,
Якая б мур магла раскідаць
І ганарлівыя палкі
Перадушыць, як гнёзды гнідаў?
Памылка, князь! Хто мур складаў,
Той можа гэты мур разбурыць,
Хто зброю панскую каваў,
Раскідаць можа грознай бурай
Са зброяй разам вас, панкі!

*(да сялян)*

Ідзіце-ж у бой, мае сынкі!
Паліце панскія палацы!
Іх чорт стварыў, з крыві і працы
І ў зямелькі на плячах
Паставіў іх—сваю пячаць—
Яны яе, святую, давяць!
Хацела я сабе на памяць
Ў магілу ўзяць зямлю з крывёй
Майго абідчыка, зямлёй
Пасыпаць сыннюю магілу,
Каб ведаў сын, што за яго
Народ адпомсціў...
Ды не трэба
Крыві паноў не прыме глеба.
І гідка браць у рукі—гной.
Спі, сынку мой! І чуйна чуй
Як тупаціць у баю грамада,
Як трушчаць косці пана-гада,
Як глушыць крык яго „ратуй!"
Пачуй і маці ў грамадзе,
Яе апошні цяжкі поступ.
Як за жыццё на смерць ідзе
І сэрца выняўшы з грудзей
Нясе яго, як знамя помсты,
За лёс прыгнечаных людзей!

(Дзесьці задрынкаў набат, пачуўся выбух, запылала зарава далёкага пажара. Даносіцца магутная песня):

Рогам турыным, трубой берасцянай
Клікнем мы кліч між народам загнаным,
Цяжкая доля мая!

Рукі ў каго мазалямі багаты,
Гора ў каго не выводзіцца з хаты,
Цяжкая доля мая!
Клікнем шукаць сваю вольную волю,
Цяжкая доля мая!

(Сцэна пустая. Толькі пад капліцай стуліўся поп і з апушчанай галавой стаіць Ясь, як адшчапенец народу).

*ЗАСЛОНА.*

Менск, 1937 г.

*Янка Купала*

# ПАМЯЦІ ДАГЕСТАНСКАГА АШУГА СУЛЕЙМАНА СТАЛЬСКАГА

Уміралі, будуць уміраць людзі,—
Такая ўжо доля, доля чалавека,
А народ жыць будзе, песня жыці будзе,
Пакуль свет жыць будзе—ад века да века.

Ці там, дзе на скалах вольнага Каўказа
Днююць і начуюць арлы на свабодзе,
Ці там, дзе з пургою, з завірухай разам
Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць,—

Песня чутна ўсюды
У бязмежным прасторы,
Ці то дзень, ці ночка,
Ці сонца, ці зоры.

Хто стрымае хвалі
Мора-акіяна?
Хто стрымае голас
Песні раскаванай?!

* *
*

У краіне гордай, горы дзе пад неба,
Дзе быў прыкаваны Прометэй да скалы,—
Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба
Сулейман гаротны, наш песняр удалы.

Гналі, высмявалі багачы і князі,—
Яго песні-думы былі ім не мілы.
У сваім ауле з гора не вылазіў,
У бядняцкай саклі шчасце не гасціла.

Ды мінулі годы
Бедаў і кайданаў,
Прышлі радасць, воля
У хату Сулеймана.

Песні яго ў людзі
Вышлі гулка, дзіўна.
Удаўся ў Сулеймана
Голас салаўіны.



## Сулейман Стальскі

Памёр народны паэт Дагестана, ордэнаносец Сулейман Стальскі. Вялікую частку свайго доўгага і складанага жыцця Сулейман Стальскі прысвяціў песням пра народнае гора, пра народныя надзеі на будучае вызваленне, і яму выпала шчасце дажыць да здзейснення самых радасных мараў народаў і стаць у рад перадавых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства. Творчасць Сулеймана Стальскага—адна з лепшых старонак совецкай літаратуры.

* * *

Аб Сталіне мудрым, аб жыцці шчаслівым,
Што бурліць сягоння залатой крыніцай
Аб людзях—героях, аб цвітучых нівах
І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца,—

Былі твае песні, ашуг Дагестана,
А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся,
І рэха ляцела дарогаю слаўнай
Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.

Спі песняр наш родны!
Ты жыццё прыгожыў.
Аб табе таксама
Народ песні зложа.

Будзеш жыць ты ў сэрцах
Думкаю арлінай
На красу і славу
Роднае краіны!

Кіславодск
27/XI—37 г.

*Сулейман Стальскі*

# СТАЛІН

Жывое ў новы рушыць дзень,
Магутных партыя вядзе,
За ёю ўвесь народ ідзе,
І ты штандар іх, Сталін.

Для ўсіх працоўных—ты святло,
З юнацкіх год нам шлеш цяпло,
Вядзеш—дзе знікла гора-зло,
Дзе толькі радасць, Сталін.

За годам год—ідуць гады,
Ты нас ратуеш ад бяды,
І ўсё прадбачыш праз гады
Вялікі, мудры, Сталін.

Ты прагу ворага знішчаў,
Нас перамогам навучаў,
Ты ў рукі слабых ключ аддаў
Ад новых дзён, наш Сталін.

На ўвесь сусвет вядомы ты,
І спраў славутых майстар ты,
Ты знаеш думкі беднаты,
Цябе пяю я, Сталін.

*Пераклаў МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.*

*Сулейман Стальскі*

## ПРА ДРУЖБУ НАРОДАЎ

Шчаслівай песняй кожны дзень
Мы шлем таварышам прывет
І хмары чорнай, злой як цень,
Не засланіць вясны прывет.

Тут спеюць лепшыя плады,
Вакол шумяць жыцця сады
Ў адзенні пышным маладым.
Зямлі совецкай наш прывет.

З'ядналы дружбаю адной,
Плямёнаў мнагалікіх строй,
Іх песні мчацца над зямлёй,—
Для бацькі Сталіна прывет.

Без дружбы ў цемры між сабой
Хадзілі воўчай мы трапой.
І цёмны лес над галавой
Нам сонца засланяў прывет.

Але нас партыя вядзе,
Нам добра, шчасна, як нідзе,
І сонца яснае штодзень
Нам шле гарачы свой прывет.

*Пераклаў МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.*

*Сулейман Стальскі*

# ІСПАНСКІЯ ГЕРОІ

Мужнейце! Родны край за вас,
Іспанскія героі!
Апошніх боек блізкі час,
Іспанскія героі!

Да вас сусвету слава мчыць,
Братэрства, дружба вас крыліць,
Іспанскія героі!

Фашысцкі кат на край насеў,
Ён вашым сем'ям смерць нясе,—
Іспанскія героі!

Фашысцкіх псоў няшчадна гнаць,
Сусвет не будуць псы таптаць,
Іспанскія героі!

У вас магутнасць моцных рук,
Адважных сэрцаў роўны стук,
Іспанскія героі!

Працоўны з вамі ўвесь народ,
На бой! Няма вам перашкод,
Іспанскія героі!

Сусвет пра вас складае сказ,
Бадзёрыць дапамогай вас,
Іспанскія героі.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

*Влад. Глазырын*

# ПЕРАД РАССТРЭЛАМ

Навела

Іх трое сядзела ў цёмным каземаце Сан-Бернардзінскага манастыра. Адзін з іх быў комуніст, двое беспартыйных. Яны сядзелі без допыту ўжо шэсць дзён. Пры захопе ў палон пад Картуз-Бярозай іх чамусьці вылучылі ад астатніх таварышоў і нават пад канвоем суправаджалі асобна. Можа таму, што яны больш упарта чым астатнія адстрэльваліся да апошняга патрона і гэта бачыў паручык, які камандаваў ротай пазнанцаў. Усе палонныя былі адпраўлены ў пасёлак Альберцін, а іх, траіх, здалі пад нагляд манахаў, і тыя не прамінулі засадзіць іх у адзін з казематаў глыбокага падзямелля.

Манахі, на думку дэфензівы, больш надзейныя за самых верных турэмшчыкаў, а падзямелле будзе вартаваць гэтых небяспечных палонных лепш, чым астрогі ў Павіаках.

Яны амаль не ведалі адзін аднаго. У адзін узвод яны сышліся дні за два да бою, дзе папаліся ў палон.

Раз у суткі цяжкія каваныя дзверы камеры са скрыпам адчыняліся, упускаючы свежае паветра звонку. З'яўляўся з ліхтаром манах. Твар яго, зарослы даўгой шчацінай, быў сярдзіты, і без таго непрыемныя вочы пазіралі на зняволеных злосна; полы расы падаткнутыя пад вяроўку, якая была ў яго замест пояса, рабілі яго падобным на пудзіла. Ён кідаў тры кавалкі хлеба і ставіў вядро з вадой. У гэты час у дзвярах маячылі яшчэ дзве цёмныя манашскія постаці, твар іх хавала цемра.

Адбывалася гэта ў дзевяцьсот дваццатым годзе, але ўся абстаноўка падзямелля разам з каталіцкімі манахамі вельмі нагадвала сцэну з часоў сярэдневякоўя.

З-за перанаселенасці арыштаванымі павятовай турмы найбольш небяспечных зняволеных аддзяленне дэфензівы трымала ў падзямеллях манастыра.

Настаяцель бернардзінцаў прапанаваў надзейную варту з манахаў і толькі адзін палявы жандарм быў у манастыры для агульнага назірання за вартай.

На сёмы дзень выклікалі на допыт, па адным. Рабіў допыт следчы ў форме сержанта, ён гаварыў па-руску чыста, без акцэнта. Допыт, вярней—абвінавачванне, зводзілася да аднаго—усіх абвінавачвалі ў большэвізме і патрабавалі ў гэтым сазнацца.

У адказ усе трое, як па згавору, маўчалі. Сержант злаваў. Ён пагражаў наяўнасцю нейкіх доказаў, і па адным кожнаму, ва ўзна-

гароду за жыццё, прапаноўваў выкрыць таварышоў. Двое неўразумліва глядзелі на сержанта; трэці, закусіўшы губы, маўчаў. У руках сержанта з'яўляўся касцет, якія носяць апашы на парыжскіх ускраінах, і ўсіх траіх, па адным, збівалі. З вузкіх гатычных прарэзаў вокан у поўзмрок бібліятэкі падалі тонкія праменні сонца, яны светлымі плямамі асвятлялі падлогу, ватыканскую мэблю з інкрустацыямі з біблейскага жыцця, пазалочаныя карашкі кніг у высокіх шафах. Вялікія гуманісты ўсіх эпох глядзелі з кніжных паліц фаліянтамі сваіх тварэнняў на дзікую расправу.

А людзі, нічога апроч сваіх прозвішчаў, імя, года і месца нараджэння, сказаць стараннаму сержанту не маглі.

Сержант пры ўсёй сваёй маладосці, службу выконваў з запалам. У завучанай ім напамяць інструкцыі палявой дэфензівы гаварылася: „пры палоненні той або іншай партыі чырвонаармейцаў, вылаўліваць комуністычныя групы і, ізалюючы іх ад навакольнага асяроддзя, аддаваць пад ваенна-судовае следства, з перадачай справы ваенна-палявым судам. Чыноў палявой паліцыі за паспяховае выяўленне большэвікоў заахвочваць па службе грашовай узнагародай, павышэннем у чыне і г. д.“

Андрэю Паўлоўскаму было ўсяго дваццаць тры гады. З чырвонагвардзейцаў ён разам з таварышамі перайшоў у Чырвоную армію. Гэта было ў Маскве. А да гэтага—16 і 17-гады, ён быў на фронце. У шпіталі, дзе ён ляжаў, яшчэ да кастрычніцкіх дзён, ён стаў большэвіком. Ні раненая нага, ні кантузія яго не стрымалі—ён ірваўся на фронт. Ён быў беларус—радзіма яго была акупавана палякамі. Гэта быў бадзёры, жыццерадасны чалавек, нават у сырым каземаце яго не пакідала весялосць. Толькі часам па яго твары і вачах, як цень, прабягала задуменнасць. Але гэта хутка праходзіла і ён увесь час стараўся ў сваіх таварышоў па турме падтрымліваць настрой.

— Двум смярцям не быць, аднае не мінуць,—казаў ён чырвонаармейцам,—патрымаюць ды выпусцяць. Голад вось толькі,—эх, сала-б цяпер засквасыць, ды бульбы ў ахвоту...

І здавалася, людзі звыкліся са сваім становішчам, размаўлялі і нават жартавалі, але раптам гутарка абрывалася і ўсе трое задумваліся, і цяжкую паузу гэтую зноў перарываў Паўлоўскі.

— Эх, Мітрошка,—звяртаўся ён да аднаго з хлопцаў,—раздолле цяпер на Волзе, пад Саратавам...

Мітроша Скалкін, валжанін родам, адразу ажываў, вочы яго пачыналі блішчэць, з'яўлялася ўсмешка, відаць было, што яму хацелася гаварыць, расказваць таварышам пра Волгу, пра родны горад Саратаў, але гаварыць прыгожа ён не ўмеў і пачаўшы апавядаць, адразу-ж пераводзіў на іншае.

— Гармонію-б мне цяпер... з бубенчыкамі-б, саратаўскую, эх, павесяліў-бы я вас, родныя таварышы...

Абапёршыся на рукі, ён утаропліваўся позіркам у сцяну, і здавалася, нібы там, за цаглянай сцяной, ён бачыць сваю радзіму, Волгу, сябе з гармонью, карагоды дзяўчат у каляровых сукенках, стэпы заволжскія і чуе песні родных берагоў,—вочы яго засцілаліся туманам, вось-вось гатова была выскачыць няпрошаная сля-

зінка, але перамагаў ён сябе—адварочваўся, моўчкі пазіраў на таварышоў сухімі гарачымі вачамі. І заўсёды сутулаваты, з выгляду пануры, ён яшчэ больш сутуліўся і хаваў у падлогу свой позірк.

Трэці быў невялікага росту, з выразна вызначанымі надсківіцамі і крыху раскосымі вачамі. Твар яго быў смуглявы, на галаве кучаравіліся чорныя валасы. У яго былі прыгожыя вочы, яны былі падобны на вячэрні заход сонца ў неабдымных прасторах роўных стэпаў. Не гледзячы на сваё мангольскае паходжанне, ён вельмі добра гаварыў па-руску. Ён быў башкір з Белебея. З дзіцячых год, задоўга да імперыялістычнай вайны, ён жыў у Маскве—працаваў хлопчыкам у адным з усходніх магазінаў і стараўся як даводзілася,—дзе крадком, а дзе і не хаваючыся, атрымаць адукацыю. Ведаючы рускую грамату, ён шмат чытаў. Бацькоў ён не памятаў. У Маскву яго прывёз адзін гандляр. У Чырвонай арміі ён быў добраахвотнікам з восемнаццатага. Калі Паўлоўскі загаварыў пра Волгу, ён таксама пачынаў хвалявацца і апавядаў пра Уфімскую губерню, апісваў башкірскія вёскі, стэпы, башкірскіх доўгакосых дзяўчат са звонкімі маністамі. Ён гаварыў пра башкірскіх інаходцаў, пра смак кумысу, напяваў родныя мелодыі, а аднойчы ён расказаў, як ён скакаў па стэпу на цудоўнай рыжай кабыліцы, якая была як вецер. Ён любіў сваю радзіму і маючы багатую фантазію, расказваў пра яе з такімі маляўнічымі падрабязнасцямі, што стваралася ўражанне, нібы ён чытае кнігі мастака-паэта. А двое, стаіўшы дыханне, слухалі яго доўгія апавяданні і забываліся калі дзень, калі ноч, калі прыходзіў вечар і калі пачыналася раніца.

Настаў дзевяты дзень. Гэта было 15 ліпеня 1920 года. Паўлоўскі зранку быў задумённы і бадай сумны. Калі-б за ім уважліва наглядаць, дык можна было-б заўважыць, што ён хоча нешта сказаць таварышам, але як быццам не адважваецца. Пасля працяглых унутраных хістанняў ён, нарэшце, загаварыў.

— Хлопцы...—яго голас дрогнуў,—Скалкін, Гарыфулін, я—комуніст, вы можа здагадваецеся...—ён адразу змоўк, позірк яго накіраваўся недзе ў поўзмрок скляпення. У надыйшоўшай цішыні было чуваць, як у кутку камеры падалі на салому кроплі сцякаючай па скосах столі вады. Двое напружана пазіралі ў вочы трэцяму. Памаўчаўшы, Паўлоўскі працягваў:—Калі мяне ў гэтым прымусяць сазнацца, вам лягчэй не будзе. Свой канец па ходу следства я прадбачу. Па маёй рабоце ў часе нямецкай акупацыі ў сябе на вёсцы следчы мае нейкія даныя. Мяне ад вас забяруць, а вас па-ранейшаму будуць збіваць, дамагаючыся, каб вы прызналі сябе комуністамі. А калі вы,—голас яго стаў глухім, ён цяпер гаварыў ледзь чутна,—заявіце следчаму, вас перавядуць у лагер ваеннапалонных. Пройдзе нейкі час і вы вернецеся дамоў...—Ён змоўк, апусціўшы галаву. Супроць яго сядзеў Скалкін, ён таксама схіліў галаву, яго губы без гуку перабіралі нейкія словы, а Гарыфулін, адвярнуўшыся, пазіраў у далёкі, цёмны кут каземата.

У камеры зрабілася яшчэ цямней. У гэты вечар не было вымаўлена ні аднаго слова. Не размаўлялі яны і назаўтра да самага поўдня. У поўдзень па ўсіх траіх прышлі. З каземата іх узяў узмоцнены канвой. У вялікай манастырскай

зале да канвою далучылася група ўзброеных салдат. У маленькім, з порцікамі, манастырскім дворыку салдат набралася да ўзвода. Стаяў ясны летні дзень. Сонца залівала чырвоную чарапіцу манастырскіх будынкаў. У куце двара буркаталі галубы. Са скрыпам расчыніліся вялікія, каваныя палосамі жалеза ў стрэлку вароты. Хаця гэта было і ўдзень, гарадскія вуліцы былі пустыя. Прайшлі праз два-тры завулкі і вышлі да моста праз раку. У роўных берагах спакойна, ззяючы на сонцы строгай сінявой, цякла Шара. Ішлі лугам да лесу. На лугавой дарозе іх абагналі два конныя жандармскія афіцэры, адзін з іх быў следчы ў форме сержанта.

Спыніліся каля самага лесу.

Было зразумела—іх прывялі расстрэльваць. Абкружаныя канвоем, яны, здавалася, яшчэ не разумеюць усяго, што мае адбыцца. Падышоў сержант. Выняўшы з абшлага мундзіра складзеную ў чатыры паперу, фанабэрыста закінуўшы галаву і, глянуўшы на стаяўшага воддаль другога афіцэра, ён звярнуўся да чырвонаармейцаў.

— Вось прыгавор. Усе трое абвінавачваецеся ў прыналежнасці да партыі большэвікоў... хаця мы не ўпэўнены, што вы большэвікі ўсе,—голас яго стаў лагодным, украдчывым,—прапаную выдаць большэвікоў, той, хто хоча жыць, гэта зробіць...

... І вышлі наперад Скалкін і Гарыфулін... Чакаў ад іх сержант адказу, раскрыўшы шырока вочы. Было-ж столькі допытаў і ні адзін з іх...

— Я комуніст,—сказаў Скалкін,—ён не выціснуў з сябе гэтай кароткай фразы, як ён звычайна гаварыў, а вымавіў яе гучна і выразна. Заўсёды сутулаваты, ён выпрастаўся, позірк яго, страціўшы заўсёдную пахмурнасць, быў ясны і дзёрзкі.

— Я таксама комуніст,—сказаў Гарыфулін і, зрабіўшы секундную паузу, як-бы пацвярджаючы, сказанае, паўтарыў:

— Комуніст.

... І моўчкі зрабіў крок наперад, выраўняўшы шэрэнгу, Паўлоўскі... Ён загаварыў:—Пан сержант, я большэвік, гэта чырвонаармейцы, мае таварышы, але яны...

— Маўчаць!—закрычаў сержант. Будзе лішне аб'яўляць гэтай сволачы прыгавор. Ён раз'юшыўся, нічога падобнага ён не чакаў.— Капрал, прывесці прыгавор у выкананне.

Насупроць іх, асуджаных, стаялі шарэнгай дзевяць пазнанскіх стралкоў. Дзевяць манліхераў глядзелі ім у грудзі, па тры ў кожную. Адзін быў комуніст, а двое, двое... таксама комуністы. У партыю ўступілі некалькі хвілін назад.

Губы Паўлоўскага хацелі скласціся ў слова: „нашто"? Але двое, што стаялі з ім побач, пазіралі на яго ясна і цвёрда. Вочы іх выяўлялі абыякавасць да смерці.

— Дзякую, таварышы...—няголасна сказаў Паўлоўскі,—дзякую.

На сонцы блеснулі дзевяць вінтовак, яны замерлі ў адной лініі, на вышыні чалавечага сэрца... Яшчэ момант і...

Але чаму дрогнулі вінтоўкі ў руках салдат... Вунь яно што... Ад лесу аддзялілася група коннікаў...

Было выразна відаць, як ад лесу імчаліся конныя чырвонаармейцы.

Пазнанцы кінуліся наўцёкі. Сержант паспеў ускочыць на каня, але быў абкружаны. Уцякаць не было куды. Тых, што супраціўляліся, знішчылі, рэштку забралі ў палон.

Фронт быў недалёка і гэта быў раз'езд кавалерыйскага палка, што прарваўся ў тыл пад Слонім.

* * *

Праз тыдзень у манастырскай высокай залі засядаў палкавы парткалектыў. Разглядалася вусная заява пра ўступленне ў партыю перад расстрэлам байцоў Скалкіна Мітрафана і Гарыфуліна Садыка. Калектыў пастанавіў абодвух зацвердзіць званнем сапраўдных членаў Расійскай Комуністычнай Партыі Большэвікоў.

*Міхась Калачынскі*

## КАСТРЫЧНІЦКІ ПАРАД

Плывуць раніцой ад ракі туманы
На белы, на каменны горад,
Як дым грамадзянскай, мінулай вайны,—
Якою развеяна гора.

Узбуджаны горад пылае красой,
Шугае узбураным морам.
Гарацьь над зубчатай крэмлёўскай сцяной
Рубінавым колерам зоры.

Па вуліцах роўных з кварталаў усіх
Ідзе непрыступная сіла—
Дачок і сыноў гераічных сваіх
Масква святкаваць запрасіла.

Жалезнай хадою ступае народ.
Праходзіць Чырвоная Прэсня,
Што ў лівень свінцовы ў семнаццаты год
Сцяг мужнасці слаўна пранесла.

Ідуць маналітнай сцяною палкі
У парадных шынелях і касках.
Ідуць: і песняр, і ашуг, і акын,
Каб скласці пра дзень гэты казкі.

Крэмлёўская плошча, гасцей прынімай,
Што йшлі на твой заклік у буры.
Стаяць мураваныя сцены Крэмля.
Народы стаяць ля трыбуны.

Выходзіць з Крэмля дарагі чалавек,
У кругу палкаводцаў, наркомаў
І вокліч:—Хай Сталін любімы жыве!
Грыміць, як вясновыя громы.

І ледзьве руку правадыр прыузняў
Над плошчай, над громамі гукаў—
Туман разыйшоўся
І ў золаце дня
К яму працягнуліся тысячаў рукі.

Палошчуць суровыя сцены Крэмля
Прыветаў людскіх адгалоскі.
Уторыць бязмежная наша зямля
Параду на плошчы Крэмлёўскай.

Так поўныя рэкі бушуюць з вясны,
Раскутыя ласкавым сонцам.
Так роднай Совецкай радзімы сыны
Вітаюць вялікага творцу.

Менск, 7/XII—37 г.

*Алесь Бачыла*

## НА СТАДЫЕНЕ

На старт пасталі бегуны—
І сціхлі людзі ў шумных ложах.
Узмах флажком. Бягуць яны:
Пяць тысяч метраў падарожжа.

Мая суседка між другіх
Сябе ў спакоі не стрымала.
Я зразумеў, што дарагі
Яе адстаў, адстаў не мала.

Ягоных рук мацнеў размах,
Не зналі ногі яго стомы...
Яна хмурнела і сама
Была да лішняга рухомай.

Не стала сіл глядзець. Рукой
Закрыла ў суме яна вочы,
Каб свайго сэрца неспакой.
Не выдаць поглядам дзявочым.

Апошні круг... І як мяжа,
Павісла лента над дарогай.
Яна ўсхапілася... як жар,
Прайшла душэўная трывога.

Яе каханы, што ёсць сіл
Ідзе ў абгон. Ён прыдзе першым,
Каб гонар прызу свой насіць,
Каб сэрца стомленае ўцешыць.

І я быў рад на іх глядзець:
Яго яна так абнімала,
Што, каб было там менш людзей
То ад душы-б пацалавала.

1937 г.

# РАЗВІТАННЕ З ЛЕНІНЫМ

Халодны студзень, траурныя маршы,
І весткі сумныя плылі па ўсёй зямлі...
Ішлі мы да Крэмля з заводаў, фабрык, пашаў,
Дзе вечным сном спаў дарагі Ільіч.

Ішлі маўклівыя і ў жальбе нестрыманай
Часамі слёзы капалі з расніц,
Як град на ціхі, ў крэп увіты, ганак,
Каб сум народны ў думах засланіць.

І сэрца горам сціснута халодным,
Душэўна плакала ва ўсіх таварышоў,
Калі сляпога ўбачылі на ўсходах:
Ён развітацца з Леніным прышоў.

Яму сказалі:—Вам яго не ўбачыць
І скрозь жалобу, скрозь вялікі боль,
З якою радасцю хацеў бы ён іначай
Прасціцца з Леніным, каб бачыць прад сабой.

— Нічога, я ў цішы людской, зняменні
Адчую вобраз...—і пайшоў к труне.
Пазней сыходзіў ён з народам па ступенях
У слёзах развітання, як у сне.

Ён нёс у сэрцы дзіўным уяўленнем
У думах вобраз генія людзей,
Сказаўшы сумнае:—Бывай, таварыш Ленін,
Я больш цябе не ў сілах паглядзець.

Не паглядзець... А думкі набягалі,
Ім у жыцці ягоным не астыць.
— Ён, дарагі, адкрыў нам нашы далі,
Якіх ніхто не ў сілах быў адкрыць.

Ён асвяціў нам нашыя дарогі,
Каб больш не знаць нам гора і бяды,
Разбіў няволі царскае астрогі
І адышоў... вялікі правадыр.

1937 г. в. Сініло.

*Усевалад Краўчанка*

# НА ПАРАХОДЗЕ

Апавяданне

Гарачым поўднем наш параход, велічэзны светлы прыгажун, адваліў ад прыстані. Капітан гукнуў „поўны наперад“ і параход, развярнуўшыся, хутка пайшоў бліскучай лагунай. Спераду і ззаду нас снавалі па рацэ маторы, хадзілі буксіры, цягнучы за сабою баржы, гружаныя лесам, вугалем і другім дабром, насіліся лёгкія байдаркі з загарэлымі купальшчыкамі ў іх. Пляж на супроцьлеглым беразе Дняпра быў падобен на стракаты мурашнік—там кішэла людзьмі, аматарамі паляжаць на сонцы, паплаваць у празрыстых халодных водах ракі.

Кіеў, гэты горад незвычайнай прыгажосці і велічнасці, заставаўся ззаду. Паводаль з Дняпра, ракі успетай Гогалем, ён, чысты, свежы, укрыты зеленню агромністых садоў, пакідаў незабыўнае ўражанне. Нават адсюль, здалёк, ясна адчуваўся поўны пульс яго жыцця, маладога і здаровага. Вось у небе, ясным і празрыстым, чэрцяць дзіўныя фігуры самалёты. Гул матораў не далятае да нас, ці можа яго заглушае клапатлівы перабор параходных лопасцей, толькі відаць, як стройнымі звеннямі лётаюць самалёты над горадам. Але вось самалёты паляцелі строем і з іх дажджом ледзь прыкметных чорных кропак скінуліся парашутысты. Чырвонымі макаўкамі расцвітаў над горадам шоўк іхніх парашутаў...

Велічным відовішчам захапляўся не адзін я. На карме палубы сабраліся амаль усе пасажыры. Нейкі ваенны падымаў на руках хлопчыка, каб яму было ямчэй пазіраць на горад. Тры юнакі з захапленнем сачылі за парашутыстамі. Старэнькі абапіраўся на бамбукавы кіёчак і праз акуляры любаваўся відовішчам. Група дзяўчат залівалася смехам, пазіраючы на прыстані—што яны бачылі там смешнага, невядома. Каля мяне на лаўцы сядзеў паджылы яўрэй у акулярах. Ён пазіраў на Кіеў і церабіў чорную кліночкам бародку.

— Хэ,—сказаў урэшце ён, звяртаючыся да мяне, і хітра прыжмурыўся.—Шолам Алейхем называў гэты горад Егупецам... Егупец—як вам гэта падабаецца? Я хацеў-бы, каб Шолам Алейхем прыехаў цяпер у гэты горад, як я, і пагасціў, як я, два тыдні ў свайго зяця? Што? Цікава, як-бы ён цяпер назваў гэты горад?

Макаўкі адна за адной знікалі ў садах маладога горада. Два блакітных глісеры праімчаліся каля нашага парахода, і на адным з іх дзяўчына ў матроскай шапцы смяючыся памахала нам прывітальна рукой. Глісеры не пакідалі за сабою хваль, яны ляцелі,

здавалася, паверх вады, толькі два пенных хвасты імкліва цягнуліся за імі па Дняпру.

У гэты час па трапу вылез на палубу яшчэ адзін пасажыр, невысокі, апрануты ў вышываную кашулю, селянін. На худашчавым твары яго не было барады, але затое вялікія вусы пышна развіналіся ў бакі. Асцярожна трымаючы аберуч, ён нёс перад сабою нейкую скрынку, старанна абкручаную паперай і ўмацаваную шпагатам. За селянінам вылез на палубу хлапчук, гадоў дванаццаці, у такой-жа вышыванай кашулі, з тварам, густа ўкрытым вяснянкамі. Як відаць, гэта былі бацька і сын. Бацька асцярожна паставіў на лаўку тую скрынку, якую ён так беражліва нёс і, выпрастаўшыся, выцер з ілба рукавом пот. Потым селянін узрушана паглядзеў на горад, які велічна разлёгся на гары.

— Толік,—строга сказаў ён сыну.—Ты глядзі на гэты горад. Запамінай, які ён. Твая бабка, а мая маці, Ефрасіння, пешкі з Забалоцця шэсць разоў хадзіла туды маліцца. У ім было чорт ведама колькі цэркваў. Ці багата ты зараз бачыш іх?

Толік, хлопчык з пукатымі вачамі і праз меру вялікім лобам, дзіўна маргаў, паглядаючы на горад.

— А дзе яны цяпер? Ці з іх парабілі клубы?

Бацька горда матнуў галавой:

— Ні адной цяпер царквы ў Кіеве няма. Вось...

І ён паказаў рукою на памаладзелы горад. Светлыя, велічэзныя будынкі, рыштаванні новабудоў, коміны фабрык і заводаў, і сады, сады, паркі. Да ракі з круцізны Владзімірскай горкі спускаўся вагончык фунікулёра. Па Дняпру цэлымі статкамі бегалі маторы, таўкліся каля прыстаней параходы.

На лаўцы побач з селянінам паварухнулася жанчына. У шырачэзнай крамнай спадніцы з акуратна падвязанай пад бараду хусткай яна, як старая, пажавала губамі. Голасам скрыпучым і тонкім жанчына праказала:

— А вот і ёсць...

Селянін непрыязна паглядзеў на яе і апусціў руку, якую, забыўшыся, увесь час трымаў выцягнутай. Яму было прыемна і ён хацеў верыць, што ў Кіеве сапраўды не засталося ні адной царквы. Але жанчына настойліва і зларадасна паўтарыла.

— А вот і ёсць, кажу... Цэлых дзве царкаўкі ёсць, адна на Падоле і на гары адна. Сама іх наведала. Няма чаго вельмі радавацца.

І сапраўды, радавацца, паглядзеўшы на гэтую жанчыну не было чаго. Ад яе веяла сумам. Жоўты невялічкі твар з шырокім храшчаватым носам на ім, вочы, агорнутыя павалокай суму і ўся яна, нейкая зморшчаная, заляжалая, бы старая рэч, вынесеная на вецер для прасушкі, так не пасавалі да сонечнага дня, да настрою селяніна, што ён у замяшанні адразу нават не знайшоўся што адказаць ёй. Моўчкі ён крыху пастаяў, потым незадаволены—жанчына атруціла яго радасць—беражна ўзяў сваю скрынку і моўчкі перабраўся на нашу лаву. Захапленне і энтузіязм адразу-ж вярнуліся да яго. З бліскучымі вачамі ён зноў пачаў гаварыць сыну пра Кіеў.

Гонкая хваля бегла за параходам не адстаючы і не абганяючы нас, і толькі, нібы саромячыся чаго, закрылася пенным шумлівым грэбнем. Плылі берагі, з правага боку—агромныя горы, нібы ўскінутыя рукою волата к небу, злева—роўнядзі сенажацей. Кіева ўжо не было відаць, ён паволі таяў, захаваўшы толькі агульныя няясныя сінія абрысы, ды рэзкія бліскучыя блікі залачоных вежаў.

Наш сусед, яўрэй з клінаватай чорнай бародкай паварушыўся і выпадкова крануўся локцем скрынкі, якую так беражна ахоўваў селянін. Той усхвалявана папярэдзіў:

— Прашу вас, асцеражней.

Яўрэй ветліва папрасіў выбачэння і тут-жа цікаўна запытаў:

— Што гэта за дарагую рэч вы набылі сабе ў горадзе?

... З высокай кручы ў Дняпро кінуўся стройны загарэлы плавец. Тонкае смуглае цела яго выдаўжылася, і ён стаў падобным на стралу, пушчаную з лука. Здавалася, ён плыў ужо, плыў не дасягнуўшы вады, у паветры. Іскры пырскаў не далі магчымасці бачыць, як яго бліскучае цела акуналася ў ваду. Вада захвалявалася, хвалі кругамі пабеглі да берагоў, пухіркі паветра ланцужком пацягнуліся за вадою ад таго месца, дзе нырнуў смяляк—а плаўца ўсё не было. Яго чорную галаву вынесла на сабе хваля нашага парахода. Плавец фыркаў і абціраў рукою мокры твар...

— Гэта я не для сябе купіў. Гэта я для калгаса, у клуб купіў. Толік, як яе называюць?

Толікавы вочы адшуквалі за блакітнай завесай паветра нябачны горад, ён абыякава кінуў.

— Радыёла,—і хуценька паясніў,—гэта такі апарат.

Селянін падсунуўся бліжэй да яўрэя і ўзяў яго за рукаў.

— Я вам скажу, радыёла будзе радасцю для ўсяго нашага калгаса. Нашу вёску завуць Забалоцце, а калгас мы назвалі „Торны шлях“. Калі-б толькі вы чулі музыку радыёлы... больш цікавай музыкі можа і няма на свеце. Гэтаю вясною ў наш калгас правялі ток і наш старшыня паслаў мяне ў Кіеў па радыёлу. „Едзь, кажа, Пракоп, купі гэтую штуку, няхай калгасніку будзе ахватней наведаць клуб. То я цяпер здаволены дадому еду. Дастаўлю радасці людзям. Мяне дома чакае толькі адна непрыемнасць—жончыны слёзы. Не падумайце, што здарылася ў сям'і якое гора. Хай мінае нас гэтае. Ды і на гора яна ў мяне цярплівая, пражыў я з ёю трыццаць гадоў, гора бачыў нямала, а слёз яе не бачыў. Вот заплакала яна толькі, калі сын мой Косцік, статны такі, раскрасавец проста, на пабыўку з арміі прышоў. І слёзы ў яе коцяцца, і шчаслівая яна ўся, смяецца скрозь слёзы. Ад шчасця з радасці плача. І маё сэрца, гледзячы на яе, размякла. Ну, а цяпер прывязу я гэтую цацку, пачуе яна музыку дзівотную—зноў заплача. Эх, ужо слёзы мне гэтыя... А берагу таму, што далікатная вельмі штука гэта, лямпачкі, розныя дроцікі, мала што можа здарыцца...

Яўрэй задумліва глядзеў на берагі, падпёршы рукою бародку.

— Дык калі ў цябе багата дзяцей, як у мяне, і яны шчасліва жывуць, як мае, то тваёй жонцы цяпер часта даводзіцца плакаць?

Селянін горача падхапіў:

— І плача... І плача... Толькі рэдка яны, галубкі, прылятаюць,

па ўсяму бел-свету паразляталіся. Адзін на Усходзе на Дальнім працуе, дачка ў Маскве вучыцца, Косцік служыць, трэці сын рыбалоў на Мурмане... Асцярожна, лайдак,—раптам перарваў свой расказ селянін, звярнуўшыся да Толіка—не круціся тут, яшчэ зачэпіш ды скінеш у ваду... Адзін во гэты пры доме застаўся ды яшчэ дзяўчынка малая, ну а з яго радасці мала, толькі штаны па платах лазячы дзіравіць.

Насустрач нам плылі плыты. Над фанернай будкай, у якой спалі плытагоны, на жардзіне развяваўся невялічкі чырвоны сцяжок. Параход замарудзіў ход, каб размінуцца з плытамі. Там каля будкі, на калодзе, юнак без сарочкі, з падкасанымі калошамі штаноў іграў на балалайцы і весела падпяваў частушкі.

Эх, манахі, ды папы,
Ды чэрці даўгагрывыя...

Кругом юнака стаялі плытагоны, і пасля кожнага куплета узнагароджвалі спевака дружным узрывам рогату.

Сухатварая зморшчаная жанчына на суседняй з намі лаўцы адвярнулася і пазірала на сенажаці. Увесь час яна непрыемна, як старая, жавала губамі. У яе вачах хаваўся невыказны сум, ёй цяжка было глядзець на людскую радасць.

— Чаго-ж я сяджу, як які-небудзь свінтух,—раптам сказаў чорнабароды яўрэй,—я пачастую вас смачным кавуном.

Ён устаў з лаўкі, выцяг з кошыка паласатага кавуна і засмяяўся смехам шчаслівага чалавека.

— Я кажу свайму зяцю: спыніся, Барыс, не кладзі мне ў кошык столькі дабра, мне ўсяго шэсць гадзін ехаць параходам. Куды там! Ён не слухае мяне, і мосціць, і мосціць, і дачка мая, кудравая козка Роза дапамагае яму, і наверх яны палажылі гэтага кавуна Ну? Як вам гэта падабаецца?

Селянін выняў з кішэні складаны ножык і ўзяў кавуна з рук яўрэя. Параход размінуўся з плытамі і хвалі зноў пагналіся за намі, з шумам б'ючыся ў берагі. Свежы вецярок прыемна лашчыў твар, гарэзліва забіраўся пад сарочку, астужваў цела, нагрэтае спякотай летняга дня. Па палубе з вясёлым смехам па дзіцячаму бесклапотная бегала трохгадовая дзяўчынка ў кароценькай белай сукеначцы. Следам за ёй хадзіла маладая маці. Расставіўшы рукі і шчасліва смяючыся, яна рабіла выгляд, што хоча злавіць дзяўчынку. Тая смешна тупаючы тоўсценькімі ножкамі, старанна ўцякала ад маці.

— ... Кім вы думаеце працуе мой слаўны зяць Барыс? У вас можа склалася думка, што ён інжынер або прафесар? Калі-б на свеце жылося добра толькі інжынерам і прафесарам, то я-б першы сказаў дзякуй вам за такое жыццё. Мой Барыс шофер, але я хацеў-бы, каб у Кіеве знайшоўся другі такі шофер, які-б умеў ездзіць па горадзе на машынах так, як умее ездзіць Барыс... Хм, я хачу вас папярэдзіць, вы не праглыніце зернятка, а то яно, барані вас ад гэтага, можа трапіць, як кажа мой унук Лёва, у абсалютна сляпую кішку, і можна на старасці захварэць жыватом... Так. Паверце, калі Барыс катаў мяне па горадзе на сваёй блішчастай ма-

шыне (пасля работы, не падумайце, што...) то, я вам скажу, увесь Кіеў паглядаў на мяне, старога Ісака-Мендла з мястэчка Балоцічы. Вы думаеце, я не набраўся страху? На адной вуліцы Роза насмешліва кажа: „што гэта за хуткасць? Барыс пакруціў ручку, і мы паляцелі хутчэй паштовага голуба. Што? Я думаў, мы наляцім на слуп, перавернем воза і ўдарымся ў сцяну. Хіба гэтага не хапіла-б на нас трох? Ну і, як бачыце, застаўся жывы. „Я яшчэ ніколі на валасок нікога машынай не закрануў,—сказаў Барыс, калі я ўчапіўся за яго рукаў,—і, калі ласка, адпусціце маю руку“... Ну? Я хацеў-бы ведаць, як напісаў-бы пра ўсё гэта Шолам-Алейхем? Вот я вам раскажу, што я бачыў у Кіеве. Мне ў нашым мястэчку давядзецца расказваць гэта шэсцьдзесят шэсць разоў, калі не больш...

... Маці ўрэшце дагнала сваю пяцігадовую дачку і высока падкінула яе на руках. Дзяўчынка захлёбвалася ад смеху і, раскінуўшы рукі, бездапаможна матляла ножкамі ў паветры. Толік стаяў абапёршыся на поручні і моўчкі выплёўваў у ваду зярняткі кавуна. Бацька яго ўважліва слухаў расказ яўрэя, і здзіўляючыся раз-по-раз ківаў галавой.

На параходзе прабілі склянкі, у рулявую рубку прышоў на змену новы рулявы. Стройны, чарнабрывы юнак стаў за рулявое кола, падстаўляючы свае мускулістыя загарэлыя грудзі свежаму сустрэчнаму ветру.

Я пакінуў лаўку і перайшоў на самы перад палубы, дзе на флагштоку развяваўся алы сцяг. Два пенных веера ўздымаліся ад носа парахода. Я ведаў зб чым далей будуць гутарыць мае суседзі па лаўцы, гэтыя двое незнаёмых дагэтуль чужых людзей: селянін з далёкага беларускага калгаса і яўрэй з украінскага мястэчка— яны будуць дзяліцца радасцю свайго новага жыцця.

в. Міхалкі, 1937 г.

*Б. Сасноўскі*

# У КЛУБЕ

Вецер голлем шостае ля вокнаў,
Ходзіць вецер блізка каля хат.
Вечарэе. Шэрыя валокны
Сцеляцца на вуліцу, на сад.

А ў клубе—сонечна і шчасна,
Электрычнасць яркая гарыць...
Добра людзям нашага калгаса
Размаўляць да позняе пары.

Брыгадзіры тут і тут даяркі,
Дзеці і сівенькія дзяды,
З розных месц вялікай гаспадаркі
Сёння пазбіраліся сюды.

За сталы шырокія паселі.
Шмат дзяўчат прыгожых і хлапцоў,
З намі разам—госці і суседзі
З недалёкіх сёлаў і двароў.

Ззяюць твары светла, прамяніста,
Мы, спавіты шчасцем нашых дзён,
Гутарым пра выбары ўрачыста,
Пра цудоўны сталінскі закон.

Папрасіла слова цётка Ганна—
Ёю ганарыцца ўвесь калгас:
— А было даўней жыццё паганым,
Голадам тамілі вечна нас.

Тых, каго хацелі—выбіралі,
З намі не лічыліся паны.
Год ішоў за годам—балявалі
На народных спінах груганы.

Дваццаць год, як мы не знаем гадаў,
Ў даль дарога светлая лягла.
Родная савецкая улада
Назаўсёды волю нам дала.

Дзякуй дарагі, любімы Сталін,
Што такой нас славай адарыў.
Мы цяпер—шчаслівы, бо мы сталі
Нашага жыцця гаспадары.

Самі мы ў Советы выбіраем,
Самі назначаем мы людзей,
Самі гаспадаркай упраўляем,
Каб жылося лепей, весялей...

... Вецер голлем шостае ля вокнаў,
Ціха лісце падае на дол.
Мяккія шаўковыя валокны
Разаслала ночка навакол.

*А. Дандураў*

# „ВЕПХІС ТКАОСАНІ"—НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭПІЧНЫ ТВОР*

У сусветнай паэзіі налічваецца нямнога твораў, якія валодалі-б такою даўгавечнай папулярнасцю і так глыбока пранікалі-б у народныя масы, як „Вепхіс ткаосані" Шота Руставелі. Гэты шэдэўр з'яўляецца ў поўным сэнсе слова народным здабыткам, але разам са славай сем з лішнім вякоў „Вепхіс ткаосані" суправаджае пытанне: што-ж паслужыла сюжэтам паэмы? Іранскае паданне, ці падзеі з грузінскага нацыянальнага жыцця.

Сюжэт паэмы вонкава вельмі нескладаны. У цара Аравіі Ростэвана—адзіная дачка, прыгажуня Тінатін, якую ён каранує на царства яшчэ пры сваім жыцці. У яго-ж выхоўваецца прыёмны сын Аўтандзіл, які кахае Тінатін. Жыццё тут працякае мірна, і хутка павінен надыйсці час, калі закаханыя маладыя людзі сыйдуцца на ўсё жыццё. Але ў часе урачыстасцяў з прычыны каранавання з'яўляецца невядомы коннік у барсавай скуры; ім зацікавіўся цар, але ўсе спробы даведацца, хто ён, канчаюцца нічым. Аўтандзіл накіроўваецца яго адшукаць і, знайшоўшы, даведваецца пра яго гісторыю. Імя яго Тарыель. Ён—прыёмны сын індыйскага цара Парсадана, у якога адзіная дачка, прыгажуня Нестан-Дарэджан. Тарыэль кахае царэўну. Але прыехаў жаніх сватацца да яе і, па просьбе царэўны, Тарыэль забіў яго. Цар разгневаўся, і Тарыэль прымушаны быў схавацца. У яго адсутнасць сястра цара загадала рабам схапіць царэўну і ўтапіць у моры. З таго часу ў глыбокім адчаю шукае ён знікшую Нестан-Дарэджан.

Аўтандзіл аб'ядноўваецца з Тарыелем і пры дапамозе Прыдона, іх агульнага сябра, ім удаецца высветліць, дзе знаходзіцца ўкрадзеная царэўна. Яны вызваляюць яе, і дзве закаханыя пары—Аўтандзіл і Тінатін, Тарыель і Нестан-Дарэджан—сыходзяцца назаўсёды.

На першы погляд можа здацца, што сюжэт паэмы не дае ніякіх падстаў меркаваць, што ён узяты з грузінскага жыцця. Сапраўды-ж, дзея паэмы адбываецца ў Аравіі і Індыі, героі не грузіны, быт іх, веравызнанне—мусульманскія. Каму-ж пры такіх умовах можа прыйсці ў галаву думка, што сюжэт гэты мае падобнасць з грузінскім жыццём?

І, аднак, першы, хто гаворыць пра гэта—сам аўтар. Ва ўступе Руставелі піша, што ён апявае царыцу-сонца—Тамару.

> Львэ, что знает меч блестящий, щит и копий свист летящий,
> Ту, чьи волосы—как чащи, чьи уста—рубин, Тамар,—
> Этот лес кудрей агатный и рубин тот ароматный
> Я хвалою многократной вознесу в сияньи чар.

---

* З кнігі „Шота Руставелі".

Гэтыя словы як быццам абавязваюць аўтара; ён павінен так ці інакш апісаць жыццё той, апяваць якую ён збіраецца. Аднак змест паэмы на першы погляд паказвае, што аўтар не выканаў свайго абяцання. Аднак у гэтым-жа ўступе ён заклікае ўсіх паслухаць, як ён будзе выкладаць у вершах аповесць пра Тарыеля. Ці трэба адсюль рабіць вывад, што ў аповесці пра Тарыеля Шота апявае Тамару і яе мужа? Мы павінны верыць аўтару, хоць ён апісвае не грузінскае жыццё і малюе не грузінскіх герояў. Хіба не мог ён пад выглядам выдуманых герояў і выдуманых абставін паказаць падзеі з грузінскага нацыянальнага жыцця? Вядома, гэта прадстаўляе вялікія цяжкасці. Сам аўтар ускліквае ў заключэнні: „Как мне воспеть все совершенное Давидом в этих иноземных рассказах о чужих государствах". Але калі ён робіць так, напэўна, ён мае для гэтага дастаткова важкія падставы.

Аднак справа не такая простая. Баючыся, як-бы ў яго паэме сапраўды не ўбачылі падзей з грузінскага жыцця, лоўка замаскаваных ім самім выдуманымі абставінамі і надуманымі героямі, Шота спяшаецца запэўніць, што сюжэт паэмы створаны не ім, а ўзяты з якойсьці іранскай аповесці, перакладзенай на грузінскую мову. Мала таго: ён называе нават асобу, паэта Саргіса Тмогвелі, якому належала іранская перакладная аповесць і які, як быццам-бы, хацеў перакласці яе на вершы, але не паспеў гэтага зрабіць. Руставелі-ж толькі знайшоў гэту аповесць і пераказаў яе ў вершах. Здавалася-б, пасля гэтага адпадаюць усялякія падазрэнні, што ў паэме Руставелі ёсць якіясьці падзеі з грузінскага жыцця. Тым больш, што аўтар не задавольваецца сваімі доказамі. Ён прыбягае яшчэ да аўтарытэта самой Тамары і заяўляе, што іранская аповесць была вядома царыцы, і яна загадала пераказаць яе вершамі.

На што патрэбна аўтару заяўляць аб гэтым, так настойліва і пры тым ва ўступе? Асаблівай-жа заслугі ў тым, што твор напісаны па загаду звыш, няма. Адначасова ў тым-жа ўступе паэт спяшаецца заявіць, звярачваючыся да якіхсьці сваіх ганьбіцеляў! „Знайте все,—я воспеваю ту (Тамару), которую воспел ранее. Этим я горжусь и не считаю, что я себя опозорил".

Што азначаюць словы паэта пра тое, што ён раней апяваў Тамару? Ці можна дапусціць, што ён мае на ўвазе якійсьці другі свой твор, які не дайшоў да нас? Некаторыя так і тлумачаць гэтыя словы. Але гэта няправільна. Руставелі даў да сваёй паэмы не толькі ўступ, але і заключэнне. Апошняе пачынаецца так: „Исполнилось это сказание (поэма) точно сон ночной". Паэт піша не „окончилось", а „исполнилось". У гэтым свой вялікі сэнс. Канчацца магло іранскае паданне, апавяданне, якое ён выкладаў, споўніцца маглі падзеі, што адбываліся ў Грузіі, якія пад надуманай абстаноўкай і надуманымі героямі ён маляваў у сваёй паэме.

Заключэнне, напэўна, пісалася праз некаторы час пасля сканчэння паэмы, калі падзеі, у ёй прадраканныя, збыліся. Зместам яе, як піша сам аўтар, паслужылі справы, зробленыя Давідам. Значыць, указанне паэта, што ён ранейваспеў Тамару, адносяцца не да якоганебудзь іншага твору, а іменна да „Вепхіс ткаосані". Але як-жа зразумець яго словы, што ён апявае тую, якую васпеў раней? Раз-

гадка заключаецца ў тым, што паэт напісаў свой уступ пасля таго, як была напісана паэма, і пасля таго, як ён напісаў заключэнне. Ва ўступе ён проста называе сваю гераіню па імені і апявае яе прыгажосць і статнасць, у самой-жа паэме апяванне адбываецца ў вобразах надуманых герояў.

Натуральна, узнікае і другое пытанне,—як можа перакладзенае на вершы іранскае паданне зганьбіць Руставелі і, галоўнае, чым? Можа быць, аўтар апраўдваецца за дрэнныя вершы, няўдачу ў выкананні? Але якасць паэмы, відавочна, не выклікала сумненняў нават у тых сучаснікаў паэта, якія маглі адносіцца да яго непрыязна. Па форме паэма Руставелі—узор дасканаласці, і не з гэтага боку, відавочна, пасыпаліся на паэта ўдары.

Не падлягае ніякаму сумненню, што сучаснікі ўбачылі ў „Вепхіс ткаосані“ нешта большае, чым простае іранскае паданне. Аўтару не прышлося-б пераконваць сваіх сучаснікаў у іншаземным паходжанні сюжэта паэмы, калі-б сярод іх не склалася цвёрдае пераконанне, што пад выглядам надуманых арабскіх і індыйскіх герояў ён паказвае асобі падзеі, вельмі блізка знаёмыя ім. Словы Шоты аб тым, што паэма яго не зганьбіла, мае для нас велізарнае значэнне, таму што гісторыя не захавала ніякіх дасканалых вестак ні аб самой паэме, ні аб геніяльным яе аўтары. Мы ведаем толькі, што „Вепхіс ткаосані“ палілі на кастрах, а сам Руставелі вымушаны быў пакінуць сваю радзіму і скончыць жыццё ў выгнанні. Ясна, што вакол паэмы разгарэлася ўпартая і вострая барацьба, у часе якой якаясьці партыя імкнулася падарваць даверра да аўтара і яго твора, і паэт вымушаны быў кінуць выклік, заявіўшы, што ён ганарыцца сваім творам і не лічыць сябе зганьбленым.

І ва ўступе і заключэнні многа недаказанага: у іх больш водгукаў той барацьбы, якую давялося вытрымаць Руставелі, ніж вольнага выказвання аб сваім творы. Неабходна з асаблівай увагай падыйсці да сюжэта самой паэмы і пастарацца ўясніць сабе, якія падзеі маглі знайсці ў ёй свой адбітак, хто з'яўляецца яе галоўнымі героямі і чаму яна змагла выклікаць такія нападкі сучаснікаў.

Аднак тут паўстаюць немалыя цяжкасці. Гісторыя не захавала падрабязных вестак пра эпоху царыцы Тамары, і пры яе вывучэнні даводзіцца выходзіць толькі з нямногалікіх, адзначаных летапісамі фактаў. Тым большае значэнне набывае сведчанне пра гэтую эпоху, такога першакласнага помніка, як паэма Руставелі.

Сюжэт „Вепхіс ткаосані“ настолькі самабытны, што ні ў якай іншай краіне, акрамя Грузіі, ён узнікнуць не мог. Сапраўды, наколькі вядома, ні адна краіна не можа адзначыць выпадка ў сваёй гісторыі, каб пры жыцці царстваваўшага манарха была прызначана царыцай яго дачка, ледзь дасягнуўшая дваццаці трох гадоў. Гэта падзея мела месца толькі ў Грузіі ў 1179 годзе, пры жыцці Руставелі, калі Георгій III правазгласіў царыцай сваю адзіную дачку, славутую Тамару. Руставелі непатрэбна было запазычваць сюжэт для сваёй паэмы з іранскага падання, якога, дарэчы, не існавала. Гэты сюжэт яму давала сапраўднае жыццё Грузіі. Ён апісвае не адзін толькі факт правазглашэння, ён дае ў паэме апісанне падзей, як папярэднічаючых яму, так і паследаваўшых за ім. „Вепхіс ткаосані“

велізарная эпапея, дзе апісваюцца падзеі, у якіх дзейнічаючымі асобамі з'яўляюцца царская сям'я і яе бліжэйшае акружэнне. Малюючы сапраўдныя падзеі, якія адбываліся ў яго час і да якіх аўтар стаяў блізка, ён не мог, як відаць, апісваць іх, называючы сапраўдныя імёны дзейнічаючых асоб, адлюстроўваючы падзеі так, як яны працякалі ў сапраўднасці.

Справа не толькі ў тым, што высокае становішча яго герояў ставіла аўтара ў неабходнасць быць асцярожным у апісанні, але і ў тым, што простае хранікальнае апісанне падзей не магло ўваходзіць у задачу такога геніяльнага мастака, якім быў Руставелі. Падзеі, якія адбываліся, атрымалі ў яго вачах асобнае праламленне. Будучы іх удзельнікам, паэт, як убачым, хацеў сваім творам дасягнуць пэўных палітычных мэт. Таму ён зусім не абыякавы. Адных герояў ён любіць і ўсхваляе, другіх ненавідзіць і знішчае. Ён стварае для сваёй паэмы складаны, арыгінальна пабудаваны сюжэт, выдумвае казачныя абставіны, у якіх міжвольна бачыць яго родную Грузію. Шота занадта добра ведаў і вельмі моцна любіў сваю радзіму, каб адарвацца ад яе нават у вымысле.

Выдумка аб іранскім паходжанні сюжэта „Вепхіс ткаосані“ мела адзін істотны вынік, які сыграў вялікую адмоўную ролю ў разуменні асобы самаго аўтара. Няма ні аднаго буйнага літаратурнага твору, дзе ў той ці іншай форме не адбіліся-б аўтабіяграфічныя рысы. У „Вепхіс ткаосані“ рассыпана не мала крупінак аўтарскіх адступленняў і асобных заўваг, якія выяўляюць воблік самога Руставелі, і характарыстык, якія даўно ўжо ўвайшлі, як прымаўкі, у грузінскую гутарку.

Але справа не ў іх. Нам не трэба збіраць асобныя крупінкі, калі адным з галоўных дзейнічаючых асоб паэмы з'яўляецца сам аў тар. Іранская выдумка толькі дапамагла яму захаваць вельмі майстэрскі самога сябе і сваю ролю ў апісваемай эпапеі.

Руставелі дае выдуманыя абставіны і выдуманых герояў сваёй паэмы; але сам ён добра ведае,—а можа быць, і хоча даць зразумець чытачу,—што яго вымысел далёка адыходзіць ад сапраўднасці. Гэта дваістасць між замыслам і выкананнем з асаблівай сілай адбілася ў пабудове сюжэтнай лініі паэмы. Тут ужо нельга абмежавацца аднымі выдуманымі імёнамі герояў і абставін. Дастаткова было аўтару ўвесці апісанне такой падзеі, як правазглашэнне царом Растэванам пры жыцці сваёй прыемніцай дачку Тінатін, як для ўсіх сучаснікаў Руставелі стала зусім ясна, што справа ідзе аб тым, як Георгій III каранаваў на царства пры сваім жыцці дачку Тамару.

Таму ў пабудове сюжэта аўтар праследуе некалькі задач. Раней за ўсё, як геніяльны майстар, ён шукае такі сюжэт, каб вакол яго можна было не толькі разгарнуць падзеі, але паставіць герояў у такое становішча, пры якім з асаблівай яскравасцю маглі праявіцца тыя рысы і характары, якія хоча адлюстраваць аўтар. Якія высокія патрабаванні прад'яўляе Шота да свайго твору,—паказаў ён сам ва ўступных строфах паэмы. Ён кажа, што толькі той—сапраўдны паэт, хто не разменьваецца на дробязі і стварае вялікія творы не шкадуючы сілы і не застаючыся бестароннім да сваіх герояў: адных ён павінен асуджаць, другіх хваліць.

Але, даючы характарыстыкі сваіх герояў, якія займаюць вельмі высокае становішча, каб у іх не пазналі вядомых сучаснікам асоб і тых падзей, героямі якіх яны з'яўляюцца, асноўны ўпор маскіроўкі аўтар пераносіць на сюжэт. Ён будуе яго з такім рэдкім майстэрствам, што ва ўсёй сусветнай літаратуры цяжка знайсці твор, які ў казачнай форме выкладаў-бы сапраўдныя гістарычныя падзеі з такой яскравасцю, як гэта зроблена ў „Вепхіс ткаосані“.

Апісваючы царскую сям'ю Георгія III і падзеі, якія ў ёй адбываліся, Шота дае ў паэме дзве царскія сям'і: арабскага цара Ростэвана і індыйскага цара Парсадана. У Ростэвана—адзіная дачка, прыгажуня Тінатін, у Парсадана—таксама адзіная дачка прыгажуня Нестан-Дарэджан. У Ростэвана ў якасці прыбліжанай асобы на палажэнні прыёмнага сына, знаходзіцца Аўтандзіл, які камандуе яго войскамі, у Парсадана ў якасці прыёмнага сына знаходзіцца Тарыэль, які камандуе яго войскамі. Тут толькі розныя імёны і розныя краіны, героі адны і тыя-ж, але ёсць яшчэ адна царская сям'я—сям'я грузінскага цара Георгія III, у якога таксама маецца адзіная дачка—прыгажуня Тамара, і ў якасці прыёмнага сына выхоўваецца асецінскі царэвіч Давід Саслан. Грузінскія летапісі—„Картліс Цхозрэба“—не паведамляюць, ці быў пры Георгіі III Давід Саслан камандуючым яго войскамі; але, мяркуючы па тым, што Давід Саслан нарэшце высунуўся як буйны палкаводзец можна думаць, што з маладых гадоў, ён адыгрываў у грузінскай арміі буйную ролю. Падобнасць тут як відаць поўная.

Руставелі апісвае сям'ю цара Георгія III, але ён не становіцца падобным звычайным прыдворным паэтам, якія апяваюць усё, што яны бачаць.

Руставелі ставіць сабе не гэтую задачу. У царскай сям'і і ў дзяржаўным жыцці Грузіі ў гэты час адбываліся такія падзеі, што яму не да слоўнага ўсхвалення. Ён з'яўляецца не простай сведкай падзей, а дзейным іх удзельнікам, і на свой твор глядзіць не як на летапіснае выкладанне, а як на актыўны, самы востры, калі не сказаць, рашаючы сродак барацьбы. І калі творчы парыў геніяльнага мастака цягне яго да вымысла, да стварэння фантастычных вобразаў і да неіснуючых абставін, дык страсць палітычнага барацьбіта прыкоўвае яго да рэальных падзей, да жывых людзей і да іх імкненняў і дасягненняў.

Для чаго адлюстроўвае Шота дзве царскія сям'і? Яму трэба было апісаць усе вядомыя падзеі і ўсіх вядомых асоб, якія ўдзельнічаюць у іх. У адной царскай сям'і і ў адной краіне ён апісвае адну частку гэтых падзей, у другой царскай сям'і і ў другой краіне ён апісвае другую частку падзей, а калі мы злучым падзеі адной сям'і з падзеямі, якія адбываліся ў другой царскай сям'і, дык атрымаем, што ў цэлым гэтыя падзеі ёсць ні што іншае, як стройнае і паслядоўнае адлюстраванне падзей, якія адбываліся ў трэцяй, сапраўды існаваўшай царскай сям'і—сям'і грузінскага цара Георгія III.

Шота стаяў прад сур'ёзнай і цяжкай задачай—не толькі даць адлюстраванне той палітычнай барацьбы, якой было насычана жыццё сучаснай яму Грузіі, але і выступіць у якасці актыўнага барацьбіта на адным з бакоў; і—што самае галоўнае—ён мог не без падстаў

думаць, што яго выступленне павінна адыграць рашаючую ролю. Але, як сапраўдны мастацкі геній, ён не думаў падпарадкаваць сваю творчасць толькі часовым задачам і не спыніцца толькі на ўзроўні дробнага і пераходзячага палітычнага памфлета. Ён быў прасякнуты больш сур'ёзнай задачай і ставіў сабе мэтай стварэнне буйнага мастацкага твору, выкарыстоўваючы тое,. што адбывалася і апісваючы акружаючых яго рэальных людзей. Ён высока ставіў іх пераажыванні і імкненні і хацеў ахінуць іх у форму, якая павінна была не проста адлюстраваць апісваемыя падзеі, людзей, але і быць высокім паказчыкам мастацкага твору, каб зрабіць на сучаснікаў той іменна ўплыў, на які ён разлічваў. І ён ведаў, што чым будзе больш мастацкім яго твор, тым мацней будзе яго ўздзейнічанне.

Пры вырашэнні гэтых задач Шота, вядома, не мог не звярнуцца да тых узораў сусветнай паэзіі, у першую чаргу іранскай, якія рабілі ўплыў на яго і на сучаснае яму грамадства. Ён быў безумоўна знаёмы з вялікім творам Фірдаусі „Шах-Наме" і з казкамі „1001 ноч" (альбо з першапачатковым іранскім творам, які лёг у аснову яе, з „1001 казак"), і ўплыў іх, і яго межы мы лёгка знаходзім пры аналізе паэмы.

Сам Шота, па прычынах, аб якіх будзе сказана далей, прымушаны быў настойліва паўтараць, што яго паэма ёсць ні што іншае, як вершаваны пераклад іранскага арыгінала. Гэтае прызнанне Шоты адыграла рашаючую ролю для ўзмацнення думкі, што „Вепхіс ткаосані"—твор не арыгінальны і самабытны, а запазычаны і ўплывовы.

Неабходна таму ўстанавіць межы іранскіх уплываў і больш падрабязна спыніцца на словах самога Шота. Ён кажа ў заключных строфах, што паданне гэтае засталося ад Саргіса Тмогвелі, які збіраўся выкласці яго ў вершаванай форме, але не паспеў гэтага зрабіць. Потым яно дайшло да Шоты, які і пераклаў яго вершы. Ва ўступных строфах Шота яшчэ больш пэўна гаворыць, што знайшоў іранскае паданне, перакладзенае на грузінскую мову, якое захоўвалася як жамчужына, і па загаду царыцы надаў яму вершаваную форму.

З слоў Тарыэля відаць, што ў царскай сям'і разыгрывалася вялікая драма і Тарыэль вымушаны быў уцякаць і схавацца. Тут мы маем матыў, які вельмі моцна напамінае нам лёс Ростэма і Сохраба з „Шах-Наме" Фірдоусі. Тарыель—такі-ж бясстрашны асілак як і Сохраб, лёс яго, вымушанага скітацца на чужыне, выклікае ў Шоты жаданне ахінуць жыццё Тарыеля ў формы той эпапеі, якая прывяла да сутыкнення Ростэма і Сохраба і да пагібелі апошняга. Але, як не моцным было імкненне Руставелі пайсці па шляху, наследвання Фірдоусі, ён не можа адарвацца ад роднай зямлі і тых падзей, якія на ёй адбываюцца. Далей узнагароджання свайго героя Тарыеля некаторымі рысамі Сохраба Шота не пайшоў. Калі ў пачатку ў яго і было жаданне следаваць іранскаму арыгіналу, дык у далейшым ён пакінуў прытрымлівацца яго і проста забыўся аб ім, і ўвесь аддаўся падзеям, акія ён адлюстроўваў і якія былі звязаны з блізкімі яму асобамі.

Няма ніякага сумнення, што Шота першапачаткова думаў назваць сваіх герояў тымі-ж іменамі, якія сустракаюцца ў Фірдоусі.

Аравійскага цара Шота называе Ростэванам. Гэта імя ён часта скарачае і піша яго Ростэн. Герой у „Шах-Наме"—Ростам. Відавочнае падабенства, якое гаворыць аб запазычанні. Шота хацеў, як відаць, запазычыць таксама імя сына Ростама—Сохраба (Зораба); але так як выкладаемыя ім падзеі ніяк не ўкладваліся ў сюжэт „Шах-Наме", гэта імя, некалькі перарабленае, Шота дае візіру цара Ростэна, называючы яго Согратам.

У старажытных варыянтах іранскага падання, якое перакладалася ў вершаваную форму яшчэ да Фірдоусі, маецца апрацоўка паэта Рудэкі, прысвечаная Саманіду Амір-Нарсу, якога ён апісвае так: „Велікадушнаю дабрачыннасцю ты другі Хатэм-Тай; другі Ростам-Дастан сярод небяспек вайны".

Ростам тут названы Дастанам. Руставелі перарабляе Дастана ў Нестан і дае сваёй гераіне імя Нестан-Дарэджан. Дарэджан—імя таксама запазычанае з перакладной іранскай паэмы „Аміран-дарэджаніані".

Галоўнага героя завуць Тарыель: можам абмежавацца словамі Марра аб яго паходжанні: „У гісторыі Тамары" бязумны ад кахання да Осано названы імем у першапачатковай персідскай (іранскай) яго форме Шахрыар, прататыпу грузінскага Шарыер і народнага Тарыель". Некаторае, падабенства можна бачыць таксама ў апісанні каня Тарыеля, які моцна нагадваў Грома Ростама.

Але ў „Вепхіс ткаосані" можна знайсці ўплыў не толькі аднаго „Шах-Намэ", калі можна назваць уплывам тое, што Шота ўзяў адтуль. Руставелі трэба было знайсці для свайго замысла такую форму, якая дазволіла-б апісаць сучаснае яму грамадства ў самых высокіх яго пластах, замаскаваўшы і падзеі і асоб. „Шах-Намэ" аказалася для гэтага не падыходзячым творам.

Такому мастаку, як Руставелі, прытым страсна-захопленаму палітычнай барацьбой, якой жыло тагды ўсё вышэйшае грамадства Грузіі, патрэбен быў узор фантастычнага мастацкага твору, падражаючы якому ён мог-бы некалькі адарвацца ад рэальнай сапраўднасці і дасягнуць сваёй мэты—маскіроўкі падзей, якія ён адлюстроўваў. І ў асобных карцінах ён прыбягае да ўзораў казак „1001 ночы".

Яго апісанне марскіх скітанняў Тарыеля ў пошуках Нестан-Дарэджан і самую пакражу яе двума рабамі і плаванне ў моры на працягу некалькіх гадоў (Нестан-Дарэджан была замкнута ў сундуку) і асабліва апісанне марской бойкі Прыдона з яго сваякамі, калі ён выратаваўся толькі тым, што сеў на каня, скокнуў у мора і дабраўся да берага,—усё гэта моцна напамінае казкі Шэхерэзады і марскія прыгоды Сіндбада-Морахода".

Больш уяўнае запазычанне з „1001 ночы" можна бачыць у вобразе другога героя „Вепхіс ткаосані", мулганзанзарэскага цара Нурадзіна-Прыдона, друга Тарыеля. Цар Афрыдун апісваецца як „уладар краін грэчаскіх і войск хрысціянскіх, які быў у царстве ал-Кустантыніі". Ясна, што гутарка ідзе аб адным з візантыйскіх цароў, якія прытрымліваліся праваслаўнай веры. Гэта імя Руставелі ўзяў для аднаго з сваіх галоўных герояў, як убачым у далейшым, асобы зусім рэальнай, як відаць не без мэты.

Малюючы ў сваёй паэме мусульманскія абставіны, ён не безумысла вылучыў свайго героя пад імем Прыдона, жадаючы паказаць, што яго герой—праваслаўны чужаземец, які прыбыў у Грузію з Візантыі; але жадаючы ў той-жа час захаваць некаторую маскіроўку, ён дадаў да яго імя чыста мусульманскае „Нурадзін“, таксама ўзятае з „1001 ночы“.

Яшчэ адзін вобраз, узяты Шотай з „1001 ночы“, гэта вобраз каварнай „Зат-ад-Давахі“, які азначаў „Уладарку бяды“. Гэтая жанчына, матка цара Румаў, валодала надзвычайным каварствам, была хлуслівай, распутнай, і не спынялася перад злачынствам, арганізоўвала ўсялякія козні і лічыла ўсе сродкі дапусцімымі для дасягнення сваіх мэт. Асабліва характэрна, што гэтая жанчына дапамагае цару Афрыдуну. Імем гэтай Давахі, змененым на Давар, Шота назваў сястру цара Парсадана, выхавацельніцу Нестан-Дараджан. Не забудзем, што царыца Тамара выхоўвалася сваёй цёткай Русудан, сястрою цара Георгія III. Трэба аддаць справядлівасць Руставелі—ён знайшоў беспадобны вобраз для паказу жанчыны, якая адыгрывала не малую ролю і ў гісторыі Грузіі і ў жыцці сваёй царственай пляменніцы, у прыватнасці, у замужнасці Тамары з рускім князем Юрыем.

Выкарыстоўванне Шотай Руставелі іншаземных узораў для сваёй паэмы, за выключэннем вобраза Давар, вельмі невялікае, ён не змог выкарыстаць іх нават для маскіроўкі—адзінай мэты якую ён праследваў, звяртаючыся да іх. Затое, скончыўшы паэму, калі ён стаў мішэнню для зваленых у прах яго „Вепхіс ткаосані“ пластоў грузінскага вышэйшага грамадства, Шота ўспомніў аб сваіх першапачатковых пошуках іншаземных узораў і стаў сцвярджаць, што яго паэма нішто іншае, як вершаванае выкладанне іранскага падання. Удары, якія былі накіраваны на Шота і прывялі яго да выгнання, могуць служыць апраўданнем такога тактычнага хода, незразуметага яго даследвальнікамі.

Ітак, сюжэт „Вепхіс ткаосані“ зусім самабытны, ён створаны самім Шотай, і ніякімі ўзорамі для гэтага паэт не карыстаўся, тым больш цяжкасцей стаяла перад ім і тым больш дзіўныя тыя своеасаблівыя прыёмы, пры дапамозе якіх ён гэтыя цяжкасці перамог. Ён дае поўную карціну сучасных яму падзей, але тут-жа ўносіць дэталь, якая павінна паказаць, што ён мае на мэце не тыя падзеі, ад якіх могуць усе здагадацца. Апісваючы каранаванне ў сям'і цара Ростэвана, ён уводзіць прыёмнага сына Аўтандзіла. А як праходзіла ў сапраўднасці каранаванне Тамары? Ці ўдзельнічаў у ім Давід Саслан, прыёмны сын Георгія III? Мы не маем спіска асоб, якія былі запрошаны Георгіем III у палац у дзень каранавання дачкі, але можна сцвярджаць, што ў ліку прысутных на каранаванні Тамары Давіда Саслана не было. Інакш карціна ўрачыстасцей у сям'і Растэвана была-б дасканалай копіяй сапраўднасці, і Руставэлі цяжка было-б пусціць чутку аб тым, што сюжэт свае паэмы ён запазычыў з Іранскага падання. Уводзячы Аўтандзіла, ён нібы адхіляў гэтым усялякую аналогію з жыццём царскай сям'і Георгія III.

Але гэтым Шота перамагаў яшчэ не ўсе цяжкасці. Была-ж

і трэцяя царская сям'я—індыйскага цара Парсадана, у якой разыгралася вялікая драма і якая скончылася ўцякацтвам прыёмнага сына Тарыэля. Як бачым далей, у сям'і Георгія III таксама адбыліся загадкавыя падзеі—смерць царэвіча Дземны ў час паўстання Орбеліані, і Шоце трэба было так пабудаваць сюжэт свае паэмы, каб не даць повада думаць, што падзеі, якія адбыліся ў сям'і цара Парсадана, маюць якія-небудзь адносіны да грузінскай царскай сям'і. Тарыэль хаваўся, Нестан Дараджан была ўкрадзена, і Шота меркаваў, што гэтых фактаў дастаткова, каб думаць, што ў гэтай сям'і не магло адбыцца каранаванне з удзелам прыёмнага сына Аўтандзіла; значыцца, тое, што адбылося ў сям'і цара Парсадана—уцякацтва прыёмнага сына, крадзёж царэўны—не можа датычыцца Георгія III, які каранаваў сваю дачку на царства з удзелам прыёмнага сына.

Але Руставелі павінен злучыць гэтыя дзве царскія сям'і—Ростэвана і Парсадана і ён дае сцэну як на паляванні, наладжанай з прычыны каранавання, цар Ростэван бачыць на ўзлессі постаць Тарыэля ў барсавай шкуры, які рыдаў у глыбокім адчаі.

Вядома не выпадкова Шота напамінае Ростэвану ў дзень урачыстасці аб існаванні Тарыэля. І не без прычыны Ростэван упадае ў такі глыбокі сум пасля таго, як пасланыя ім слугі не змаглі схапіць і даставіць яму Тарыэля. Паміж урачыстасцямі ў сям'і цара Ростэвана і падзеямі, якія адбыліся ў сям'і цара Парсадана, Шота ўстанаўлівае адзінства дзеі праз Тарыэля; гэтым ён дае падставу лічыць, што гутарка ідзе тут аб трэцяй сям'і—цара Георгія III. У гэтым выявіўся сапраўдны геній: Шота ні на іоту не адступіў ад мастацкай праўды, хоць, няма сумнення, ён усвядомліваў, што дае ў рукі сваіх ворагаў небяспечную зброю, якую ў выпадку неабходнасці, яны могуць павярнуць супроць яго.

Узяўшы на сябе задачу апісаць Тамару і падзеі, якія суправаджалі яе ў каранаванні на прастол, ён, зразумела, паставіў сябе ў неабходнасць быць вельмі асцярожным. Як-жа вырашае ён гэтую цяжкасць, звязаную з апісаннем галоўнейшай герaіні? Ён апісвае яе ў асобе Тінатін, калі можна так сказаць, у царскіх танах і з вялікай павагай. Тут захаваны ўсе меры і мы бачым, што Руставелі майстэрскі спраўляецца з сваёй задачай. Сучаснікі спазналі ў вобразе Тінатін царыцу Тамару.

Але Руставелі хацеў паказаць і другі бок, той інтымны бок, жыцця царыцы, які нельга было адкрыта зрабіць здабыткам гласнасці. Гэты бок ён ведае добра і ён менш за ўсё можа праславіць яго гераізм. Але ў імя сваіх мэт, аб якіх скажам ніжэй, ён не толькі знаходзіць патрэбным зрабіць гэта, але бачыць у гэтым асноўную задачу паэмы. Узнікае другі вобраз той-жа Тамары, вобраз Нестан-Дарэджан, жыццё якой ён падрабязна апісвае ў перадачы Тарыэля аж да моманту, калі Тарыэль па яе настайванню забіў яе жаніха.

З гэтага моманту, Тарыэль, вымушаны пакінуць Індыю, згубіў сваю Нестан-Дараджан. Абставіны яе знікнення так непраўдападобны, што не выклікаюць ніякага сумнення ў іх вымышленнасці, якіясьці два рабы, па даручэнню захацеўшай скончыць жыццё сама-

губствам пасля забойства жаніха Давар, схапілі царскую дачку і адвезлі яе каб утапіць у моры. Яны топяць яе на працягу некалькіх год, вандруючы па морах у лодцы і возячы сваю палонніцу ў асобым сундуку. Толькі два разы яны прычалілі да берага. У першы раз іх убачыў Прыдон, але яны шчасліва схаваліся ад яго, а другі раз Фатман загадала сваім рабам злавіць і забіць іх і вызваліла палонніцу. Але яна зноў трапляе ў палон, цяпер ужо да цароў,— спачатку да аднаго, потым, пасля ўцёку пры дапамозе той-жа Фатман—да другога.

Гэтыя казачныя абставіны знікнення, з аднаго боку, сапраўды ствараюць ілюзію фантастыкі і выдумкі,—а з другога ясна паказваюць, што Нестан Дарэджан была згублена, але згублена для Тарыэля. Свае казачныя абставіны аўтар выдумаў нездарма. Крадзеж Нестан Дарэджан, вядома, алегорыя, вобраз, але вобраз, які недалёка адыйшоў ад сапраўднасці.

Тамару, пасля яе каранавання на прастол, акружылі царадворцы, ізалявалі яе ад усіх пабочных уплываў, і натуральна, што Тарыэль глыбока ненавідзіць гэтых „зладзеяў“, якіх ён праклінае, але не мае сілы што-небудзь зрабіць супроць іх. Сам аўтар не шкадуе фарбаў для апісання гэтых „каджаў“—д'яблаў, ва ўладзе якіх яна нарэшце аказалася. Трэба вырваць у „каджаў“ Нестан Дарэджан, трэба разбурыць каджэцкую крэпасць, узяць яе сілаю, каб дасягнуць свае мэты.

Але адзін Тарыэль не мае сілы што-небудзь зрабіць. І вось да яго з'яўляецца друг Аўтандзіл, які дапамагае яму ў дасягненні мэты. Гэты друг з'яўляецца не сам ад сябе, ён пасланы на яго пошукі Тінатін, і калі ён знаходзіць Тарыэля, Тінатін другі раз пасылае яго дапамагчы Тарыэлю, знайсці Нестан Дарэджан. Той ідэальны вобраз Тамары, які дадзены аўтарам у асобе Тінатін, прымушае яго прыпісаць пошукі Тарыэля і дапамагчы яму ў ініцыятыве Тінатін.

Самай прываблівай постаццю паэмы з'яўляецца Аўтандзіл. Пад гэтым імем паказана асоба, блізкая да царскай сям'і, якая актыўна ўдзельнічае ва ўсіх апісваемых падзеях. Ён верны друг Тарыэля, чалавек, спевамі якога заслухвалася прырода; ён любіць жыццё, жанчын, весялосць і яго развагі часта здзіўляюча супадаюць з аўтарскімі адступленнямі...

У асобе Аўтандзіла Шота па ўсіх дадзеных паказвае самога сябе. І калі адмовіцца ад таго, што Аўтандзіл ваеначальнік, усе астатнія рысы паказваюць яго як чалавека свабоднай прафесіі, не звязанага ні з чым, які можа цалкам аддацца дапамозе свайго друга.

Абставіны, асяроддзе, у якім развіваецца дзея паэмы, паказваюць яе нацыянальны характар яшчэ больш, чым самы сюжэт; гэта пацвярджае кожная самая дробная дэталь апісання, хоць паэма мае шмат найменаванняў не грузінскіх мясцовасцей і краін, часткова вымышленых, часткова-ж існаваўшых у сапраўднасці.

Паэма пачынаецца з таго, што цар Аравіі Ростэван агалашае сваю дачку Тінатін царыцай; з гэтай прычыны адбываецца ўрачыстасць. Такая ўрачыстасць магла быць толькі ў сталіцы Аравіі.

Якую-ж Аравію мае на ўвазе аўтар? Уласна кажучы, Аравія, Аравійскі поўвостраў, ці гістарычную Аравію, арабскі халіфат? Калі Аравійскі поўвостраў, дык у апісаннях гэтай краіны, пакрытай пустыннымі пяскамі, дзе-небудзь павінны былі прамільгнуць хоць-бы намёкі на гэтую асаблівасць Аравіі. Але ў апісаннях палявання, наладжанага ў часе ўрачыстасцей, мы бачым, што мясцовасць вакол сталіцы Ростэвана мае шмат лясоў і дзічыны. Гэтая прырода не аравійская.

Дапусцім, што аўтар мае на ўвазе сучасную яму Аравію, інакш кажучы арабскі халіфат, сталіцаю якога быў вядомы горад Багдад. Тут, вядома, прырода не пустынная, але-ж і сам Аўтандзіл, і яго героі не сядзяць толькі ў сталіцы, а наладжваюць асобныя вандраванні і ўсё-ж у паэме нідзе няма нават намёкаў на гэтыя спецыфічныя арабскія пустынныя ландшафты.

Але вось Аўтандзіл прыбыў у Гуланшаро, дзе святкуюць Наўруз—мусульманскі новы горад. Ён трапляе да Фатман— жонкі першага купца гэтага горада—Усена. Імёны гэтых асоб, безумоўна, мусульманскія. Але Фатман—мусульманка—прымае мужчын у адсутнасці мужа, расказвае, як яна была пры двары, і нібы прадказвае на семьсот амаль гадоў пушкінскую Таццяну, піша Аўтандзілу ліст з прызнаннем у каханні. Усё гэта яшчэ можа мець месца, калі не ў сапраўднасці, дык у паэтычным творы. Але каб мусульманін напіўся ў палацы свайго ўладара да палажэння рыз—гэтага не магло быць нават у арабскай казцы. А Фатман расказала Аўтандзілу, як яе муж Усен у п'яным выглядзе прагаварыўся ў палацы, што ў яго доме хаваецца Нестан Дарэджан.

Разам з тым, апісваючы сустрэчу багдадскіх купцоў з Аўтандзілам, аўтар укладае ў іх вусны словы: „Мы багдадцы, купцы, іспаведнікі мусульманскай рэлігіі, ніколі не піўшыя віна". Супярэчнасць яўная, але зусім зразумела, калі ўлічыць, што аўтар апісвае па сутнасці, падзеі, якія адбываюцца не ў Аравіі, а ў сябе на радзіме і вымышленае асяроддзе ён бярэ толькі для маскіроўкі.

Хоць Індыю Шота апісвае менш, чым Аравію, усё-ж цікава прасачыць, як адлюстроўваецца ў паэме гэта краіна, асаблівасці якой вядомы ўсім. Ні аб магах і іогах, ні аб баявых сланах, гэтай асаблівасці тагачасных войскаў Індыі аўтар не ўпамінае. Апісанне двух такіх процілеглых краін як Аравія і Індыя, падобны ў самых дробных дэталях і, што дзіўней за ўсё, абедзве гэтыя краіны здзіўляюча падобны на Грузію. Горы, лясы, рэчкі, зеляніна,—вось тая прырода, якую сакавітымі фарбамі апісвае Шота.

Але якія краіны мае на ўвазе аўтар, калі ён паказвае царства мораў Мулганзанзарэс, Гуланшара, Хатаецкае царства і крэпасць „каджаў"? Пад царствам мораў, без сумнення, трэба разумець Візантыю, Канстантынопаль, які ляжыць сапраўды ў цэнтры „ўсіх" мораў, і якія адыгрывалі такую ролю ў старажытнасці—Чорнага і Міжземнага. Пад Мульганзанзарскім царствам трэба, мабыць, разумець Трапезундскае царства ці пагранічную з ім вобласць, якая знаходзілася пад уладай Грузіі. Гуленшаро—гэта чорнаморскае ўзбярэжжа Грузіі, як відаць, вобласць, якая мяжуецца з ракой Рыонам пры ўпадзенні яе ў мора. Рэчкі ў старажытнасці адыгры-

валі велізарную гаспадарча-эканамічную ролю, і магчыма, у вусці Рыона сапраўды быў размешчаны цвітучы грузінскі горад. З геаграфічных мясцовасцей, якія апісвае Руставелі, асноўную ўвагу прыцягвае Каджэцкая крэпасць. У ёй знаходзіцца скрадзеная Нестан Дарэджан. Крэпасць бяруць адкрытай сілаю Тарыэль, Аўтандзіл і Прыдон, каб вызваліць палонніцу. Ці была ў сапраўднасці дзе-небудзь Каджэцкая крэпасць, альбо гэта алегорыя, вобраз? Пад „Каджэціяй“ аўтар безумоўна разумее не крэпасць у простым сэнсе, а тых асоб, тыя соцыяльныя групоўкі, якія акружылі, праўдзівей, аблыталі царыцу Тамару, калі яна пасля смерці бацькі зрабілася самастойнай уладаркай Грузіі.

Трэба адзначыць яшчэ Пячору, дзе правёў час Тарыэль. Ён завалодаў ёю пасля жорсткай барацьбы з „дэвамі“—казачнымі гігантамі. Пасля перамогі над імі ён атрымаў велізарныя багацці. Гэтыя багацці і зброю Тарыэль з Аўтандзілам і Прыдонам выкарыстоўваюць для барацьбы з „каджамі“. Што гэта—просты вымысел ці нешта падобнае магло мець месца?

У Грузіі папулярна паданне аб тым, што дзесьці ў пячорах пад Казбекам захованы велізарныя багацці, калісьці схаваныя тут грузінскімі царамі, якія ратаваліся ад ворагаў у час шматлікіх нападаў на Грузію. Магчыма, што гэтыя пячоры, гэтыя багацці і меў на ўвазе аўтар, ствараючы паэтычныя абставіны жыцця Тарыэля, які ўцёк ад людзей.

Нельга не спыніцца на загалоўку паэмы. Як гэта не дзіўна, але яго пераклад на рускую мову параджае некаторыя сумненні. „Вепхіс ткаосані“—і грузінская назва паэмы Руставелі — па ўстанавіўшайся традыцыі перакладаюць як „Барсаву скуру“, альбо „Віцязь у барсавай (тыгравай) скуры“. Але гэты пераклад не дасканалы. „Вепхі“ — па-грузінску азначае і барса і тыгра, „ткаві“ азначае і скуру і шкуру. Але справа не толькі ў слове „ткаві“. Аўтар ужывае не „ткаві“, а „ткаосані“. Слоў, падобных да гэтага, у грузінскай мове не шмат. „Хелосані“ — рамеснік, „цхэносані“ — коннік, „мандзіласані“—мудрэц, „джадасані“—кудзеснік і інш. — усе яны абазначаюць якую-небудзь прафесію. Па аналогіі, „ткаосані“ павінна азначаць „кажамяка“. Як відаць, у гэтым сэнсе і ўжывае Руставелі гэтае слова, надаючы яму зусім асобнае значэнне. Аўтар меў на ўвазе, вядома, не тое, што яго герой Тарыэль з'яўляецца кажамякам. Сэнс гэтае назвы заключаецца ў тым, што Тарыэль валодае такою сілай і спрытнасцю, такой мужнасцю і неўстрашымасцю, што нават сустрэча з такім драпежнікам, як барс, якая выклікае ва ўсякага іншага немінучае жаданне шукаць ратунку ва ўцяканні, для Тарыэля—толькі шчаслівы выпадак забіць драпежнага звера і зняць з яго скуру. Такім чынам, „Вепхіс ткаосані“ у дасканалым перакладзе па сэнсу павінна было-б адзначаць не барсаву скуру, а хутчэй „Пераможца барсаў“.

Але ўзнікае пытанне, чаму „вепхі“ перакладаюць барс, а не тыгр? Вядома, фармальна і той і другі пераклад быў-бы правільны. Але аўтар, як відаць надаваў вельмі вялікае значэнне назве „вепхі“; Тарыэль проста кажа Аўтандзілу, што „вепхі“ нагадвае яму любімую Нестан-Дарэджан, і таму скура барса служыць яму адзен-

нем, якое яму шые Асмат. Мы пакажам у далейшым, якое значэнне маюць гэтыя словы; тут-жа трэба адзначыць, што Руставелі пад словам „вепхі“ мае на ўвазе толькі барса, які пры сустрэчы з чалавекам прымае самыя пагражаючыя позы, але ніколі па сваёй ініцыятыве не нападае на яго. Аўтар не наўмысля выбраў іменна гэтую назву, неабходную для характарыстыкі галоўнай героіні. Такім чынам, усе існуючыя пераклады не дасканалы. Але ў іх няма асаблівай неабходнасці і правільней было-б, падобна да „Гайяваты“, „Шах-Намэ“ і іншых захаваць на рускай мове за паэмай яе грузінскую назву „Вепхіс-ткаосані“.

*Праф. Ал. Барамідзе*

# ШОТА РУСТАВЕЛІ

Шота Руставелі—найвялікшы паэт Грузіі. Ен жыў і працаваў на рубяжы XII-XIII стагоддзяў. Яго геніяльная паэма „Віцязь у тыгравай скуры“ (па-грузінску „Вепхіс-ткаосані“) напісана паміж 1189—1212 гг. у перыяд царствавання славутай Тамары. Бясспрэчных біяграфічных даных пра Руставелі няма, затое ёсць безліч легендарных паданняў. Зрэшты, на аснове аналізу тэрміна „Руставелі“ можна ўстанавіць, што паэт быў, відавочна, уладаром Рустаўскага майарата і належаў да знатнейшага роду.

К XII стагоддзю старажытная Грузія ўжо дасягае вышэйшага апагея свайго развіцця. Палітычныя правы яе, як гэта з гордасцю заяўляе гісторык таго часу, прасціраліся „ад Нікапсіі (прыморскі горад на Чорным моры) да Дарубанда (сучаснага Дэрбента каля Каспійскага мора)“, а сама дзяржава у Пярэдняй Азіі станавіла сабой магутнейшую феадальную краіну з моцным імкненнем да абсалютызма, да цэнтралізацыі ўлады. Заадно з гэтым палітыка-эканамічны цэнтр, у прыватнасці, рэзідэнцыя кіраўнікоў Грузіі, быў і асяродкам культуры і асветы. Пры царскім двары збіраліся, ствараючы адзінае і цеснае прыдворнае інтэлектуальнае асяроддзе, выдатныя паэты, гісторыкі, вучоныя, філосафы, мастакі і да т. п. Грузінскія цары бралі пад апякунства навуку і мастацтва, удзяляючы іх асобным прадстаўнікам сапраўды-мецэнатскую ўвагу. Вядома, напрыклад, што цар Давід-Узнавіцель (1089-1125) нават для мусульманскіх суфіяў і паэтаў пабудаваў спецыяльны палац.

Такія адносіны да навукі і мастацтва пры двары грузінскіх цароў рабілі вялікі ўплыў на ўсю нацыянальную культуру. Ясна, што і літаратура бясспрэчна мела прыдворны характар у нямалай ступені. Грузінская літаратура XII стагоддзя, вядомая пад назвай класічнага перыяда, да нас дайшла толькі фрагментарна. У прыватнасці, з прыгожа-мастацкага пісьменства да нас дайшло толькі пяць даволі значных помнікаў, але высокія ідэйна-мастацкія вартасці нават гэтых колькасна-нязначных помнікаў дазваляюць нам меркаваць з дастатковай пераконанасцю пра шырыню дыяпазона грузінскай культуры таго часу. „Віцязь у тыгравай скуры“ *— бліскучы дакумент гэтай высокай культуры. Літаратурнай крыніцай Руставелі, відавочна, паслужыў грузінскі празаічны сказ, які мае свае вытокі ва ўсходнні літаратуры. Вядома, не выпадкова сувязь паэмы Руставелі з Іранскай глебай. Здаўна было шырока развіта

* (Больш дакладны пераклад грузінскай назвы паэмы „Той, што носіць тыгравую скуру).

персідска-грузінскае літаратурнае супрацоўніцтва і ўзаемны культурны ўплыў, чаму вельмі садзейнічала, між іншым, тая акалічнасць, што з пачатку XII стагоддзя даннікамі Грузіі з'яўляліся такія перадавыя, у культурных адносінах, персідскія правінцыі, як Шырванскае і Ранскае ханствы, дзе і працавалі выдатныя праслаўленыя карыфеі персідскай літаратуры Хакані і Нізамі Ганджынскі. Гэту літаратурную крыніцу Руставелі перапрацаваў карэнным чынам і, дапасаваўшы да ўмоў грузінскага соцыяльнага і нацыянальнага жыцця, зрабіў яе глыбока своеасаблівай, надаўшы твору зусім самабытны арыгінальны выгляд. Паводле сведчання выдатнага руставеліста, акадэміка Н. Я. Марра, „сувязь яго (Руставелі) тварэння з грузінскай культурнай глебай не толькі фармальная, моўная, але і ідэйная: пры тым пытанне не пра матэрыяльны бок сюжэта, а пра яго адухаўленне, пераўвасабленне ў мясцовыя ўяўленні і вобразы“. Мала гэтага,—працягвае Н. Я. Марр, „пры такім арганічным урастанні шырока вядомай паэмы ў бытавую грамадскасць Грузіі, сама сабой адпадае думка аб тым, што пясняр з Руства на самай справе тварыў для забавы царыцы, калі нават з'яўляецца арыгіналам чатырохрадкоўе з гэтым заяўленнем паэта“. Н. Я. Марр ідзе яшчэ далей, пакольні ў фабуле і тыпажы паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“ ён бачыць своеасаблівы мастацкі алегарызм гістарычнай сапраўднасці Грузіі XII стагоддзя. „Вельмі магчыма,—пісаў ён,—што ўважлівае вывучэнне барсавай скуры адкрые ў ёй... свядомую абмалёўку знаёмых аўтару-грузіну тыпаў і з'яў у паэтычных намёках, асабліва ясных для сучаснікаў. Да пэўнай ступені гэтая паэзія намёкаў адчуваецца і цяпер“.

Фабула паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“ параўнаўча простая, але займальная.

Знатны, аде пажылы цар Аравіі—Растэван, не маючы сына наследніка, узводзіць на прастол сваю адзіную дачку—прыгожую і разумную Тінатін, якая кахала выдатнага палкаводца і рыцарацарадворца Аўтандзіла.

Аднойчы, у час палявання, цар з Аўтандзілам ўбачылі ля рэчкі дзіўнага віцязя, які плакаў. Але ўсякія спробы загаварыць з ім астаюцца дарэмнымі і ён знікае. Цар Растэван і ўвесь двор яго аддаюцца смутку. Тады Тінатін даручае свайму каханку ва што-б там ні біло адшукаць загадкавага чужакраінца. Аўтандзіл ахвотна бярэцца ўслужыць велічнай патранесе і пасля доўгіх і небяспечных вандраванняў знаходзіць у пустыннай пячоры самотнага віцязя па імю Тарыэл. Прысягаю змацаваўшы дружбу і пабратаўшыся з Аўтандзілам, Тарыэл расказвае яму сваю сумную гісторыю:—ён вялікі царадворац вялікага індыйскага цара Фарсадана, пакутуе ад палкага кахання да сонцападобнай царэўны Нестан-Дарэджан. Лёс не спрыяў шчасцю закаханых; цар Фарсадан задумаў выдаць Нестан замуж за сына Хварэзмскага шаха і абвясціць апошняга наследніка індыйскага прастола (якім па праву лічыўся Тарыэл). Наспяваюць сур'ёзныя канфлікты. Паслухаўшы парады Нестан, Тарыэл забівае супраціўніка і рыхтуецца сілай захапіць уладу ў свае рукі. Нестан абвінавацілі ў распусным каханні да мяцежніка і адправілі недзе далёка за межы Індыі. Тарыэл кідаецца на пошукі,

але безрэзультатна. Нарэшце, віцязь у роспачы пакідае свет, хаваецца адзін у пустыні і там горка аплаквае сваё жыццё... Аўтандзіл суцяшае і абнадзейвае свайго слаўнага пабраціма, асабіста сам бярэцца за пошукі і нарэшце сапраўды нападае на след Нестан-Дарэджан. Яна аказваецца зачыненай у непрыступнай цытадэлі Каджэці. Тарыэл і Аўтандзіл, пры садзейнічанні трэцяга пабраціма Фрыдона авалодваць цытадэляй, вызваляюць Нестан і радасныя і шчаслівыя вяртаюцца ў свае краі. Аўтар паэмы ўрачыста заключае:

„Дабро адолела зло (атрымала перамогу над злом)
Быццё яго (дабра) доўгавечна".

Гэтую фабулярную схему Руставелі разгарнуў са здзіўляючым майстэрствам і мастацкай тэхнікай „сказу". Драматычныя калізіі чытаюцца з захапленнем; нельга без душэўных хваляванняў выслухаць апавяданне пра няшчасці Тарыэла, гэтага благароднейшага з віцязей і бездакорнага міджнуры закаханага, надзвычай задушэўнае спачуванне параджае ў чытачы таксама цяжкая доля гераіні паэмы Нестан; чытач зачараваны геніяльнымі прыёмамі развіцця сюжэта, якімі Руставелі так па-майстэрску і свабодна карыстаецца на ўсім працягу паэмы-рамана. Тут вы не сустрэнеце ні малейшай аднастайнасці ці паўтарэння, так уласцівых помнікам эпічнага жанра. Усумніцца ў залішняй сантыментальнасці Руставелі, маючы на ўвазе частую плаксівасць Тарыэла—гэта значыць навязваць сучасны погляд на рэчы, складу думак тагочаснай грамадскасці і, не гледзячы на тое, што „Віцязь у тыгравай скуры" з'яўляецца грандыёзнай эпічнай паэмай, у ёй усё-ткі своеасабліва пераможана спецыфічная статычнасць твораў гэтага роду. Для Руставелі характэрны дынамічнасць, багацце драматычпых момантаў і нечаканых сітуацый. Сапраўдныя перажыванні жывых людзей паданы з рэалістычнай праўдзівасцю і пераканальнасцю. У паказе іх Руставелі беспадобны віртуоз—вобраз кожнага героя створан ім з вялікім мастацтвам ва ўсіх яго тыповых рысах. У гэтых адносінах кожная дэталь у яго заўсёды на сваім законным месцы. Нестан, Тінатін, Асмат, Тарыэл, Аўтандзіл, Фрыдон, Шэрмадзін—усе яны з'яўляюцца найбольш папулярнымі іменамі ў Грузіі, нават у наш час.

Руставелі геніяльны афарыст. У гэтых адносінах ён бадай што не мае роўнага. Мудрыя яго выслоўі вызначаюцца глыбокай ідэйнасцю і разам з тым лаканічны, адліты ў прыгожую слоўную форму. Гэтыя руставельскія афарызмы даўно ўвайшлі ў свядомасць народных мас у выглядзе прыказак. Частыя афарызмы, лірычныя адступленні, кароткія, але прыгожыя і ўдала адшліфаваныя апісанні, на дзіва ўдала ўпрыгожваюць дзеянне паэмы-рамана і не толькі не шкодзяць дынаміцы твора, але, наадварот, узмацняюць яго манументальнасць, ажыўляючы апавяданне, адухаўляючы верш, узбуджаючы цікавасць. На жаль, у перакладзе на іншыя мовы руставельскія афарызмы звычайна трацяць сваю, гукава-слоўную прыгожасць.

Па сваёй кампазіцыі паэма „Віцязь у тыгравай скуры" становіць сабой прыгажэйшы ўзор сусветнай паэзіі, пакідаючы далёка

за сабой шмат якіх выдатных класікаў Усходу і Захаду. Класічная цэльнасць паэмы-рамана Руставелі сапраўды фенаменальна, дзякуючы своеасаблівым руставельскім прыёмам паэтычнай мовы. Руставелі з'яўляецца законадаўцам і непраўзыйдзеным, беспадобным майстрам панаваўшага ў старажытнай Грузіі паэтычнага метра, так званага „шатры"—шаснаццаціскладовы верш. Руставелі карыстаецца двума відамі гэтага метра: высокім (4÷4) (4÷4) і нізкім (5÷3) (5÷3). Рознастайнасць відаў метра ў паэме ўвязваецца з пэўным парадкам рыфмічнай сістэмы. Руставелі—вялікі майстра рыфмы. Строфы шатры чатырохрадковыя, маюць агульную рыфму, заўсёды багатыя і прыгожыя, не маюць і знаку нацягнутасці ці хадульнасці, штучнасці. Вершы Руставелі па музыкальнасці на рэдкасць прыгожыя, чароўныя. Гукавая гурмонія тут дасягае сапраўды казачных вышынь. Невыказна багатыя і прыгожыя руставельскія алітэрацыі. Чатырохрадкоўі паэмы „Віцязь у тыгравай скуры", лікам звыш 1500, створаныя майстэрскай рукой вялікага мастака, на працягу сямі стагоддзяў заўсёды нязменна выклікалі адно захапленне і здзіўленне, як у свецка адукаванага чытача, так і ў простанароддзя. Таму вось руставельскія нормы і руставельскае пачуццё прыгожага ў перадавым грамадскім асяроддзі Грузіі безагаворачна панавалі надзвычай доўгі час і кожны паэт, перш чым пачаць з уласнай паэтычнай творчасці, як-бы пытаў спачатку дазволу на гэта ў родапачынальніка грузінскага мастацкага слова. На дзіва багатыя і іншыя бакі руставельскай мовы, з якіх у асаблівасці трэба адзначыць мастацкую фігуральнасць, у прыватнасці метафары. Строфы паэмы насычаны складанымі і разгорнутымі метафарычнымі радамі. Патрэбна вялікая напружанасць і выключная сканцэнтраванасць увагі, каб не загубіцца ў лабірынце руставельскіх мастацкіх метафар. Побач з гэтым надзвычайная прастата руставельскага стыля, у параўнанні з багатым старажытна-грузінскім царкоўным пісьменствам, прастата мовы, ідэйная глыбіня і мастацкая натуральнасць робяць манументальна адзіным і непаўторным гэты сапраўды геніяльны твор Руставелі.

Асобна трэба адзначыць погляды Руставелі на паэзію, пададзеную ў славутым пралогу „Вепхіс-ткаосані". Для паэта бясспрэчна высокае грамадскае прызначэнне і ідэйная каштоўнасць паэзіі. „Паэзія перш за ўсё галіна мудрасці",—заяўляе ён, тут-жа размяркоўваючы паэтаў па катэгорыях. Руставелі абараняе перавагу эпічнага жанра перад лірычным. „Паэты-лірыкі,—гаворыць Руставелі,—няхай не лічаць сябе роўнымі добрым паэтам, у лепшым выпадку, лірык толькі крупінка паэтаў". Лірычны верш зачастую хаця і „дастаўляе нам асалоду", „прыгодзен для піроў і ўвесяленняў, для ўхажванняў, для забавы і лёгкадумных прыгод з сябрамі", але не лірыку-паэту зраўняцца з „добрым паэтам", сапраўдным паэтам. Гэты апошні абавязкова эпік, складальнік вялікіх апавяданняў. Руставелі катэгарычна заключае: „Той, хто не можа стварыць чаго-небудзь вялікага—не паэт".

Побач з паэтыкай у пралогу Руставелі дае і тэорыю „міджнурства" (кахання), якая зрэшты мае нямала агульнага з аналагічнымі тэорыямі сярэдневяковых трубадураў і мінезінгераў.

„Віцязь у тыгравай скуры“ з вялікай мастацкай культурай адлюстроўвае тую самую рознавіднасць грузінскага феадалізма, якая называецца „патронкмоба“ (патранат). Галоўныя ідэальныя героі паэмы—Тарыэл і Аўтандзіл—гэта тыпы адданых і пачцівых „кма“—васалаў, харобрых, самаадданых рыцараў. Васальную адданасць і службовы доўг свой перад царом, як найвышэйшым сюзерэнам, надзвычай добра выказваюць наступныя словы Аўтандзіла:

„Перш за ўсё я кма (васал), жадаю адправіцца, каб паслужыць свайму патрону.

Належыць быць верным свайму цару і быць васалу па-васальскі“.

Па паэме цар і царства—гэта богаўстаноўлены інстытут. „Ад бога ўсякі цар“,—гаворыцца ў першай-жа страфе. Найвышэйшы патрон-цар, у паэме разумеецца як багападобная істота. Непасрэдныя васалы цара—царадворцы і іншыя вяльможы або значныя людзі, са свайго боку таксама маюць уласных падданых-васалаў, г. зн. вяльмож (як напрыклад, Аўтандзіл, Тарыэл і інш.), адначасова з'яўляюцца і васаламі цара і сюзерэнамі ў адносінах да сваіх падданых. Грамадскасць, паказаная ў паэме, цесна і непарыўна звязана ланцугом патранатскіх (або вярней сюзерэнавасальскіх) узаемаадносін. Руставелі ідэалізуе гуманістычныя формы гэтых узаемаадносін: „лепш за ўсякую закаханую пару сюзерэн і васал, якія любяць адзін аднаго“,—заяўляе ён. Аўтар наўмысля папярэджвае чытачоў: „служба за сваім сюзерэнам (патронам) ніколі не прападзе“, і яшчэ „хто памірае за цароў, душы тых ляцяць на неба“. Але з свайго боку ад сюзерэнаў патрабуецца, каб яны былі „родныя, салодкія, добралітасцівыя, будучы падобнымі да неба, што дае літасць“. Цара сюзерэна павінна характарызаваць чалавекалюбства, правасуддзе, доўгацярплівасць, выбачнасць і падобныя высокія ўласцівасці благароднай і прыгожай душы. Паэт—самаадданы прыхільнік гуманістычнага манархізму, на пачатках патранатскіх узаемаадносін. Існуючы соцыяльны рэжым прадвызначан правідзеннем, вось таму і людзі павінны задавальняцца сваім лёсам.

„Усякі, каму што дадзена лёсам, няхай тым задавальняецца і пра тое гаворыць і думае.

Работнік заўсёды павінен працаваць, а баец мацавацца сэрцам (быць адважным)!“

Будучы, паводле поглядаў, прыхільнікам гуманістычнага манархізму, Шота Руставелі—гарачы прыхільнік і дынастычнага легітымізма. Адным з цэнтральных момантаў паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“ з'яўляецца момант рыцарства і рыцарскіх ідэалаў. Першы пункт кодэкса рыцарскай маралі—воінская доблесць і мужнасць, таму і паэма Руставелі—палкі гімн гэтай самай доблесці. Характэрна, што Нестан-Дарэджан так вызначае прызначэнне „міджнуры“—закаханага:

> „Злашчасныя зняпрытомненні, смерць, якое-ж гэта каханне.
> Ці не лепш паказаць сваёй каханай справы рыцарскія“.

Руставелі цвёрда і строга ўстанаўляе правілы рыцарскай курту-

азіі і складаныя формы бліскучага прыдворнага этыкета. Ідэалізаваны паэмай герой-рыцар адданы і адважны і ў сяброўстве і ў таварыскасці. Дружба і пабрацімства асновы рыцарскага правапарадку, а салідарнасць і гатоўнасць ахвяраваць самім сабой за другога—ідэал паэмы. Рыцары бескарыслівы, дарма абараняюць гандляроў ад піратаў і разбойнікаў, з найвялікшай пачціваслю і павагаю ставяцца да прадстаўніц прыгожага полу, прыяюць і дапамагаюць удовам і сіротам, тым, хто жыве бедна, у галечы. Руставелі прапаведуе шчодрасць, няскватнасць, дастатак, аднолькавую міласць „да вялікіх і малых". Павага да жанчыны ў паэме паказана ў форме рыцарскага кахання („міджнуроба"). Паэт ратуе за свабоднае каханне, незалежны, далёкі ад усякага прымусу выбар у супругі. Паэт ідэалізуе чыстае каханне, якое не мае і напамінку нізкіх і карыслівых пачуццяў, асуджаючы бессардэчнасць, нястрыманыя страсці і сексуальныя жаданні. Каханне ён лічыць прадметам спачування і заахвочвання. Цікава, што і руставельскае каханне— „міджнуроба", характарызуюць тыя-ж формы патранатскіх (сюзерэна-васальскіх) узаемаадносін. Каханая жанчына паводле свайго становішча з'яўляецца найвышэйшым патронам-сюзерэнам, закаханы-ж віцязь толькі найадданейшы васал-слуга (кма). Цікава і тое, што гераіні „Віцязь у тыгравай скуры" (Нестан і Тінатін) і ў соцыяльных адносінах належыць да кола патронаў (сюзерэнаў). У паэме знайшлі адбітак і бытавыя бакі купецкага грамадства. Ва ўмовах гэтага грамадства ўзамен Тарыэла і Аўтандзіла мы бачым ужо Усена, а Нестан і Тінатін тут, у гэтым асяроддзі замяняе Фатман. Але якая бездань ляжыць між імі і як проціпастаўлены іх фізічныя і маральныя асаблівасці. Бліжэйшы сябра („арыфі") цара Гуланшара (купецкай краіны) і царадворац Усен паказан фізічным вырадкам і маральна нізкай асобай, хаця ў справах гандлю ён мае не мала поспехаў. Такой-жа адмоўнай асобай з'яўляецца і Фатман, жанчына лёгкіх паводзін, балбатуха, якая любіць пагуляць і павесяліцца. У купецкім асяроддзі ўзамен арыстакратычна-рыцарскага велікадушша і стрыманасці — пануе маладушша і падкасць, шчодрасць і няскватнасць тут уступаюць месца скупасці, прагнасці і карыслівасці, адданнасці і маральнай чыстаце тут супроцьпастаўлены няўстрымлівасць і распуста. Руставелі напэўна супроцьстаўляе рыцарскую грамадскасць купецкай. У гэтых адносінах яго сімпатыі, безумоўна, на баку феадальна-рыцарскага асяроддзя.

Такім чынам Руставелі, вядома, ідэолаг феадальнага грамадства, у прыватнасці феадальнай знаці, або вярней служылага рыцарскага саслоўя. Руставелі ўвабраў у сябе ўсё багацце высока развітага дрэўнегрузінскага пісьменства і тонкасці рафінаванай усходняй (персідска-арабскай) паэзіі, але як сапраўдны геній, ён не астаецца ў вузкіх рамках ні свайго класа, ні сваёй эпохі. Карэнні творчасці Руставелі далёка пайшлі ў глыбіні сапраўды народнай свядомасці, а сваім свабода-мыслячым светапоглядам ён не толькі пакінуў ззаду сучаснікаў, але і наперад выказаў гуманістычныя ідэі ранняга еўрапейскага рэнесанса. У цэнтры ўвагі Руставелі стаяў чалавек ва ўсёй сукупнасці і непасрэднасці блага-

родна-чалавечых страсцей, ідэй пабрацімства, супрацоўніцтва, любві, вернасці, адданасці, непарушнай веры ў ажыццяўленне прынцыпаў добрага пачатку—безумоўна ідэй народных, выкаваных у векавечнай цяжкай барацьбе грузінскага народа супроць прыгнятальнікаў, як чужаземных, так і сваіх.

Глыбока народны ідэі доблесці, мужнасці, славы, благародства, неўстрашымасці, увогуле ідэі гераічных парыванняў, якімі так шчодра надораны руставельскія віцязі, і дзякуючы якім гэтыя віцязі перамагаюць найгоршыя жыццёвыя нягоды і дасягаюць ажыццяўлення сваіх прыгожых мэт рэальных, свецкіх, а не абстрактных, містычных, як гэта часта бывае ў вялікіх сярэдневяковых класікаў. Шота Руставелі далёкі ад усякай літаратуршчыны, штучнасці, надуманасці, яго героі поўнакроўныя, жыццёвыя, праўдзівыя, гордыя ўсведамленнем грамадскага доўгу чэсці і клятвенага рыцарскага слова. Руставелі бічуе гультайства, маладушша, трусасць, двудушша, усякія нізкія страсці, не вартыя прыстойнага героя-чалавека. Уся паэма Руставелі насычана жыццерадаснасцю, аптымізмам, ідэяй барацьбы, якая з'яўляецца неабходнай умовай перамогі, трыумфу чалавечнасці, таму памыляюцца тыя даследчыкі (ёсць такія, хоць не многа), якія лічаць Руставелі прадстаўніком песімістычнага светапогляду, а руставельскіх герояў раўняюць, атоесамліваюць з пасіўнымі сузіральнікамі жыцця, рабамі свайго ўласнага лёсу.

Дзякуючы сваёй народнасці, гуманнасці і чалавекалюбству, паэма Руставелі была самай любімай кнігай грузінскага народа, народ яе завучыў напамяць і хаваў ад налайкаў і царкоўнікаў ды іншых прадстаўнікоў мракабесся ў непрыступнай цытадэлі сваёй душы.

Будучы цудоўным мастаком—майстрам, Шота Руставелі адначасова з'яўляецца і глыбокім, вялікім мысліцелем. Трэба падкрэсліць, што яго склад думак далёкі ад усякай рэлігійнай замкнутасці і абмежаванасці. Яму чужы і хрысціянска-клерыкальны дагматызм сярэдневяковага Захаду і містыцызм, ён толькі паслядоўнік своеасаблівага свабоднага рэлігійнага мыслення і, між іншым, носіць на сабе адзнакі глыбокага ўплыву неаплатанічнага вучэння. Яно і не дзіўна, бо неаплатанізм глыбока пусціў свае корні ў Грузіі і меў тут выдатных прадстаўнікоў; „неаплатанічнае ўмазрэнне пашырыла інтэлектуальны кругавід грузінскага грамадства... Неаплатанізм разбіў выключнасць рэлігійна-нацыянальнага мыслення грузін і палегчыў ім цесную літаратурную сувязь з мусульманскім светам". (Н. Я. Марр). Руставелі чужы і нацыянальнай замкнутасці, ён касмапаліт, яго ідэі агульначалавечыя. Філасофска-рэлігійныя погляды Руставелі паводле яго часу былі настолькі радыкальныя, што клерыкальная грамадскасць прызнала іх ерэтычнымі і пачала ганенні супроць паэмы. Гэтыя праследванні цягнуліся цэлыя стагоддзі. Дзякуючы ганенням рэакцыйных прадстаўнікоў царквы амаль што цалкам было знішчана першае навуковае выданне паэмы 1712 года. Тэкстуальнаму боку паэмы шмат пашкодзіла і яе надзвычайная папулярнасць і распаўсюджанасць. На працягу стагоддзяў тэкст паэмы нямала пацярпеў скажэнняў і быў амаль знявечаны ў руках перапісчыкаў-прадаўжальнікаў і цэлага сонму перапісчыкаў. Твор

Руставелі ў сваім першапачатковым выглядзе да нас не дайшоў, затое ў нас нямала пазнейшых яго рэдакцый (XVI—XVIII стагоддзяў) з рознымі ўстаўкамі. Сярод даследчыкаў ідуць да апошняга часу спрэчкі як наконт складу тэксту ў цэлым, так і адносна розначальнасці асобных месц твору. З усіх рэдакцый паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“ найбольш распаўсюджанай з'яўляецца так званая Вахтангаўская рэдакцыя. Гэта тая рэдакцыя, якую аддрукаваў у Тыфлісе ў 1712 годзе цар Вахтанг VI, дадаўшы спецыяльныя каментарыі. Новых выданняў паэмы налічваецца да трыццаці, але, за выключэннем двух, усе яны больш або менш уяўляюць з сябе паўтарэнні вахтангаўскага выдання.

Па пастанове Цэнтральнага Камітэта Партыі(б) Грузіі ў канцы 1937 г. будзе урачыста адсвяткаван 750-гадовы юбілей нараджэння вялікага паэта Шота Руставелі. Гэтая гістарычная пастанова забяспечвае надзейную навуковую базу справе даследвання паэмы. Да юбілейных урачыстасцей выдаецца навуковы ўстаноўлены тэкст паэмы.

Паэма „Віцязь у тыгравай скуры“ перакладзена на шмат якія іншакраінныя мовы, на некаторыя поўнасцю, а на некаторыя ва ўрыўках, у асобных частках.

*Д. Джанелідзе*

# НАРОДНАСЦЬ ПАЭМЫ „ВЕПХІС ТКАОСАНІ“

Паэма Руставелі „Віцязь у тыгравай скуры“ сапраўды народны твор. Вось таму яна і карысталася на працягу стагоддзяў непахіснай, неперαўзойдзенай папулярнасцю і, як найвялікшы помнік духоўнай культуры грузінскага народа, дайшла да нашых дзён.

Ні нашэствіе мангольскіх полчышчаў, ні спальванне гарадоў, ні разгром культурных ачагоў краіны, не маглі вытравіць з памяці народнай мудрую аповесць аб Тарыелі і чароўную музыку песень грузінскага народа, паднятую геніяльным майстэрствам Руставелі на вышыню лепшых класічных твораў сусветнай літаратуры. Непатухаемая, палыменная любоў народа да паэзіі Руставелі прыводзіла ў шаленства клерыкальна-царкоўную кліку. Ізуверства і ханжаство чорнараснікаў ніякім чынам не змаглі мірыцца з жыццесцвярджаючай мудрасцю Руставелі, які меў мужнасць і адвагу не падпарадкавацца дагматам царквы і спяваць аб прыгажосці зямнога жыцця, аб брацкім супрацоўніцтве і геройстве, даўшы ўсім прыгнечаным падбадзёрваючы кліч.

„Лучше смерть, но смерть со славой,  
Чем бесславных дней позор“.

На працягу многіх стагоддзяў царква імкнулася зганьбіць Раставелі, унушыць „пастве“ нянавісць да яго, замаўчаць вялікую паэму.

Цімафей—архіепіскап карталінскі (XVIII ст.) клікушаствуаваў аб паэце: „Руставелі быў шкодным вершатворцам, які павучаў замест святасці кашчунству і разбэшчваў хрысціянства“ („Обозрение святых и других мест Востока“, стар. 154).

Антоній—грузінскі каталікос (XVIII ст.) сцвярджаў, што „дарэмна працаваў“ Руставелі („Цкобілі сітквваоба“ § 803). І бачачы, што гэтыя праклёны і пропаведзі ніяк не ўмаляюць папулярнасці „шкоднай“ паэмы, Антоній прымае больш крутыя меры. Кнігі Руставелі былі спалены на агні.

Але народ, беражліва захоўваючы „Віцязя ў тыгравай скуры“, пранёс яго праз варожыя нашэствіі, праз пажары, праз кастры царкоўнікаў. У шчодрага вытока руставелеўскай мудрасці народ заспакойваў смагу пазнання жыцця, атрымліваючы асалоду ад прыгажосці і мілагучнасці паэмы.

Калі-б нават царкоўнікам удалося знішчыць усе рукапісныя спіскі і друкаваныя экземпляры паэмы Руставелі, і тагды-б яна не

была згублена. Да гэтага часу ў многіх вёсках можна знайсці сказіцеляў, накшталт Гіо Кананелі (з сяла Сакоба, Сігнахскага раёна), са слоў якіх з здзіўляючай дасканаласцю ў перадачы тэкста можна запісаць цэлыя часткі паэмы Руставелі.

Амаль да пачатку нашага стагоддзя ў вёсках строга прытрымліваліся звычая—даваць у пыданае дзяўчатам „Вепхіс ткаосані“:

„Была у меня красавица дочь,
Нарядил ее, выдавая замуж,—
В приданое дал ей
Книгу свою „Вепхис ткаосани“.

Так пяе адзін з сказіцеляў.

У народных песнях паказана як высока цэніць народ мудрага паэта:

„Читая „Вепхис ткаосани,“
Поэму, что в веках жива,
Внимаешь с радостным вниманьем
Поэта сладостным словам.
В них неизведанные недра,—
Какая мысли глубина!
Разбросаны по книге щедро
Мудрейших истин семена.
Он весь в сверкающем сияньи,
Поэт. Взглянувши на него,
Пойми, что „Вепхис ткаосани“
„Его надежд поток живой“.

Вершы Руставелі народ не толькі дэкламуе, але і спявае. Паэма Руставелі атрымала багаты адбітак у народнай музыцы. Песні—„Ва сопело рашиган хар“, „Супруги,“ „Зима погубит розу“, кахецінскае доўгае „Мравал-жамiер“, гурыйскае „Ме Руствели“, „Письмо“ і інш. пабудаваны на тэкстах з „Вепхіс ткаосані“.

Мудрыя выказванні Руставелі, яго меткія і выразныя афарызмы робяцца ўпрыгожаннем народнай мовы: „Разве знал победы радость, кто от клятвы отступил?“ „Разве воин—кто на помощь запоздал, скрывая дрожь?!“, „Радости вкушать не трудно, в неудачах крепким будь“!, „Каждый мнит себя стратегом видя бой со стороны“, „Если милая далеко, утро светлое—как ночь“...

Калі паэма „Вепхіс ткаосані“ мела вялікі ўплыў на творчае жыццё народа, дык з другога боку і аўтар яе многім абавязаны народу. Ён—многае запазычваў з скарбніцы вуснай народнай творчасці.

Збіранне і запіс узораў грузінскай народнай творчасці бярэ пачатак з 70-х гадоў мінулага стагоддзя. У друку з'явіліся з пачатку вершаваныя ўрыўкі, а потым цэлыя варыянты з сказа пра Тарыеля. І адразу стала вядомым, што паміж варыянтамі народнага падання пра Тарыеля і паэмай Руставелі вельмі многа агульнага. Гэта дало магчымасць сцвярджаць, што народныя паданні падказалі Руставелі сюжэт, а твор паэта ў сваю чаргу аказаў уплыў на светаадчуванне народа.

Народная паэзія ўжо ў эпоху Руставелі з'яўлялася значнай творчай сілай, з якой даводзілася лічыцца арыстакратычным колам.

У гісторыка царыцы Тамары мы знаходзім успамін аб народных вершатворцах: „Маладыя пастухі ў часе работы на полі спаборнічалі ў вершаскладанні“ („Картлис цховреба“ стар. 489). Іменна тое, што Руставелі добра быў знаёмы з сказаннямі народных песнапеўцаў, давала яму магчымасць чэрпаць са скарбніцы вуснай народнай творчасці матэрыял для стварэння сваёй геніяльнай паэмы.

Гэтая-ж блізасць да народнай творчасці дае магчымасць Руставелі зрабіцца вялікім рэфарматарам грузінскай літаратурнай мовы. Іменна ён вызваліў грузінскую мову ад путаў усялякіх умоўнасцей царкоўна-схаластычных пісанняў.

Народнасць паэтычнай мовы Руставелі абумовіла шырокую папулярнасць паэта, але ў той-жа час і дала яму многа ворагаў з царкоўна-феадальнай клікі.

Усе характэрныя рысы герояў народных паданняў: мужнасць, доблесць, адвага, гатоўнасць да самаахвярнасці, настойлівасць і ўпартае імкненне да вызначанай мэты, полымнае пачуццё кахання і дружбы, захаваны і ўзвялічаны ў паэме „Вепхіс ткаосані“—у чароўных і мудрых вершах геніяльнага песнапеўца з Руставі.

Стагоддзямі прыгнятаемы, але не падаўшы духам народ, у крывапралітных войнах з чужаземнымі полчышчамі ўсходніх сатрапаў, у нястомнай барацьбе з азвярэўшымі памешчыкамі—князямі, унутры сваёй краіны чэрпаў падбадзёрваючую сілу з гераічнай паэмы Руставелі.

„Раз печаль идет волною,—
Крепостною будь стеною“.

Народ вышэй за ўсё паважаў мужнасць і геройства, доблесць і адвагу. Ён знаходзіў у паэме Руставелі словы ненавісці да палахлівых і здраднікаў:

„Что случиться может хуже
Смертный страх увидеть в муже?
В бой пошел, так почему же
Ведать страх?“..

Асаблівую нянавісць народ мае да двурушніцтва і словамі вялікага паэта ганьбіць хлусню і здрадніцтва.

У многавяковай гераічнай барацьбе за чалавечае жыццё народ высока цаніў пачуццё дружбы самаадданых барацьбітоў:

„Надо другу, ради друга
Быть готовым к испытаньям.
Сердцем быть созвучным сердцу
И мостить любовью путь“.

Паэма „Віцязь у тыгравай скуры“ усяляла і ўзмацняла ў народзе веру ў тое, што зло немінуча загіне, будзе пераможаным, калі толькі не загубіць мудрасць, мужнасць і адвагу.

Партыя Леніна—Сталіна прывяла народы Савецкага Саюза да свабоднага і шчаслівага жыцця.

Адроджаны грузінскі народ знаходзіць у паэме Руставелі полымныя і мудрыя словы для выяўлення свае радасці і шчасця. Вялікасць Руставелі ў тым, што ён непарыўнымі сувязямі звязаны з народам. У нашу вялікую сталінскую эпоху Руставелі святкуе свой першы юбілей. Краіна рыхтуецца да дня 750-годдзя з дня нараджэння Шота Руставелі, як да свята вялікага інтэрнацыянальнага значэння.

І гэта радасць перадана ў сучасных народных песнях,—песнях эпохі росквіту народнай творчасці.

---

*Праф. М. Дабрынін*

# ВЯЛІКІ ПОМНІК СУСВЕТНАГА МАСТАЦТВА

*(Да 750-годдзя „Слова аб палку Ігаравым“)*

У былінным гераічным эпасе рускага народа найбольш поўна і маляўніча адлюстравана барацьба Русі за сваю самастойнасць і незалежнасць. Вобразы рускіх багатыроў—Ільі Мурамца, Дабрыні Нікіціча, Алёшы Паповіча і інш. надзвычай яскрава адлюстроўваюць адносіны шырокіх народных мас да карэнных пытанняў жыцця ў старажытнасці. А. М. Горкі надзвычай правільна сфармуляваў думку пра адносіны народнай паэзіі да рэчаіснасці, да гісторыі. „Ад глыбокай старажытнасці фальклор неадступна і своеасабліва спадарожнічае гісторыі. У яго свая думка пра дзейнасць Людовіка XI, Івана Грознага, і гэтая думка рэзка адрозніваецца ад ацэнак гісторыі, напісанай спецыялістамі, якія не вельмі цікавіліся пытаннямі аб тым, што іменна ўносіла ў жыццё працоўнага народа барацьба манархаў з феадаламі“ *). М. Горкі сцвярджае, што „сапраўдную гісторыю працоўнага народа нельга ведаць, не ведаючы вуснай народнай творчасці, якая безупынна і пэўна ўплывала на стварэнне такіх буйнейшых твораў кніжнай літаратуры, як, напрыклад, „Фауст“, „Прыгоды барона Мюнхгаўзена“, „Гарганцюа і Пантагруэль“, „Тіль Уленшпігель“ дэ Костэра, „Вызвалены Праметэй“ Шэлі і шмат іншых“**). Гэтая думка настолькі глыбокая, што павінна стаць метадалагічным прынцыпам пры аналізе гісторыка літаратурных фактаў.

Нам вядома, што ў творах фальклору адлюстраваліся спадзяванні і погляды народныя, якія павінны былі сказацца і на тых творах пісьменства, на якія ўплываў фальклор. Так яно і ёсць. Якраз таксама як у рускім гераічным эпасе адлюстраваліся лепшыя рысы народа, стварыліся стойкія, мужныя, гераічныя характары, так і ў звязаных з эпасам творах пісьменства адлюстравалася гераічнае мінулае нашага народа. Гэта асабліва правільна ў адносінах да помнікаў старажытнасці той пары, калі не было яшчэ глыбокага разрыву паміж фальклорам і пісьменствам.

З помнікаў пісьменства найбольш цесна звязаных з фальклорам і найбольш яскрава адлюстроўваючых гераічную барацьбу рускага народа з'яўляецца „Слова аб палку Ігаравым“.

*) *М. Горкі.* Савецкая літаратура. М. 1934, стар. 19.

**) Там-жа стар. 19.

## ЗНЕШНЯЯ ГІСТОРЫЯ ПОМНІКА

Цаніцель літаратуры і збіральнік старых помнікаў пісьменства граф Мусін-Пушкін у 1795 г. набыў у Яраслаўлі рукапісны зборнік. У ім аказаліся: 1) „Книга глаголемая гранаграфъ“ (хранограф), 2) „Временникъ, еже нарицается лѣтописание Русскихъ Князей и земли Рускыя“, 3) „Сказание о Индии богатой“, 4) „Синагрипъ царь Адоровъ, Ипаливские страны“, 5) „Слово о плъку Игоревѣ, Игоря Святъславля, внука Ольгова“, 6) Дѣяние прежнихъ временъ храбрыхъ человѣкъ о бръзости, и о силѣ, и о храбрости“, 7) „Сказание о Филипатѣ, и о Максимѣ, и о храбрости ихъ“, 8) Аще думно есь слышати о свадѣбѣ Девгѣеве, и о всъхыщении Стратиговнѣ“... Іншымі словамі кажучы, зборнік уключаў хранограф, рускі летапіс, сказанне аб Індыі багатай (сярэдневяковую утопію), аповесць аб „Акіры прамудрым“, „Слова аб палку Ігаравым“ і „Девгѣниево дѣяние.“

Цікавы зборнік быў уключан Мусіным-Пушкіным у яго маскоўскую бібліятэку, а са „Слова аб палку Ігаравым“ была зроблена копія для Екацерыны II, якая (копія) захавалася да нашага часу. Задумаўшы выдаць зборнік, Мусін-Пушкін запрасіў у якасці памочнікаў Бантыш-Каменскага і Маліноўскага, якія прачыталі „Слова“, зрабілі пераклад і падрыхтавалі выданне. У 1800 годзе ён выйшаў пад такім загалоўкам: „Ироическая повесть о походе на половцев удельного князя Новгорода Северского Игоря Святославича, писанная старинным русским языком в исходе XII столетия с переложением на употребляемое ныне наречие“. Масква, у Сенатарскай друкарні, 1800.

У 1812 годзе, у час прыходу французаў у Маскву, бібліятэка Мусіна-Пушкіна згарэла і разам з ёю загінуў арыгінал, з якога знімалася копія для Екацерыны і рабілася выданне 1800 года.

Такім чынам мы не маем нават таго рукапіснага экземпляра, які быў у распараджэнні Мусіна-Пушкіна і які, як мяркуюць даследчыкі, быў не аўтарскім арыгіналам, не рукапісам XII стаг., а пазнейшым спіскам XV-XVI стаг. Не гледзячы на гэта, страта спіска Мусіна-Пушкіна з'яўляецца вялікай стратай, бо ніякія выданні не могуць замяніць яго.

Рад даследчыкаў справядліва дапускаюць, што страчаны спісак быў напісан у Пскоўскай вобласці і на ім адбіліся рысы пскоўскага дыялекта: „Луци“ заместа „лучи“, „шизый“ заместа „сизый“ і г. д. Выданне Мусіна-Пушкіна і копія Екацерыны з'яўляюцца тымі тэкстамі, з якіх пачалося вывучэнне. Але з тае прычыны, што навука ў той час была вельмі маладая і метады яе вывучэння былі даволі слабыя, то ў выданне 1800 г. укралася вельмі многа памылак, цёмных месц, няяснасцей, скажэнняў. Акад. А. М. Орлоў указвае на дапушчаныя першымі выдаўцамі памылкі. Напрыклад, у пунктуацыі, надрукавана: „Долго. (кропка) Ночь меркнет“. А трэба: „Долго ночь меркнет“. У дзяленні слоў надрукавана: „сведоми къ мети“, з перакладам „в цель стрелять знающи“, а трэба „сведоми къмети“, г. зн. спрактыкаваныя воіны.

Або, напрыклад, надрукаванае ў выглядзе чатырох слоў: „му

жа име ся“ з перакладам—„мы-де сами“, у сапраўднасці ёсць адно слова, значыць: „мужаемся“ і г. д. (Гл. ак. А. С. Орлоў, Старажытная руская літаратура XVI-XVII стаг.“ М. Л. 1937, стар. 123-126). Наступным пакаленнем вучоных, аж да нашых дзён, удалося шмат што аднавіць, зразумець сапраўдны тэкст і сэнс помніка. Цікавасць да „Слова аб палку Ігаравым“, гэтага найвялікшага паэтычнага твора сусветнай літаратуры, не аслабляецца на працягу больш за сто гадоў. У выніку гэтага з'явілася багацейшая крытычная літаратура, агляд і аналіз якой станавіў-бы сабой выключную цікавасць.

## ЗМЕСТ „СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ“

Пачынаецца „Слова“ уступам, у якім аўтар звяртаецца да чытача з прапановай сказаць старынным складам воінскіх аповесцей, або старымі словамі ратных аповесцей аб паходзе Ігаравым, Ігара Святаславіча. Але як спяваць гэтую песню? Спяваць яе аўтар хоча апіраючыся на дзею гэтага часу, а „не па замышленню Баянаву“. Гэты стары вешчы пясняр, калі збіраўся тварыць,—„то расцякаўся думкаю па дрэву, шэрым воўкам па зямлі, шызым арлом пад аблакамі“. Ён ускідваў свае вешчыя пярсты на жывыя струны і яны самі князям славу ракаталі.

Аўтар праклаияецца перад паэтычнай сілай, перад фантазіяй вешчага Баяна, але ў аснову свайго твору ён хоча пакласці сапраўдную гістарычную падзею. Далей аўтар расказвае аб тым, як Ігар, набраўшыся баявога духу, павёў свае храбрыя палкі на Палавецкую зямлю, за зямлю рускую. У гэты час здарылася сонечнае зацменне, але яно не спыніла Ігара. Паглядзеўшы на сонца, ён сказаў дружыне сваёй: „Браты і дружына! Лепей ужо забітым быць, чым паланёным быць. Сядзем, браты, на сваіх борзых коней, ды паглядзім сіняга Дону“. Палкае жаданне паглядзець Дону вялікага засланіла яму азнаку: „Хачу, сказаў ён, кап'ё праламіць на канцы поля Палавецкага; з вамі рускія хачу галаву сваю злажыць, або напіцца шлемам з Дону“. І зноў аўтар успамінае Баяна, кажучы аб тым, як-бы той апеў паход Ігара, яго храбрыя палкі.

Цікавы прыём адступлення яшчэ яскравей адцяняе паэтычныя прыёмы, талент Баяна і аўтара і пракланенне апошняга перад першым. Ігар чакае свайго брата Всевалада. „І казаў яму буйны тур Всевалад: „Адзін (ты ў мяне) брат, адзін свет светлы (у мяне) ты, Ігар! Абодвы мы—Святаславічы. Сядлай, брат, сваіх борзых коней, а мае ўжо гатовы, асядланы даўно ля Курска. А мае куране—выпрабаваныя ўдальцы: пеленалі іх пад гукі (ваенных труб), калыхалі над шлемамі, кармілі кончыкамі коп'яў; дарогі ім вядомы, яры ім знаёмы; лукі ў іх нацягнуты; калчаны адкрыты, шаблі адточаны, а самі скачуць, як шэрыя ваўкі ў стэпу, шукаючы сабе гонару, а князю славы“. Ігар ступае ў залатое стрэмя і едзе па чыстаму стэпу. Уся прырода прадказвае яму няшчасце, „ужо бяда яго гоніць птушак па дубах; ваўкі навальніцу навываюць па ярах; арлы клёкатам на косці звяроў клічуць; лісіцы брэшуць на чырвоныя шчыты“. Але рускія далёка зайшлі ў стэп, што аўтар адзначае рэфрэнам: „О, русская земля, уже за шеломянем еси!“ („О, руская зямля, ужо за курганам ты!“). У пятніцу раніцой патапталі яны

паганыя палкі палавецкія і, „рассыпаўшыся стрэламі па стэпу, захапілі багатую здабычу. У стэпу асталіся начаваць“. „Дрэмле ў стэпу храбрае гняздо Олега. Далёка заляцела яно!“ На другі дзень зноў зацменне „чорныя хмары з мора ідуць, хочуць закрыць чатыры сонцы, а ў іх бліскаюць сінія маланкі. Быць грому вялікаму! Ісці дажджу стрэламі з Дону вялікага!“ Здзіўляючая па сваёй сіле паэтычная карціна, прадказваючая пагібель Ігарава войска і яго спадвіжнікаў. У прыродзе адчуваецца бяда, паражэнне няўхільна, але выйсця няма. Адсюль туга, смутак, непазбыўны сум. Лірызм аўтара праступае надзвычай выразна ды ён і не скрывае свайго настрою. „Зямля гудзе, рэкі мутна цякуць, пыл поле пакрывае. Сцягі гавораць: полаўцы ідуць ад Дону і ад мора; і з усіх бакоў рускія палкі абступілі“. Рысуючы карціну сутычкі рускіх з полаўцамі, аўтар маляўніча паказвае храбрасць і неперамножнасць ярага тура Всевалада, які да таго захапляўся барацьбой, што ўсё забываў, „гонар і жыццё, і горад Чарнігаў, бацькоўскі залаты прастол і сваёй мілай супругі, красуні Глебаўны, любоў и ласку!— Пераходзячы да карціны паражэння Ігара, аўтар адцяняе сумныя вынікі паходу Ігара ўспамінам усобіц рускіх князёў. „Тады пры Олегу Гарыславічу засяваліся і раслі усобіцамі, гінулі здабыткі Даждьбожага ўнука; у княжых раздорах век людскі скарачаўся. Тады па рускай зямлі рэдка аратыя пераклікаліся, але часта крумкачы каркалі, трупы паміж сабой дзелячы; а галкі сваю гутарку гаварылі, жадаючы ляцець на корм. То было ў тыя баі і ў тыя паходы, але такога бою не чувана“.

Далей ідзе цікавейшая паэтычная карціна бітвы. „Чорная зямля пад капытамі касцямі была засеяна і кроўю паліта: горам узышлі яны па рускай зямлі...—Біліся дзень, біліся другі, на трэці дзень к поўдню палі сцягі Ігаравы. Тут браты разлучыліся на беразе быстрай Каялы; тут крывавага віна не хапіла; тут пір скончылі храбрыя рускія: сватоў напаілі і самі палеглі за зямлю рускую. Нікне трава ад жаласці і дрэва са смуткам да зямлі нахілілася. „Вось ужо, браты, невясёлы час прышоў, ужо пустыня сілу прыкрыла!“ Далей ідзе карціна вынікаў паражэння Ігара—нелады паміж князямі, якія губілі рускую зямлю, аслабляючы яе і адкрываючы вароты полаўцам. Смутак узмоцнен плачам княжых жонак. „Ужо нам сваіх мілых мужоў ні мыслю памысліць, ні думаю задумаць, ні вачамі ўбачыць, а золата і срэбра зусім (на сабе) не нашываць“. І застагнаў, браты, Кіеў ад смутку, а Чарнігаў ад нягод. Туга разлілася па ўсей рускай зямлі, смутак глыбокі пацёк сярод зямлі рускай“. Так глыбока лірычна, эмацыянальна перадае аўтар свае перажыванні з поваду паражэння Ігара. Затым падзеі з палавецкага стэпу пераносяцца ў Кіеў. Сувяззю служыць развважанне аўтара пра перамогу вялікага князя Святаслава над полаўцамі. Звініць слава Святаслава, дакараючы Ігара, „што пагрузіў багацце на дно Каялы, ракі палавецкай. Тут Ігар князь перасеў з сядла залатога ў сядло раба. Засумавалі па гарадах сцены, а вясёласць панікла“.

Далей дзея пераносіцца ў Кіеў. Вялікі Кіеўскі князь Святаслаў сніць смутны сон у Кіеве на горах: „У гэту ноч,—казаў ён,—з вечара

надзявалі мяне на цёсавым ложку чорным пакрывалам; чэрпалі мне сіняе віно, змешанае з горыччу; сыпалі мне на грудзі парожнымі калчанамі паганых іназемцаў буйны жэмчуг і лашчылі мяне... Ужо дошкі ў маім златаверхім цераму без князька. Усю ноч з вечара шэрыя вароны каркалі ля Плесньска; на лузе былі лясныя змеі і паўзлі да сіняга мора“.

Баяры растлумачваюць Святаславу яго сон, кажучы аб тым, што гора розум паланіла, што два сокалы зляцелі з бацькаўскага залатога прастола. Гэтым сокалам шаблямі крыллі падрэзаны і самі яны аблытаны сілкамі жалезнымі. Тады вялікі Святаслаў выраніў залатое слова, са слязамі зняшанае. У залатым слове Святаслаў дакарае Ігара і Всевалада за іх сепаратнае выступленне, за іх жаданне адным падзяліць славу і затым заклікае рускіх князёў пастаяць за зямлю рускую, за раны Ігара. Святаслаў звяртаецца да Рурыка і Давіда, да Галіцкага Яраслава Осмомысла, да Рамана, Мстыслава, Інгвара, Всевалада і ўсіх трох Мстыславічаў і г. д.

— „О, стагнаць рускай зямлі, успамінаючы былы час і былых князёў! Таго старога Владзіміра нельга было прыгваздзіць да гор кіеўскіх“. Далей ідзе плач Яраслаўны, жонкі Ігара, якая звяртаецца з дакорам і заклікам да ветру, сонца, Дняпра, дапамагчы яе мужу, яго войску, знемагаючым у стэпе. Пасля плачу паказана карціна ўцёку Ігара з палону, яго прабыванне ў стэпе, пагоня полаўцаў і разважанне Гзы з Канчаком пра ўцякацтва Ігара. „Князя Ігара няма! Клікнуў. Загудзела зямля, зашумела трава, шатры палавецкія закалыхаліся. А Ігар князь паскакаў гарнастаем да камыша і белым гогалем на ваду. Кінуўся на борзага каня і саскочыў з яго белым воўкам“. Так аўтар паказвае уцёкі Ігара, якога Данец „калыхаў на хвалях, пасцілаў яму залатую траву на сваіх сярэбраных берагах, апракаў яго цёплымі туманамі пад засенню зялёнага дрэва; пільнаваў яго гогалем на вадзе; чайкамі на плынях; чарнядзьмі на вятрах“.

Полаўцы арганізуюць пагоню за Ігарам. „Па сляду Ігараву едзе Гза з Канчаком... Кажа Гза Канчаку: „Калі сокал (г. зн. Ігар) да гнязда ляціць, сакалёнка (г. зн. сына Ігара Владзіміра) мы расстраляем сваімі залачонымі стрэламі“. Кажа Ганчак Гзе: „Калі сокал да гнязда ляціць, сакалёнка мы аблытаем прыгожай дзяўчынай“. І сказаў Гза Канчаку: „Калі мы аблытаем яго прыгожай дзяўчынай, то ў нас не будзе сакалёнка, ні ў нас прыгожай дзяўчыны, і пачнуць нас птушкі біць у полі Палавецкім“.

Далей аўтар паказвае радасць зямлі рускай з повраду звароту Ігара з палону і канчае абвяшчэннем славы князям і дружыне, якія вядуць „барацьбу за хрысціян супроць паганых палкоў! Князям слава і дружыне!“.

Такі кароткі змест „Слова“.

### Кампазіцыя.

По зместу „Слова“ лёгка падзяліць на тры часткі, не лічачы ўступу і канцоўкі. Тады мы атрымаем:

Уступ.

I. Паход, перамога, паражэнне, палон Ігара.

II. Сон Святаслава, залатое слова Святаслава.

III. Плач Яраслаўны, уцёкі Ігара, пагоня, Ігар у рускай зямлі. Заключэнне—канцоўка.

Гэты падзел самы просты. У навуцы было шмат спроб падзяліць гэты твор. Для прыкладу напомню кампазіцыю „Слова", устаноўленую С. К. Шамбінаго.

Уступ.

Змест: 1) Ігараў паход, 2) Песня аб вялікім Святаславе, 3) Зварот Ігара.

*І-я частка. Ігараў паход.*

А. Злучэнне з Всеваладам і яго дружынай.
Б. Уступленне рускіх у палавецкі стэп.
В. Першая сустрэча з полаўцамі.
Г. Другая сустрэча з полаўцамі.

1. Грозныя знакі прыроды.
2. Гераізм Всевалада.
3. Песня аб часах старога Владзіміра.
4. Наканаваная сеча.

Д. „Трудная" песня аб Ігаравым паходзе.

*ІІ-я частка. Песня аб вялікім Святаславе.*

А. Пахвала вялікаму князю Святаславу.
Б. Сон Святаслава.
В. Залатое слова Святаслава.

1. Зварот з дакорам да Ігара і Всевалада.
2. Адозва да князёў аб дапамозе.

Г. Жальба аб пагібелі прадзедаўскай славы.
Д. Песня аб Всеславе.
Е. Заключная песня.

*ІІІ-я частка. Зварот Ігара.*

А. Плач Яраслаўны.
Б. Вызваленне Ігара.

1. Пабег Ігара з палону.
2. Сустрэча з Данцом.
3. Няўдалая пагоня.

Заключэнне.

Для параўнання вазьму кампазіцыйную схему „Слова" В. А. Келтуялы. Ён адрозпівае 6 раздзелаў:

І. *Уступ.* Сюды Келтуяла ўключае зварот да чытачоў, супроцьстаўленне свае песні песням старога Баяна, характарыстыку творчасці Баяна і зачын: ад старога Владзіміра да цяперашняга Ігара, з яго асноўным, баявым імкненнем на полаўцаў.

ІІ. *Экспазіцыйны пралог.* Вешчае сонечнае зацменне, зварот Ігара да дружыны з заклікам працягваць свой шлях к Дону, зварот аўтара к Баяну з пераканаппем, што паход Ігара варты песнапення Баяна.

ІІІ. *Дыялектыка „Слова".*

Гэта самы вялікі раздзел і складаецца ён з некалькіх частак:

А. Частка першая: антытэзіс. Паход Ігара і яго вынікі. Сюды ўваходзяць такія моманты: зборы ў паход, выступленне, злавесныя абставіны, сустрэчны рух полаўцаў да Дону, далейшае прасоўванне рускіх і злавесная трывога сярод птушак і звяроў, сустрэча Ігара з авангардам полаўцаў, бойка і перамога. Сустрэча Ігара з галоўнымі сіламі полаўцаў, бітва і паражэнне на рацэ Каяле. Сумныя вынікі паходу Ігара і меркаванне аўтара аб іх прычынах.

Б. Частка другая: тэзіс. Супроцьстаўленне Святаслава Грознага, вялікага Ігару і Всеваладу, якія сваім сепаратным выступленнем зруйнавалі дасягненні Святаслава. Сюды ўваходзіць услаўленне Святаслава, злавесны сон Свя-

таслава, залатое слова Святаслава з заклікам да ўсіх рускіх князёў пастаяць за раны Ігара, буйнага Святаславіча і аб'яднацца вакол Кіева і яго князя.

В. Частка трэцяя: сінтэз. Шлях ліквідацыі канфлікта, які стварыўся паміж северскай княска-баярскай групоўкай і кіеўскай. Сюды ўваходзіць: плач Яраслаўны, выратаванне Ігара з палону, пагоня і планы Гзы і Канчака. Гэтым В. А. Келтуяла заканчвае дыялектыку „Слова".

IV. *Эпілог. Прыезд Ігара ў Кіеў* і радасць з гэтага поваду на рускай зямлі.

V. *Заключэнне.* Вітанне князёў.

VI. *Канцоўка:* амінь.

Дэталізуючы сваю тэматычную кампазіцыю, В. А. Келтуяла набліжаецца ў ёй да поўнага пераказу „Слова". Загана яго працы, аднак, не ў гэтым, а ў фармальным разуменні дыялектыкі, у механістычнасці метаду аналіза.

Параўноўваючы кампазіцыйныя схемы „Слова", лёгка бачыць, што яно распадаецца на тры часткі. Як яны звязаны паміж сабою? Яны звязаны вобразам Ігара. Праз усе тры часткі праходзяць адносіны аўтара да свайго героя.

Цікава адзначыць назіранне Жданава аб храналагічнай непаслядоўнасці ў „Слове". Гэта асабліва ясна там, дзе дан плач Яраслаўны. „Аўтар „Слова аб палку Ігаравым" зусім аддзяліў плач ад папярэдняга апавядання, парваў нітку апавядання. Ён ахвяруе знешняй паслядоўнасцю падзей на карысць той ідэальнай сувязі, адпаведна з якой ён стварыў план свайго твору. Аўтар „Слова" у канцы сваёй аповесці будзе гаварыць пра уцякацтва Ігара. Але апавяданню пра гэта трэба, паводле яго плана, прадпаслаць карціну, якая-б давала прадчуванне гэтай падзеі" (А. С. Орлоў). Гэта правільна. Перанёсшы ўвагу чытача з палавецкага стэпу ў Кіеў да вялікага князя Святаслава, аўтар крыху адышоў ад свайго героя і, каб падрыхтаваць чытача да яго звароту, ён дае плач Яраслаўны.

Храналагічная непаслядоўнасць, разрыў логікі падзей не адчуваецца чытачом, бо аўтар захоўвае нутраную логіку свайго твору, сувязь вобразаў, якія раскрываюць ідэю. Кампазіцыя твору бліжэйшым чынам акрэслена задачай, якую ставіць перад сабой аўтар. У даным выпадку задача даць вобраз Ігара патрабавала іменна такой кампазіцыі і гэта сведчыць пра вялікае паэтычнае майстэрства аўтара.

## Пераклады і мастацкія пералажэнні „Слова"

Першае выданне „Слова" 1800 года ўжо было дадзена „з пералажэннем на ўжываемую цяпер мову". У далейшым было дана шмат проста перакладаў і мастацкіх пералажэнняў „Слова". Для ілюстрацыі гэтага моманта параўнаем некалькі перакладаў і мастацкіх пералажэнняў „Слова". Для гэтай мэты возьмем „Плач Яраслаўны".

### Стара-рускі тэкст

„На Дунаи Ярославнинъ гласъ ся слышитъ, зегзицею небнаема рано кычеть: „Плечю, рече, зегзицею по Дунаеви; омочю зебрянъ рукавъ в Каялѣ рѣцѣ, утру князю кровавыя его раны на

жестоцѣмъ его тѣлѣ. Ярославна рано плачетъ въ Путивлѣ на забралѣ, аркучи: „О, вѣтрѣ, вѣтрило! Чему, господине, насильно вѣеши? Чему мычеши хиновськыя стрѣлкы на своею нетрудною крылцю на моея лады вои? Мало ли ти бяешъ горѣ подъ облакы вѣяти, лелѣючи корабли на сине морѣ? Чему, господине, мое веселіе по ковылію развѣя? Ярославна рано плачетъ Путивлю городу на забороле, аркучи: „О! Днепре Словутицю! Ты пробилъ еси каменные горы сквозѣ землю Половецкую. Ты лелѣялъ еси на себѣ Святославли насады до плъку Кобякова. Взлелѣй, господине, мою ладу ко мнѣ, абыхъ не слала къ нему слезъ на морѣ рано". Ярославна рано плачетъ въ Путивлѣ на забралѣ, аркучи: „Свѣтлое и тресвѣтлое Слънце! Всемъ тепло и красно еси. Чему, господине, простре горячюю свою лучю на лады вои? Въ полѣ безводнѣ жаждею имъ луци съпряже, тугою имъ тули затче".

Пераклад Шамбінаго і Ржыгі

„На Дунае Ярославнин голос слышится, кукушкой незнаемой рано кукует: „Полечу, говорит, кукушкой по Дунаю, омочу бобровый рукав в Каяле реке, утру князю кровавые его раны на могучем его теле. Ярославна рано плачет в Путивле на стене, причитая: „О, ветер, ветрило! Зачем, господин, бурно веешь? Зачем несеш вражеские стрелы на своих легких крыльях на воинов моего милого? Мало ли тебе было в вышине под облаками веять, качая корабли на синем море? К чему, господин, мое веселие по ковылю ты развеял?"

Ярославна рано плачет в Путивле в городе на стене, причитая: „О, Днепр Словутич! Ты пробил каменные горы сквозь землю половецкую! Ты качал на себе Святославовы насады до стана Кобякова. Прикачай господин моего милого ко мне, чтобы не посылала к нему слез на море рано!"

Ярославна рано плачет в Путивле на стене, причитая: „Светлое и пресветлое солнце. Всем тепло и прекрасно ты. Зачем, господин, простерло жгучие свои лучи на воинов милого? В степи безводной жаждою им луки свело, истомою им колчаны заткнуло".

Пераклад В. А. Келтуялы

„До Дуная слышится голос Ярославны; неведомой кукушкой она рано взывает: „Полечу,—говорит,—кукушкой по Дунаю, омочу бобровый рукав в Каяле реке, утру князю его кровавые раны на его мужественном теле!" Ярославна рано плачет в Путивле на стене, говоря: О, ветер, могучий ветер! Почему, господин, (так) бурно веешь? Почему на своих легких крыльях метаешь бусурманские стрелы на воинов моего мужа? Мало ли тебе было веять, в вышине под облаками, качая корабли на синем море? Почему, господин, ты развеял мое веселие по ковылю?" Ярославна рано плачет в городе Путивле на стене, говоря: „О, преславный Днепр! Ты пробил каменные горы через половецкую землю; ты лелеял на себе суда Святослава до стана Кобяка. Взлелей, господин, моего мужа ко мне, чтобы мне с утра не слать к нему на море слез!" Ярославна рано плачет в Путивле на стене, говоря: „Светлое и пре-

светлое солнце! Для всех ты тепло и прекрасно. Почему, господин, простер ты свой горячий луч на войско (моего) мужа, (почему) в безводной степи ты жаждой свел им луки, изнеможденией заткнул им колчаны?"

Што датычыцца да мастацкіх перылажэнняў, то іх было вельмі шмат. З'яўленне „Слова" супала з вялікім уздымам нацыяналізма ў пачатку XIX стагоддзя, з цікавасцю да старыны, да Расіі, да яе мінулага і выклікала найвялікшы водгук на „Слова аб палку Ігаравым".

У артыкуле С. Шамбінаго „Мастацкае перылажэнне Слова" дан агляд наследванняў, перакладаў, мастацкіх перылажэнняў „Слова"—з пачатку XIX стагоддзя да нашых дзён. І. Серакоў (1803 г.), Н. Язвіцкі (1812 г.), І. Левіцкі (1833 г.) далі першыя вершаваныя перылажэнні, часам з досыць удалымі асобнымі мясцінамі. Пасля-ж ішлі перылажэнні асобных частак „Слова"—часцей за ўсё „Плача Яраслаўны": Н. Белюсцін (у часопісу „Благонамеренный" ч. VI, стар. 141, 1819 г.) „Яраслаўна" І. І. Казлоў („Дамский журнал" 1821 г.), В. А. Жукоўскі (1817 г.), В. Загорскі („Новости литературы", ч. XIV, стар. 69, 1825 год), Н. Грамацін (1823 г.), М. Дзелару (1839 г.), Н. Берг („Москвитянин" 1846 г.), Д. Мінаеў (1846 г.).

З поўных перылажэнняў варта адзначыць Л. А. Мея (1850), Н. Гербеля (1854), А. Н. Майкава (1869), Аляб'ева (1873), Біцына (1874 г.), А. Скульскага (1876 г.), Славесніка (1879), Вольскага (1908 г.), Н. Бібікава (1913), П. Собалева (1914), нарэшце С. Шэрвінскага і Г. Штормa (выд. „Акадэмія", 1934 г.).

Для характарыстыкі мастацкіх перылажэнняў падамо некалькі прыкладаў:

### Пераклад Гербеля

„Звучный голос раздается  
Ярославны молодой.  
Стоном горлицы несется  
Он пред утренней зарей;  
„Я быстрей лесной голубки  
По Дунаю полечу—  
И рукав бобровой шубки  
Я в Каяле омочу;  
Князю милому предстану  
И на теле, на больном,  
Окровавленную рану  
Оботру тем рукавом".  
Так в Путивле, изнывая  
На стене на городской,  
Ярославна молодая  
Горько плачет пред зарей...  
„Ветер, что ты завываешь  
И на крыльях на своих  
Стрелы ханские вздымаешь  
Мечешь в воинов родных?

Иль тебе уж на просторе
Тесно веять в облаках,
Корабли на синем море
Мчать, лелеять на волнах?
Для чего-ж одним размахом
Радость лучшую мою
Ты рассеял легким прахом
По степному ковылю?
Так в Путивле, изнывая
На стене на городской,
Ярославна молодая
Горько плачет пред зарей:
„Днепр мой славный! Ты волнами
Горы крепкие пробил,
Половецкими землями
Путь свой дальний проложил;
На тебе, сквозь все преграды,
Ты лелеяла, река,
Святославовы насады
До улусов Кобяка;
О, когда б ты вновь примчала
Друга к этим берегам,
Чтобы я к нему не слала
Слез на море по утрам!“
Так в Путивле, изнывая,
На стене на городской,
Ярославна молодая
Горько плачет пред зарей:
„Солнце ясное трикраты,
Всем ты красно и тепло!
Для чего лучом утраты
Войско милого сожгло?
Для чего в безводном поле
Жаждой луки им свело
И, что гнет тоски-недоли,
На колчаны налегло?“

Пераклад А. Майкава

„Игорь слышит Ярославнин голос...
Там, в земле незнаемой, поутру
Раным-рано ласточкою щебечет:
„По Дунаю ласточкой помчусь я,
Омочу бебрян рукав в Каяле,
Оботру кровавы раны князю
На белом его могучем теле!..“
Там она, в Путивле, раным рано
На стене стоит и причитает:
„Ветр-ветрило! Что ты, господине,
Что ты веешь, что на легких крыльях

Носишь стрелы в храбрых воев лады!
В небесах, под облаки бы веял,
По морям кораблики лелеял,
А то веешь, веешь развеваешь,
На ковыль траву мое веселье...
Там она в Путивле, раным-рано
На стене стоит и причитает:
„Ты ли, Днепр мой, Днепр ты мой Славутич!
По земле прошел ты Половецкой,
Пробивал ты каменные горы!
Ты ладьи лелеял Святослава,
До земли Кобяковой носил их...
Прилелей ко мне мою ты ладу,
Чтоб мне слез не слать к нему с тобою
По сырым зорям на сине море!"
Раным-рано уж она в Путивле
На стене стоит и причитает:
„Светлое, тресветлое ты солнце,
Ах, для всех красно, тепло ты, солнце!
Что-ж ты, солнце, с неба устремило
Жаркий луч на лады храбрых воев!
Жаждой их томишь в безводном поле,
Сушишь, гнешь несмоченные луки,
Замыкаешь кожаные тулы"...

### Пераклад Л. Мея

„Ярославны голос слышится...
Перелетною кукушкой
По утру она кукует:
„Полечу,—княгиня молвит:—
Я кукушкой по Дунаю,
Омочу рукав бобровый
Во Каяле, во реке,
Вытру раны я у князя
На его кровавом теле!"
Ярославна рано плачет
Во Путивле на ограде,
Приговариваючи:
„Ох, ты ветер, буйный ветер!
Для чего насильно веешь,
Для чего на легких крыльях
Ты стрелков наносишь ханских
На удалую дружину
Моего милога друга?
Али мало тебе веять
Вверх под облако, лелея
Корабли на синем море?
Для чего мое веселье
По ковыль-траве развеял?"

Ярославна рано плачет.
Во Путивле на ограде,
Приговариваючи:
„Ох, ты, Днепр, мой пресловутый!
Через каменные горы
В Половецкую страну
Ты пробился, ты лелеял
Святославовы насады
До Кобякова полку:
Прилелей-же мне милого,
Чтобы на море поутру
Мне не слать к милому слез!“
Ярославна рано плачет
Во Путивле на ограде,
Приговариваючи:
„Ох ты, солнце, мое солнце,
Солнце светлое мое!
Всем светло и всем красно ты:
Для чего-ж лучом горячим
Опалило ты дружину
Моего милого друга
И в безводном поле жаждой
У нее луки стянуло,
И колчаны ей истомой
Заложило, запекло?“

Пераклад Шэрвінскага С.

„На Дунае Ярославнин глас слышен,
Кукушкою незнаемой поутру кукует:
„Полечу,—говорит,—кукушкою по Дунаю,
Омочу бобровый рукав в Каяле-реке,
Утру князю кровавые его раны,
На могучем его теле.“
Ярославна поутру плачет
В Путивле на забрале,
Причитаючи: „О, ветер-ветрило!
К чему, господин, ты сильно веешь?
К чему мчишь ты хиновские стрелы
На своих легких крыльях
На воинов мила друга?
Мало ли тебе было
В выси под тучами веять,
Колыхаючи корабли
На синем море?
К чему, господин, ты мое веселие
По ковылю развеял?“
Ярославна поутру плачет
В Путивле городе на забрале,
Причитаючи: „О, Днепр Словутич!

Ты пробил каменные горы
Сквозь землю Половецкую,
Ты качал на себе Святославовы насады
До стана Кобякова!
Прикачай, господин, моего друга ко мне,
Чтобы я не слала к нему
Слез на море утром!"
Ярославна поутру плачет
В Путивле на забрале,
Причитаючи: „Светлое и тресветлое солнце!
Всем тепло и прекрасно ты,
К чему, господин, ты простерло
Горячие свои лучи на воинов друга?
В поле безводном жаждою им луки сопрягло,
Тугою им тулы свело?"

Пераклад Г. Шторма

Ярославны голос слышен,
Кукушкой, неслышимо, рано кычет:
„Полечу, молвит, кукушкой по Дунаю,
Смочу бобровый рукав в Каяле-реке,
Утру князю кровавые его раны
На могучем его теле".
Ярославна рано плачет
В Путивле на ограде, жалобя:
„О, ветер-ветрило!
К чему, господин, враждебно веешь?
К чему мечешь поганские стрелки
На своих воздушных крыльцах
На моего лады воинов?
Мало-ли тебе было
В высь-под облаки веять,
Лелея корабли на синем море?
К чему, господин, мое веселие,
По ковылю развеял?"
Ярославна рано плачет
В Путивле городе на ограде, жалобя:
„О, Днепр, Словутич!
Ты пробил каменные горы
Через землю Половецкую,
Ты лелеял на себе
Святославовы насады
До полка Кобякова,—
Прилелей, господин, моего ладу ко мне,
Чтобы не слала к нему слез на море рано".
Ярославна рано плачет
В Путивле на ограде, жалобя:
„Светлое и тресветлое солнце!
Всем тепло и радостно ты:

К чему, господин, простерло
Горячие свои лучи
На (моего) лады воинов?
В поле безводном
Жаждою им луки повело;
Гнетом им тулы заткнуло?"

Пераклад Янкі Купалы

Пяюць дзіды на Дунаі,
А ў Пуціўле Яраслаўна
Безуцешнаю зязюлей
Наракае раным-рана:
Паляту я ў даль зязюляй
„Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ-Каяле
Рукавок я свой бабровы
І зляту да князя ў полі,
Дзе ў зялёнай лёг пасцелі,
Ды крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе".
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі, на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
„О, вецер, ветрыска!
Чаму ўладар лётам
Сваім гэтак вееш
У вочы сіротам?
Чаму ты на крыллях—
І вольны і смелы—
На мужных ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы?
Ці-ж веяці мала
Табе пад аблокі—
Угары, ў паднябессі
Шырокім, далёкім?
Або ў сінім моры,
Лялеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?
Чаму ты, ўладару,
Мне радасць асіліў,—
Вясёласць развеяў
Па дзікім кавылі?"
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
„О, Днепра Славуціч!

Ты ў каменных горах
Праз полаўцаў землі
Дол высек у мора.
Кабякову войску
Чаўны Святаслава.
Сабой ты лялеяў
Акрылены славай.
О, мне прылелей жа
Уладараў, харомы
Саколіка-мужа
З зямлі незнаёмай!
Каб слёзаў я рана
У тузе небывалай
К яму цераз поле,
На мора не слала!"
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
„О, светлае сонца!
Трысветлае! Усюды
Цяплом і красою
Яснееш, як цуды.
Чаму-ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанесла, не ждучы?
На полі бязводным
Ты смагай пагнула
Ім лукі, а тугай
Заткала утулы?!"

Гэтых прыкладаў зусім даволі, каб меркаваць пра характар мастацкіх пералажэнняў. Пры ацэнцы пералажэнняў неабходна высоўваць аб'ектыўныя крытэрыі: адэкватнасць арыгіналу, адпаведнасць духу мовы і музыкальнасці арыгінала. З старых пералажэнняў гэтым патрабаванням больш за ўсё адпавядае праца А. М. Майкава.

## Крыніцы „Слова".

У аснове „Слова аб палку Ігаравым" ляжыць тая падзея, якая апісваецца ў летапіснай аповесці, змешчанай без загалоўка ў Іпацьеўскім летапісу пад 6693 годам. Каб мець уяўленне аб тым, наколькі блізка падыходзіць аўтар „Слова" да летапіснай аповесці, скарыстаем пераказ з Іпацьеўскага летапісу, зроблены А. С. Орловым:

„У аўторак, 23 красавіка, Ігар Святаслававіч выступіў з братам Всеваладам, князем Трубчэўскім, пляменнікам Святаславам Ольгавічам, князем Рыльскім, сынам Владзіміра, князем Пуціўльскім, выпрасіўшы ў Яраслава дапамогу ад чарнігаўцаў. Калі войска на-

блізілася да Данца. здарылася сонечнае зацменне. Ігар паглядзеў на неба і ўбачыўшы сонца, стаяўшае „яко месяц“, паказаў на гэта зацменне дружыне. Тыя паніклі галовамі і сказалі: „Княжа, се есть не ва дабро знамение“. Ігар ўсё-ж пераправіўся праз Данец у палавецкі стэп. Каля Осколу чакаў два дні Всевалада. Першая сутычка з полаўцамі адбылася ў пятніцу ў абедзены час, каля ракі Суюрлія. Распалажэнне войск і бітва апісаны ў летапісу падрабязна. Між іншым, упамянут такі манеўр стэпавікоў: „Выѣхаша изъ половѣцьскіх полковѣ стрѣлци пустивше по стрѣле на Русь (за рѣку) и тако поскочиша“. Рускія перамаглі, прабіліся да палавецкіх вежаў і „апаланіліся“. На досвітку другога дня, у суботу, полаўцы пачалі наступаць з усіх бакоў, падобна лесу. Князі недаўмявалі, каму на які атрад нападаць. „Нібы ўсю зямлю іхную мы на сябе сабралі“,—гаварыў Ігар.—„Тут і Канчак, і Гза Бурновіч, і Таксобіч, і Калобіч, і Ецебіч, і Тартробіч“. Усе спешыліся, імкнучыся прабіцца да Данца. У пачатку боя Ігара паранілі ў левую руку. Біліся да вечара і ўначы. На досвітку ў нядзелю чарнігаўцы дрогнулі. Ігар, які біўся на кані з-за раны, кінуўся спыняць іх і нават зняў шлем, каб яны яго не пазналі, але тыя не вярнуліся. Ігара схапілі; гледзячы як моцна б'ецца брат яго Всевалад, Ігар прасіў сабе смерці, каб не бачыць, як ён упадзе.

Так, „во день святого воскресенья, наведе на ны господь гнѣвѣ свой, вѣ радости мѣсто наведе на ны плачъ и во веселья мѣсто желю, на рѣке Каялы“. Усе князі былі ўзяты ў палон, прычым Канчак выручыўся за свата свайго Ігара, бо ён быў паранены. Мала асталося ў жывых рускіх,—не было куды і ўцякаць, „занѣ яко стѣнами силнами огорожени бяху полкы половѣцькими“, толькі 15 уцяклі, чарнігаўцаў яшчэ менш, рэшта-ж патанула ў моры.

Вестку пра пагібель Ігарава палка прынёс вялікаму князю Святаславу Всеваладавічу Белавод Прасовіч. Святаслаў заплакаў і, падасадаваўшы з таго, што нестрыманыя ад маладосці князі сваім паражэннем „отвориша ворота на Рускую землю“, пашкадаваў іх. Полаўцы, сапраўцы, як у вароты, хлынулі на рускую зямлю. Канчак аблажыў Пераяслаўль, параніў тамашняга князя Владзіміра Глебавіча, якога ледзь адбілі ў часе вылазкі, быў узят горад Рымаў, у якім упалі дзве вежы ад цяжару абаронцаў, Гза разбурыў і спаліў Пуціўль.

Ігар тым часам жыў у палоне, без асаблівага прыцяснення. Прыстаўленая да яго варта, у ліку 20 чалавек, дазваляла яму паляваць на ястраба, выказвала павагу і выконвала ўсе яго загады. Ігар загадаў прысдаць сабе свяшчэнніка з Русі, разлічваючы прабыць у палоне доўга. Найшоўся сярод полаўцаў муж па імю Лавор, які параіў Ігару уцячы з ім у Русь. Ігар спачатку не давяраў яму, але сын тысяцкага і канюшы, якія падзялялі з ім зняволенне, усякім чынам схілялі князя на ўцёкі. У той час варочаліся полаўцы з-пад Пераяслаўля і думцы пачалі яшчэ больш угаварваць Ігара. Нарэшце князь адважыўся і сказаў Лавору пра свайго канюшага: „переѣди на ону страну (реки) Тора с конём поводным“. К вечару полаўцы напіліся кумысу; канюшы паведаміў князя, дзе Лавор чакае. Ігар выйшаў, узняўшы сцяну палаткі, пераправіўся ўброд праз раку

і сеў на падрыхтаванага каня. Так яны прайшлі праз палавецкія вежы і праз 11 дзён дасягнулі Данца. Адтуль князь накіраваўся ў свой Ноўгарад-Северск, пасля наведаў Яраслава ў Чарнігаве з просьбай аб дапамозе, а адтуль выехаў у Кіеў да вялікага князя Святаслава „и рад бысть ему Святослав, также и Рюрик, сват его".

Лёгка бачыць падабенства і розніцу паміж летапіснай аповесцю і „Словам". У першым выпадку пераважае фактычны матэрыял, адсутнічае прыгожая форма, адсутнічае сімволіка, лірызм, у наяўнасці спакойны тон. У другім выпадку мы бачым глыбока лірычны, высока мастацкі твор, дзе важна перадаць сваю асноўную ідэю, сваё пачуццё, сваё перажыванне ў выбраным плане апавядання. Аднак, той факт, што ў аснове ляжыць адна і тая-ж гістарычная падзея (апрача таго ёсць некаторыя аднолькавыя сказы), пераконвае ў тым, што летапісная аповесць магла быць адной з крыніц „Слова". Апрача гэтай крыніцы, даследчыкі „Слова" паказваюць і на рад іншых.

1. Вусная народная паэзія, што лёгка пацвярджаецца аналізам вобразаў і мовы: сіні Дон, шэрыя воўкі, борзыя коні, чыстае поле і рэфрэн: „О, руская зямля, ужо за курганам ты!"

2. Старажытная песня, што пацвярджаецца агульным тонам твору і спасылкамі самога аўтара на песню баяна.

3. Паралелі з скандынаўскіх саг указвае Ф. Буслаеў.

4. На крыніцы многіх вобразаў у кампілятыўных хранографах, у якія ўваходзілі і біблія, і гісторыя Флавія, і Александрыя, і сказанне аб Троі—указвае А. С. Орлоў.

Наяўнасць гэтых крыніц, як для „Слова" у цэлым, так і для яго асобных вобразаў, так і для асобных момантаў тэксту, не змяншае паэтычнай вартасці гэтага паэтычнага твору. Яго арыгінальнасць, яго высокая паэтычная вобразнасць, глыбокі страсны лірызм, тэматычная шырыня, глыбокае разуменне задач сваёй эпохі ставяць гэты твор, як мы ўжо адзначылі вышэй, у рад твораў сусветнай літаратуры. Ды і самі даследчыкі, якія паказваюць на крыніцы „Слова", падкрэслівалі не простае запазычванне, а творчую перапрацоўку матэрыяла, у працэсе якой старыя вобразы ператтвараліся ў новыя, глыбока паэтычныя карціны.

### Вызначэнне даты твора

Гаворачы пра крыніцы, мы шчыльна падыйшлі да пытання пра дату твора. Для аналіза літаратурнага твора гэта пытанне немалаважнае наогул, а для фактаў старажытнай літаратуры яно робіцца надзвычай цяжкім. Да якога часу можна аднесці гэты твор? Рукапіс, з якога было зроблена графам Мусіным першае выданне „Слова" і знята копія для Екацерыны, дапасоўваецца даследчыкамі да XV—XVI стагоддзяў. Зразумела таму пытанне пра тое, калі ён напісан? Зразумела таксама скептыцызм даследчыкаў і пытанне аб тым, ці мог быць такі помнік у Кіеўскай Русі? Так Майкаў А. Н. указваў на пярэчанне аднаго сябра, які аргументаваў супроць арыгінальнасці тым, што „Слова" займае адзінотнае месца ва ўсёй на-

шай старажытнай літаратуры. „Ну, мяркуйце самі, з якой рацыі ў полі, засеяным пшаніцай, раптам вырас бы розан?“— пытаецца гэты скептык. Гэта, аднак, непаразуменне. Выходным пунктам для вызначэння даты твора з'яўляецца паход Ігара ў 1185 г. Зразумелая справа, што раней гэтага году твор з'явіцца не мог.

Падаю далей разважанне В. А. Келтуялы. Але яно не можа быць напісана і пазней 1202 года, г. зн. пачатку 13 стагоддзя. Чаму? Таму, што ў „Слове“ ёсць такое месца: „Почнем же, братья, повесть сию от старого Владимира до нынешнего Игоря...“ А Ігар памёр у 1202 г., значыць яно было напісана не пазней 1202 г., калі Ігар быў жывым, гаворка пра яго як пра жывога чалавека ідзе. Такім чынам яно магло быць напісана ў перыядзе з 1181 па 1202 год. Ёсць яшчэ некаторыя даныя для ўдакладнення даты твора.

„У „Слове“ ёсць месца, якое паказвае пагоню ханаў Гзы і Канчака за уцёкшым з палону Ігарам, і аўтар падае размову ханаў. З гэтай размовы відаць, што Гза хоча спагнаць уцёкі Ігара на сакалёнку (сын Ігара—Владзімір), які знаходзіўся ў гэты час у палоне, але справа канчаецца тым, што Канчак раіць ажаніць яго. Владзімір ажаніўся з Канчакоўнай і потым уцёк з палону. Уцёк ён з палону ў 1187 годзе.

Відаць, аўтар „Слова аб палку Ігаравым“ пісаў дыялаг між ханамі, ужо ведаючы пра тое, што яны аблыталі „сакалёнка“ дзяўчынай і што Владзімір ужо ўцёк з палону.

Значыць, мы маем больш дакладную дату—уцякацтва Владзіміра з палону ў 1187 годзе.

Апрача таго, у творы ёсць яшчэ некалькі падобных месц. Напрыклад, у адозве Святаслава Кіеўскага да сучасных князёў аб дапамозе, ёсць зварот да славутага Галіцкага князя Ярослава Осмомысла.

З летапісу вядома, што Осмомысл памёр у 1187 годзе. Калі ўсе гэтыя даты звязаць, то атрымаецца, што „Слова“ напісана ў 1187 годзе, г. зн. праз два гады пасля паходу.

Ёсць яшчэ некаторыя даныя для меркавання, што іменна к 1187 году адносіцца гэты твор. У 1185 годзе Ігара разбілі полаўцы, а праз два гады быў сабраны новы паход на полаўцаў, прычым гэты паход ужо быў пад кіраўніцтвам вялікага князя Святаслава.

Погляд Жданава, падтрыманы В. А. Келтуялай пра тое, што „Слова“ напісана ў 1187 годзе, выклікае рад пярэчанняў. Між іх адзначым пярэчанне А. Ляшчанка, які сцвярджае, што „Слова“ напісана ў 1185 годзе. Паход Ігара быў вясной 1185 года ў красавіку месяцы, з палону Ігар уцёк увосень, увосень-жа, на погляд А. Ляшчанка, і было напісана „Слова“. Што-ж датычыцца жаніцьбы Владзіміра на Канчакоўне, то на яго погляд маладыя людзі былі абручаны да паходу і аўтару гэта, пэўна, было вядома, на гэтай падставе ён і высунуў указанае меркаванне аб тым, што „сакалёнак“ уцячэ.

Такім чынам, у 1185 ці 1187 годзе? Па-сутнасці кажучы, розніца ў два гады не мае істотнага значэння для разумення сэнсу,

значэння, паэтычных вартасцей твора. Важна толькі тое, што яно напісана ў 80-х гадах XII стагоддзя і адлюстроўвае гэту эпоху, а адносна гэтага ў цяперашні час рознагалоссяў сярод вучоных няма. Калі прызнаць, што „Слова“ створана ў 1187 годзе, то ў бягучым годзе споўнілася 750 год з часу яго стварэння.

## Аналіз

Якая-ж асноўная ідэя „Слова“, які яго сэнс і месца ў барацьбе класаў? Тэма твору—паход Ігара. Вобраз гэтага князя стаіць у цэнтры твора. Яго паражэнне, яго смутак, ёсць смутак усёй зямлі рускай: „біліся дзень, біліся другі! На трэці дзень к поўдню палі сцягі Ігаравы. Тут абодва браты разлучыліся на беразе хуткай Каялы. Тут не хапіла крывавага віна; тут храбрыя русічы скончылі пір: напаілі сватоў, а самі паляглі за зямлю рускую. Нікне трава ад жаласлівасці, а дрэва з жальбай нахілілася к зямлі. І вось, браты, невясёлы час ужо настаў: ужо (рускую сілу) стэпавая (пустыня) прыкрыла! Паўстала ў сілах унука Дажбога крыўда, ступіла дзяўчынай на Траянаву зямлю, запляскала на сінім моры, каля Дону лебядзінымі крыллямі і плёскаючы, прагнала шчаслівыя часы... О, далёка заляцеў сокал, б'ючы птушак,—к мору! А храбрага войска Ігарава не ўваскрасіць. Услед яму залямантавала Карна і жалобная Жля паімчалася па рускай зямлі, раскідваючы агні ў палымнеючым рогу. І застагнаў, браты, Кіеў ад жальбы, а Чарнігаў ад нягод. Разлілася туга па рускай зямлі; глыбокая жальба пацякла сярод рускай зямлі“.

І, наадварот: поспех Ігара з'яўляецца радасцю ўсёй зямлі рускай. Зварот Ігара перададзены ў такіх танах: „Сонца свеціць на небе,—князь Ігар на рускай зямлі. Дзяўчаты спяваюць на Дунаі; уюцца галасы праз мора да Кіева. Ігар едзе па Барычаву спуску да святой багародзіцы Пірагошчай. Краіна рада, гарады веселы!

Паход Ігара—прыватны факт старарускага жыцця. Але аўтар надае яму агульнарускае значэнне, форму ўсеагульнасці. Барацьба ўдзельных князёў паміж сабою і паходы на полаўцаў—звычайная з'ява на Русі ў гэты перыяд. Вось факты.

1. У 1199 годзе хадзіў на полаўцаў сын Рурыка Ростыслаў.
2. У 1192 годзе Святаслаў з Рурыкам хадзілі да межаў, але сутычкі з полаўцамі не мелі, прастаяўшы цэлае лета пад Кеневам.
3. У 1193 годзе было два паходы: першы—аднаго Рурыка, другі—сына Рурыка Ростыслава.
4. У 1198 годзе на полоўцаў хадзіў Всевалад.
5. У 1201 годзе на полаўцаў хадзіў князь Раман.

Гэтыя паходы былі пасля напісання „Слова“. Але такія-ж паходы былі і да гэтага часу. Напомнім, што ў 1183 годзе хадзіў Святаслаў, у 1185—Ігар, у 1187—Святаслаў, у 1191—зноў Ігар.

Такім чынам, паходы князёў на полаўцаў па адным і групамі былі звычайнай з'явай старажытнай Русі. Але аўтар яўна вылучае паход Ігара, як урок для ўсяе зямлі рускай, перадаючы яго паражэнне і вызваленне ў высокім эмацыянальным тоне. Аўтар авявае яго героікай, паказвае станоўчы вобраз князя, які хоча пакласці

сваю галаву за зямлю рускую. У тэксце твору лёгка раскрыць гэту рэальную аснову. Яна выражана ў такіх словах: „І сказалі баяры князю: „Князь! Ужо тваім розумам завалодала жальба: вось два сакалы зляцелі з бацькоўскага залатога прастолу, каб здабыць горад Тмутаракань або, па крайняй меры, папіць шлемам з Дону". Ды і сам Ігар, ахоплены страсным жаданнем дамагчыся вялікага Дону, кажа: „ Я-ж хачу біцца ў самым канцы палавецкага стэпу: хачу з вамі, рускія, або галаву сваю палажыць, або напіцца шлемам з Дону". Напіцца шлемам з Дону азначае авалодаць гэтай зямлёй—Донам. Але Тмутаракань знаходзіўся на гандлёвым шляху. Супернічаючы з кіеўскімі князямі, северскія князі былі пастаўлены ад іх у залежнасць, бо гандлёвыя шляхі знаходзіліся ў руках першых. Даводзілася думаць пра іншыя шляхі на ўсход праз Волгу, Дон, Азоўскае мора. Заваяванне Тмутаракані і пракладванне гандлёвых шляхоў і з'яўляецца адной з прычын пахода Ігара. Але была і яшчэ адна прычына. Паходы былі сродкам узбагачэння. У „Слове" ёсць такое месца: „На досвітку ў пятніцу (рускія) патапталі полк паганых полаўцаў і рассыпаўшыся стрэламі па стэпу ўмчалі прыгожых палавецкіх дзяўчат, а з імі (захапілі) золата, ткань і дарагія атласы. Пакрываламі і накідкамі і кажухамі і ўсякімі палавецкімі тканямі пачалі па балотах і гразкіх месцах масты масціць. Храбраму Святаславічу (дасталіся) чырвоны сцяг, белая харугва, чырвоны бунчук, сярэбранае кап'ё. Дрэмле ў стэпу храбрае гняздо Олега. Далёка заляцела яно!" Захоп здабычы, золата, тканей, атласу, захоп рабоў таксама былі мэтаю пахода. Калі жонкі ўспамінаюць князёў, яны кажуць: „Ужо нам сваіх мілых супругаў ні мыслію не ўзмысліць, ні думаю не здумаць, ні вачамі не ўбачыць, а золата і срэбра нават (рукамі) не патрапаць". Зноў гаворка ідзе пра здабычу. Але аўтар не высоўвае гэтых рэальных асноў паходу, гэтых матэрыяльных матываў. Ён указвае, што воіны шукаюць сабе гонару, а князю славы. Аўтар падкрэслівае, што паход Ігара быў зусім не ў асабістых інтарэсах, а ў інтарэсах усёй рускай зямлі. Прыватнаму факту аўтар надаў усеагульнае значэнне. Гераізм у барацьбе за зямлю рускую, веру хрысціянскую высунут на першы план. У такім падыходзе няма нічога незвычайнага. Падкрэсліўшы гэты момант, аўтар раскрыў аб'ектыўнае значэнне пахода—барацьбу Русі за сваю самастойнасць і незалежнасць. Ператвараючы прыватны факт у агульнарускі момант, аўтар узяў тыповую з'яву рускага жыцця ў тыповых абставінах. Цікава адзначыць, што шырокія сялянскія масы ў „Слове" адсутнічаюць, яны выпалі з поля зроку аўтара. Толькі ў адным месцы аўтар ўпамінае пра аратых, смердаў. „Тады-ж пры Олегу Гарыславічу, сеялася і вырастала ўсобіца; здабыткі ўнука Дажбога гінулі; у княскіх крамолах скарачаўся людскі век. Тады на рускай зямлі рэдка пакліквалі аратыя; затое крумкачы часта каркалі, дзелячы сабе трупы; а галкі вялі сваю гутарку, жадаючы паляцець на корм". Затое аўтар добра ведае князёў, іх генеалогію, іх сілу, храбрасць, асабістыя якасці. У вусны вялікага князя Святаслава ён укладвае зварот-заклік да ўсіх рускіх князёў. У гэтым закліку ён дае ім характарыстыку. Вось нараканне на Ігара і Усевалада:

„О, мае сыноўцы Ігар і Всевалад! Не ў час пачалі вы мячамі выклікаць слёзы на Палавецкай зямлі, а сабе шукаць славы; але вы адолелі не з гонарам, таму што пралілі кроў паганых, не здабыўшы сабе гонару. Вашы храбрыя сэрцы акаваны моцным булатам і загартаваны адвагаю. А што-ж вы натварылі маёй срэбранай сівізне? І ўжо не бачу я сілы моцнага, і багатага, і ваяўнічага брата майго Яраслава з Чарнігаўскімі баярамі, з магутнымі ваяводамі і з татранамі, і з шэльбірамі, і з тапчакамі, і з рэвугамі, і з ольберамі; гэтыя бывала без шчытоў (аднымі толькі), захаляўнымі нажамі або (толькі) з баявым клічам перамагаюць палкі, звенючы славаю прадзедаў".

Далей зварот да Всевалада: „Вялікі князь Всевалад! ці не памысліш ты прыляцець з свайго далёка, каб ахоўваць бацькоўскі залаты прастол? Ты-ж можаш вёсламі Волгу распляскаць, а шлемамі вычарпаць Дон!"

Пасля да Рурыка: „Ты, дзерзасны Рурык, і (ты) Давід! Ці не вашы воіны залачонымі шлемамі па крыві плавалі? Ці не ваша храбрая дружына рыкае падобна турам, раненым загартаванымі шаблямі ў невядомым стэпу? Ступіце, панове, у залатое стрэмя за крыўду цяперашняга часу, за рускую зямлю, за раны Ігара, адважнага Святаславіча!"

Далей Яраслаў Галіцкі Осмомысл: „Высока сядзіш ты на сваім златакованым прастоле, падпёршы угарскія горы сваімі жалезнымі палкамі, загарадзіўшы шлях каралю, зачыніўшы вароты Дунаю, перакідваючы цяжар праз воблакі, знараджаючы судны да Дуная. Твае навалы працякаюць па землях; (ты) адчыняеш вароты Кіеву; страляеш з бацькоўскага залатога прастола ў султанаў па (шматлікія) землі. Страляй, пан, у Канчака, паганага стэпавіка, за Рускую зямлю, за раны Ігара, адважнага Святаславіча!"

Вось Раман і Мстыслаў: „А ты, адважны Раман, і (ты) Мстыслаў! Храбрая думка імкне ваш розум на справу! Высока ляціш на подвіг у (сваёй) адвазе, распрасціраючы, як сокал, крыллі ў паветры, жадаючы адолець у адвазе птушку".

Вось „Інгвар і Всевалад і ўсе тры Мстыславічы. Не дрэннага гнязда (сакалы) шасцікрыльцы. Ці не пераможнымі жэрабямі вы здабылі сабе воласці? Дзе вашы залатыя шлемы і ляшскія коп'і і шчыты? Загарадзіце стэпу вароты сваімі вострымі стрэламі за зямлю рускую, за раны Ігара, адважнага Святаславіча!"

З гэтага звароту-закліку пастаяць за зямлю рускую і за веру праваслаўную, і за раны Ігара Святаславіча відаць, што Святаслаў тужыць аб паражэнні Ігара, бо яно адчыніла полаўцам дарогу на Русь. Тут дадзена надзвычайная характарыстыка рускіх князёў, паказаны асаблівасці кожнага з іх. Адзін можа „вёсламі Волгу распляскаць і шлемамі вычарпаць Дон", другі „рыскае падобна турам, раненым загартаванымі шаблямі ў невядомым стэпу, трэці „высока ляціць на подвіг (у сваёй) адвазе распрасціраючы, як сокал, крыллі ў паветры, жадаючы адолець у адвазе птушку" і г. д.

З выключнай глыбінёй раскрывае аўтар свае адносіны да князёў, да рускай зямлі, да вялікіх пытанняў эпохі. Ён—чалавек з шырокім палітычным кругаглядам, глыбокім разуменнем гістарычнага

працэса, дзяржаўным поглядам на жыццё. Тым цікавей, вырашыць пытанне аб прыналежнасці аўтара, аб яго пазіцыі і месцы ў тагочасным грамадстве. Адны даследчыкі прытрымліваюцца погляду, што ён з поўначы, г. е. прыхільнік Ігара, іншыя сцвярджаюць, што ён з поўдня, г. е. прыхільнік Святаслава Кіеўскага. Акадэмік А. С. Орлоў піша: „Яго выдатнае веданне князёўскіх адносін за цэлае стагоддзе сведчыць не толькі пра блізкасць да князёў, але і пра начытанасць у летапіснай літаратуры, якую ён месцамі скарыстаў і стылістычна. Ён быў вельмі адукаваным і начытаным не толькі ў рускай, але і ў зарубежнай літаратуры... Магчыма, што аўтар „Слова“ трапіў на левы бок Дняпра, у Чарнігаўшчыну, да Ноўгарад-северскага князя Ігара з галіцкай вобласці, напрыклад, разам з галіцкай княжной Ефрасініяй Яраслаўнай, якая стала жонкай Ігара. Пра паўднёва-заходняе паходжанне „Слова“ сведчыць, па мойму, і мова твору, і асабліва панегірычныя адносіны да Яраслава Галіцкага, і блізкасць у стылі да галіцкага летапісу. Складзенае пры двары Ігара, „Слова“ наўрад ці стваралася як песня, але яго рытмічная проза гарманізавана пад стыль песень. Калі „Слова“ ўзнікла пры двары Ігара, то аўтар усёроўна з'яўляецца прыхільнікам Кіеўскай арыентацыі, прыхільнікам Святаслава“.

Калі аўтар праз Святаслава звяртаецца з заклікам да рускіх князёў, то тут трэба бачыць не толькі заклік да аб'яднання для паходу, тут трэба бачыць больш шырокую гістарычную задачу. Іменна аўтар—прыхільнік аб'яднання князёў пад кіраўніцтвам Кіева і праціўнік сепаратных выступленняў. Аўтар разумее законамернасць гістарычнага працэса, якая змагаецца за аб'яднанне, праводзячы гэту думку ў сваім творы. Гэта цікава раскрываецца на адносінах аўтара да Ігара. Яны дваісты. З пункту гледжання агульна-нацыянальнага ён захоплены подвігам Ігара, з пункту гледжання прыхільніка кіеўскай групоўкі, ён асуджвае яго за сепаратнае выступленне. Гэту дваістасць унёс ён нават у плач Яраслаўны.

Яраслаўна супроцьстаўляе няўдачу Ігара ўдаламу паходу Святаслава Кіеўскага. А ў другім месцы аўтар кажа: „Гэта-ж тыя два храбрыя Святаславічы Ігар і Всевалад, ужо выклікалі (сваёю) спрэчкай (з Святаславам Кіеўскім) варожасць (полаўцаў). Гэту (варожасць) уціхамірыў бы іх бацька Святаслаў Грозны, вялікі, кіеўскі: як навальніца растрапаў іх (полаўцаў) сваімі моцнымі палкамі і булатнымі мячамі; наступіў на палавецкую зямлю, прытаптаў узгоркі і яры, усхваляваў рэкі і азёры, высушыў патокі і балоты. А паганага Кабяка з лукамор'я, ад вялікіх жалезных палкоў палавецкіх, як віхор, выцягнуў і паў Кабяк у горадзе Кіеве, каля грыдніцы Святаслава“.

Аўтар яўна на баку Святаслава, ён прыхільнік моцнай, добра арганізаванай феадальнай сістэмы, за хутчэйшую феадалізацыю. Так ішоў гістарычны працэс, так разумеў яго аўтар, гэта ён ярка, маляўніча, вобразна адлюстраваў у сваім творы.

Твор заканчваецца абвяшчэннем славы князям. „Няхай жывуць князі і дружына, што вядуць барацьбу з паганымі палкамі за хрысціян! Слава князям і дружыне! Амінь“.

Упамінанне пра хрысціянства надзвычай характэрна, бо яно падкрэслівае царкоўны ўплыў. Калі мы возьмем твор у цэлым, то ўбачым, што наогул царкоўны элемент тут надзвычай слабы. Наадварот, тут пануюць паэтычныя вобразы старой Русі, таго светапогляду, які прынята звычайна называць язычаскім і толькі ў самым канцы заметны элемент хрысціянскага ўплыву. Але гэта толькі мелькам, гэта з'ява мабыць выпадковая.

Абагульняючы ўсё гэта, мы пераконваемся, што аўтар—чалавек, які стаіць з сваім часам нароўні, чалавек з шырокім палітычным кругаглядам, які ўлаўлівае асноўныя задачы эпохі і асвятляе іх ў паэтычных вобразах. Ён выключна вялікі мастак з чулым, музычным слыхам. У якасці прыхільніка кіеўскай групоўкі, аўтар звяртаецца з заклікам да князёў. Гэта прымушае яго ўзяць у аснову фігуру звароту. Пачынаецца „Слова“ зваротам да чытача: „Не лепо ли ны бяшеть, братие, начати...“ Але самае шырокае ўжыванне гэтай фігуры дадзена ў другой частцы, у залатым слове Святаслава эмацыянальная насычанасць мовы гэтым прыёмам павялічваецца ў значнай ступені. Адсюль пытанні, усклікі, гнеў, туга, жальба... Увесь характар мовы набывае ярка выяўлены эмацыянальны тон звароту-заклiку. Пакладзеная ў аснову мастацкага твору падзея прымушае карыстацца фігурай антытэзы. Полаўцы і рускія, Ноўгарад-Северскі і Кіеў, Святаслаў і Ігар—вось процілегласці, на антытэзе якіх будуецца твор. Святаслаў даецца як грозны пераможца, арганізатар перамог над полаўцамі, а Ігар як страсная фігура з вялікім парывам, якую спасцігае няўдача. Вобразы князёў, асабліва Ігара, дадзены яркімі мастацкімі фарбамі. Малюючы гераічную барацьбу Ігара, Святаслава, рускіх князёў наогул, аўтар не шкадуе фарбаў і ў яго натуральныя пераўвелічэнні, імкненне такім чынам падкрэсліць іх станоўчыя якасці.

Спыняючы сваю ўвагу на асобных вобразах, мы бачым, што аўтар найбольш маляўніча дае вобраз Ігара, пасля Яраслаўны, пасля Святаслава, характарыстыкі князёў і дружыны. Страсная, накіраваная на выкананне задуманага натура, глыбока адданая справе барацьбы за зямлю рускую, натура, якая ставіць гонар вышэй за ўсё, аддаючы перавагу смерці перад ганьбаю. Такі вобраз Ігара. Ён церпіць паражэнне, але ён смелы, храбры, любіць сваю дружыну, сваю радзіму. Мяккімі лірычнымі танамі дан вобраз яго жонкі Яраслаўны. Яна ўся парыў, уся імкненне да свайго мілага мужа. Яна гатова ляцець зязюляй, каб рукавом бабровай шубкі абмыць яго крывавыя раны. Глыбока прачула гучаць яе звароты да ветру, Дняпра і сонца. Для Яраслаўны прырода жыве, яна актыўная, яна можа дапамагчы Ігару і яго воінам. Яраслаўна верыць у гэта. Гэта надзвычай жаноцкі вобраз, якім у праве ганарыцца старажытна-руская літаратура. У ім сканцэнтраваны цэлы рад станоўчых рыс: шчырая глыбокая любоў, самаадданасць, цяплыня, жаласлівасць, сум, разуменне вялікіх задач свайго часу. Малюючы гэты вобраз, аўтар стварае прыгожы вобраз рускай жанчыны, які хвалюе чытача і ў нашы дні.

Мы ўжо падкрэслівалі, што Святаслаў дан як арганізатар перамог, як правадыр рускіх у барацьбе з ворагамі. Гэта самая харак-

тэрная для яго рыса. Але і другая рыса не менш важная ў гэтым вобразе, гэта тое, што ён выступае як прадстаўнік усёй зямлі рускай, усіх княстваў, а не толькі кіеўскага. Не гледзячы на сваю культуру, ні адно з рускіх княстваў не магло з такім правам пратэндаваць на права стаяць на чале зямлі рускай, як Кіеўскае. Калі ў першай рысе вобраза Святаслава,—агульнай з усімі астатнімі вобразамі князёў і дружыны,—для нас важны элемент ваенны, баявы, то ў другой—для нас важна выражэнне вялікай гістарычнай тэндэнцыі, працэса аб'яднання ўсёй рускай зямлі вакол Кіева і барацьба яе за сваю незалежнасць і самастойнасць. Князі і дружына характарызуюцца як доблесныя рыцары, якія шукаюць гонару, як адданыя, храбрыя, неўстрашымыя барацьбіты за зямлю рускую, за веру праваслаўную. Затое вобразы палавецкіх ханаў Гзы і Канчака дадзены не ў станоўчых, а ў стрымана адмоўных танах, што відаць тлумачыцца зноў-такі дваістымі адносінамі, з аднаго боку—яны ворагі, паганыя полаўцы, а з другога—яны князі, з якімі часам не толькі дружылі, але і радніліся рускія князі і той-жа самы Ігар. Аўтар аднак вялікі майстар і ён умее справіцца з падобнай задачай, прыфарбаваўшы лірычнымі адносінамі гэту супярэчнасць.

Цікава адзначыць месца пейзажаў у „Слове". Прырода не пасіўная, яна прымае актыўны ўдзел у барацьбе рускіх з полаўцамі, у іх жальбе, радасці, барацьбе, паражэнні. Падам адно яркае месца ў гэтых адносінах:

„Тады Ігар ступіў у залатое стрэмя і паехаў па чыстаму стэпу. Сонца змрокам загараджвала яму дарогу, (а) ноч адклікалася яму (сонцу) навальніцаю; абудзіліся птушкі, узняўся звярыны свіст; устрапянуўся Дыў, падае голас на вяршыне дрэва: прымушае прыслухоўвацца невядомыя (далёкія) краіны—Волгу, Памор'е, Пасулье, Сураж, Корсунь і цябе, Тмутараканскі ідал! А полаўцы непратаптанымі дарогамі паімчаліся да вялікага Дону: крычаць упоўнач (іх нямазаныя) калёсы, падобна да, сказалі-бы, разагнаных лебядзеў. Ігар вядзе войска дадому. А птушкі па дрэвах ужо сцерагуць (маючыя быць) яму беды; ваўкі пагражаюць па ярах; арлы (сваімі) крыкамі склікаюць звяроў на косці; лісіцы брэшуць на чырвоныя шчыты. О, руская зямля, ужо (асталася) ты за курганам!

Доўга цягнецца змрок начны. Зара запаліла святло. Туман пакрыў стэп. Трэль салаўёў заснула. Прачнуўся гоман галак. Рускія перагарадзілі вялікія стэпы чырвонымі шчытамі, шукаючы сабе гонару, а князю славы".

Надзвычайнае месца, пейзаж маляўнічы і добра раскрывае пазіцыю аўтара і яго настрой. Усё жыве поўным маляўнічым жыццём, усё трапечацца пад яго пяром і здаецца, што вешчыя пярсты аўтара „Слова" прымушаюць пець струны жывыя песні. Прырода ўвасоблена, апрача паданай карціны ўкажу яшчэ на адно месца:

„На другі дзень, рана-рана, крывавыя зоры святло абяцаюць. Ідуць з мора чорныя хмары, хочуць прыкрыць чатыры сонцы, а ў іх бліскаюць сінія маланкі. Быць грому вялікаму! Ісці дажджу стрэламі з Дону вялікага! Тут коп'ямі паламацца, тут шаблямі

ўдарацца аб шлемы палавецкія на рацэ, на Каяле каля вялікага Дону. О, руская зямля, ужо за курганам ты!

Вось вятры, унукі Стрыбога, веюць з мора стрэламі на храбрыя палкі Ігара. Зямля гудзе; рэкі мутна цякуць; пыл пакрывае стэпы. Сцягі гавораць: полаўцы ідуць, ад Дону і ад мора, і з усіх бакоў абступілі рускія палкі. Бесавы дзеці з (ваенным) клічам акружылі стэпы, а храбрыя рускія загарадзілі іх чырвонымі шчытамі".

Увасабляючы з'явы прыроды, малюючы цудоўныя карціны, аўтар карыстаецца цікавымі параўнаннямі, робячы іх многастайнымі, нават у адным плане. Цудоўныя карціны бітвы расцвечаны цікавымі параўнаннямі. „На Нямізе снапы сцелюць галавамі, малоцяць булатнымі цапамі, на таку кладуць жыццё, веюць душу ад цела", або: „крывавыя берагі Нямігі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі рускіх сыноў".

Любімыя параўнанні аўтара адпаведна любімай забаве пануючых класаў—гэта параўнанні ўзятыя з палявання. Сокал, крэчэт, воўк—вось вобразы аўтара. Цікавы такія звароты: „Рускія рассыпаліся стрэламі па стэпу". „Быць грому вялікаму! Ісці дажджу стрэламі з Дону вялікага".

Цікава спыніць увагу на сімвалічных карцінах: „Сонца змрокам загараджвала яму дарогу, (а) ноч адклікалася яму (сонцу) навальніцаю", або: „Крывавыя зоры святло абяцаюць. Ідуць з мора чырвоныя хмары, хочуць прыкрыць чатыры сонцы, а ў іх бліскаюць сінія маланкі" і г. д.

Усе гэтыя прыёмы робяць мову „Слова" надзвычай яркай, маляўнічай, вобразнай. У гэтых адносінах „Слова" можа быць супастаўлена не толькі з помнікамі пісьмовай літаратуры, але з вуснай народнай творчасцю. У мове „Слова" жыва адчуваецца фальклорная стыхія.

Адзначым тут сувязь з песняй, што адчуваецца ў музыкальнасці твору, у яго эўфоніі. Назіранне В. Ржыгі ў гэтых адносінах надзвычай цікавае. Асаблівая чуткасць да гука сказываецца на кожным кроку. Многастайныя галасы птушак і звяроў добра знаёмы і зразумелы аўтару „Слова". Ён прыслухоўваецца да гоману галак і разумее іх размову. Для яго салаўі спяваюць вясёлыя песні, абяцаюць дзень, дзятлы сваім стукам паказваюць шлях да ракі.

Гукі жывёл поўныя таямнічых значэнняў: ваўкі жах навываюць па ярах, арлы клёкатам на косці звяроў клічуць, лісіцы брэшуць на чырвоныя шчыты; загадкавы Дыў кліча з вяршыны дрэва. Лебедзь і салавей асабліва палюбіліся паэту. Ён успамінае і лебядзіныя песні і крык спалоханых лебядзеў і плеск лебядзіных крыллаў. Спяванне баяна—гэта песня салаўя. У рыданнях Яраслаўны чуецца зязюля, у стогнах параненай дружыны—рыканне тураў, у размове палавецкіх ханаў—стракатанне сарок.

І ад мёртвай прыроды, ад зямлі, хмар, мора і рэк даносяцца вешчыя галасы: зямля то глуха гудзе, здрыгаецца ад трывожнага стуку: „стукну зямля, у шуме трава". Хмары і маланкі абяцаюць гром, Дон, звяртаючыся да князёў, кліча іх да перамогі. У змроку

начы яшчэ больш-чутнымі робяцца галасы прыроды: „нощь стонущи ему грозою птичь убуди; свистъ звѣринъ въста близъ“. У поўнач загаварыла і мора: „Прысну мора апаўночы“. А чалавечае жыццё, якое яно шматгучнае, якое поўнае крыкаў, клікаў, стогнаў, песень і звонаў. Вось зборы ў паход. „Комони ржуть за Сулою, звенить слава въ Киевѣ. Трубы трубять в Новѣградѣ“... Вось з паўднёвага стэпу даносіцца рыпенне палавецкіх калёсаў: „Крычатъ телѣгы полунощы“. Вось, нарэшце, бой: грымяць і звіняць шаблі і мячы аб шаломы, „трещатъ копіа харалужные“.

А колькі паэзіі гука ў гэтым цудоўным: „что ми шумить, что ми звенить далече рано пред зорями?“ У сусветнай літаратуры наўрад ці знойдзецца другі твор, у якім было-б увасоблена столькі гукавых уражанняў. Аўтар „Слова“ быў без сумнення высока адаронай музыкальнай натурай.

Пасля ўсяго сказанага пытанне аб мове „Слова аб палку Ігаравым“ робіцца досыць зразумелым. „Адна мова „Слова аб палку Ігаравым“ каваная, сціслая, моцная, маляўнічая, малюе нам цэлае пакаленне, да якога належаў песняр і якое гэта было пакаленне“. Расказаўшы далей пра сучасных князёў, даследчык працягвае: „Вось сучаснікі „Слова аб палку Ігаравым“ і яго песняра, у кругу якіх даводзілася яму спяваць... Я гаварыў толькі пра князёў; але дух князёў жыў і ў іх дружыне. Зразумела, каб спяваць гэтым багатырам, каб прымусіць іх сябе слухаць трэба было мець і блізкую да іх душу, самому быць гэтага гарту, а гарт гэты так і звініць у каванай мове „Слова“.

Эпітэты (чыстае поле, буйныя вятры, сінія маланкі) параўнанні (Всевалад—буйны тур, Ігар—скача гарнастаем, ляціць сокалам, бяжыць воўкам, Ігар—сокал, Владзімір—сакалёнак і г. д.), розныя фігуры, гіпербалы, паўтарэнні (напр. рэфрэн: „О, русская земля уже за шеломянем еси“), таўталогія („Адзін брат, адзін свет светлы ты, Ігар“), тропы: увасабленні, метафары, метаніміі (копія спяваюць), сімвалы і г. д.—вось каваная мова „Слова“. У ім як ва ўсёй вобразнай сістэме слова з выключнай паўнатой адлюстраваўся ўвесь быт старажытнай Русі: тут і князь, як правадыр і арганізатар, уласнік, змагар за сваю зямлю, тут яго дружына, яго баявыя саратнікі, здабываючыя сабе гонар, а князю славу. Тут усё іх знаражэнне і ўзброенне: калчаны, лукі, стрэлы, мячы, шаблі, трубы, сцягі і г. д. Тут уся іх арганізацыя, іх імкненні, думкі пачуцці, перажыванні. Усё гэта адлюстравалася ў мове, у яе слоўніку, сінтаксу, эмацыянальнай афарбоўцы, у яе лірычным ладзе. Чаго варты поўны лірызма, выражаючы настраёвасць твору, рэфрэн: О, русская земля, уже за шеломянем еси“.

Узнікае пытанне, якім чынам, у XII стагоддзі з'яўляецца помнік вялікай мастацкай сілы, вялікага паэтычнага майстэрства і няўжо гэты помнік адзінокі і не было іншых падобных яму мастацкіх твораў? Цяжка дапусціць думку, што гэты твор быў адзіным, нечым незвычайным на фоне твораў старажытнай рускай літаратуры. Больш праўдападобным будзе дапусціць, што з раду падобных помнікаў захаваўся яшчэ адзін.

Услед за іншымі даследчыкамі акадэмік П. Н. Сакулін сцвярджае, што існавала цэлая паэтычная школа і аўтар „Слова аб палку Ігаравым", з'яўляецца толькі адным з мастакоў гэтай школы. Аўтар звяртаецца да Баяна: „Боян бо вещий". Значыць існавалі помнікі, якім ён наследуе. Ён хоча ад яго адштурхнуцца, падкрэсліць і яго і свае асаблівасці, значыць існавалі нейкія старажытна-рускія песняры, якім аўтар імкнецца наследваць.

Баян, пра якога ўспамінае аўтар, жыў год за сто да аўтара „Слова аб палку Ігаравым". Аб гэтым можна меркаваць па датах смерці князёў, пра якіх спяваў Баян свае песні. Героі яго песень дзейнічалі ў XI і ў пачатку XII стагоддзя (Мстыслаў—памёр у 1036, Праслаў—у 1054 годзе, Раман—у 1079 годзе, Всеслаў—у 1101 годзе, Олег у—1115 годзе), значыць і сам Баян спяваў свае песні ў XI стагоддзі. Калі гэта так, то паэтычная школа Баяна мела досыць вялікую творчую традыцыю, на якую абапіраўся аўтар „Слова аб палку Ігаравым".

Другі момант, які мы можам адзначыць—тое, што наследванне было развіта. Напрыклад, „Слова аб палку Ігаравым" лягло ў аснову твору „Задоншчына". Так што прыклады такіх наследванняў несумненна існавалі і былі таму ўсе падставы думаць, што існавала цэлая паэтычная школа, якая валодала вялікай тэхнікай і вялікім майстэрствам. Але чаму-ж „Слова" дайшло да нас у адным спіску, у адной рэдакцыі. Думка акадэміка Істрына, што адыход ад тэматыкі барацьбы з полаўцамі тлумачыцца зменаю гістарычнай сітуацыі—з'яўленнем новага ворага—татар, здаецца пераканаўчай.

Падзеі ішлі, разгортвалася барацьба з татарамі, з'явіліся новыя гістарычныя факты, якія зацямнілі ў свядомасці мастакоў-спявакоў паход Ігара. Дзякуючы гэтым акалічнасцям не было падстаў для захавання цікавасці да гэтага твору. Жыццё патрабавала стварэння новых твораў, якія адлюстроўвалі татарскую навалу, барацьбу з імі.

Гэта меркаванне цікаўнае і, бадай, пераканаўчае. Пераканаўчае яшчэ і таму, што старажытная руская літаратура распаўсюджвалася ў рукапісах. Значыць, для таго, каб перапісаць такі твор, як „Слова аб палку Ігаравым", трэба было аддаць шмат працы, а ці была падстава рабіць гэтую працу, калі знікла непасрэдная цікавасць да падзей, адлюстраваных у гэтым творы. „Усё-ткі мы ў правах сцвярджаць, што „Слова аб палку Ігаравым" не стаіць у поўнай адзіноце, што яно ёсць звяно ў ланцугу літаратурнага развіцця і з'яўляецца найбольш мастацкім прадстаўніком не толькі вялікага жанра, але і цэлай паэтычнай школы. „Слова аб палку Ігаравым" завяршае сабою цэлы перыяд у гісторыі старажытнай рускай паэзіі, так сказаць, баянаўскі перыяд" (П. Н. Сакулін. „Руская літаратура", ч. I, стар. 134).

Апрача таго, чаму не меркаваць, што рукапісы гэтага помніка згублены ў сувязі з прыходам татар, разгромам, войнамі, пажарамі, грабяжамі, варварскімі адносінамі да літаратуры? На некаторы час гэты помнік быў забыты, але ўжо аўтар „Задоншчыны"

карыстаўся спіскам „Слова аб палку Ігаравым“, знаходзячыся пад мацнейшым уздзеяннем і ў абаяльнай уладзе гэтага твору. Цікавасць да яго зноў узнікла ў пачатку XIX стагоддзя і яна не гасне да нашых дзён. Ужо першы выдаўца граф Мусін-Пушкін з сваімі сябрамі пісаў: „Аматары расійскай славеснасці згадзяцца, што ў гэтым астаўшымся нам ад мінулых стагоддзяў творы відаць дух Осіянаў; значыць і нашы старажытныя героі мелі сваіх Бардаў, пеўшых ім хвалу“.

Нам лёгка разгадаць пад якім настроем былі напісаны гэтыя радкі і зразумець гонар за высокі паэтычны твор, які гучыць у іх. Сапраўды, хіба наш аналіз не пераканаў нас у гэтым? Хіба супастаўленне яго з узорамі заходне-еўрапейскай сярэдневяковай літаратуры („Песня аб Раландзе“, „Песня аб Нібелунгах“ і інш. не пераканала даследчыкаў у выключнай сіле гэтага твору.

## „Слова аб палку Ігаравым“ і сучаснасць

„Слова аб палку Ігаравым“ належыць да тых помнікаў старой рускай літаратуры, якія да нашых дзён захоўваюць сваё эстэтычнае значэнне. Яно дарагое нам не толькі як яркі гістарычны помнік, не толькі як твор, які раскрывае нам інтарэсы, погляды, густы XII стагоддзя, але, як вялікая мастацкая каштоўнасць; яно не толькі сродак пазнання навакольнай рэчаіснасці, але і велізарная мастацкая каштоўнасць. Мастацкія вартасці твору кідаюцца ў вочы. Сучаснага чытача хвалюе сіла вобразнай мовы, глыбіня і шырыня гістарычнага абагульнення, выразнасць і яснасць кампазіцыі, маляўнічасць і рэльефнасць вобразаў, цудоўная музычнасць, глыбіня і маляўнічасць пейзажа і г. д. Эстэтычнае ўражанне, якое робяць на сучаснага чытача гэтыя элементы ў паасобку, павялічваецца ў многа раз, дзякуючы таму, што „Слова“ становіць сабой арганічнае адзінства, асаблівы свет, дзе ўсе законамерна, усё псіхалагічна апраўдана.

У вядомай музычнай апрацоўцы А. П. Барадзіна „Слова“ жыве, як опера „Князь Ігар“ на сцэне савецкіх тэатраў. Першы раз опера Барадзіна была пастаўлена 23 кастрычніка 1890 года на сцэне Марыінскага опернага тэатра ў Пецярбургу. У Маскве ў Вялікім тэатры яна ішла першы раз 19 студзеня 1898 года. Усякі, хто слухаў гэтую оперу, мае магчымасць меркаваць наколькі моцнае ўражанне робіць „Слова аб палку Ігаравым“ у музычнай апрацоўцы Барадзіна. Тут мы назіраем адзінства, калі музычны тэкст твору атрымлівае адпаведную музыку кампазітара.

У заключэнне падкрэслім яшчэ раз аб‘ектыўны сэнс гэтага твору. Незалежна ад імкнення і сімпатый аўтара яно з‘яўляецца прыгожым помнікам, адлюстроўваючым барацьбу рускага народа за сваю культуру, сваю самастойнасць і незалежнасць. Яно паказвала ў чым слабасць рускіх і вучыла іх перамагаць гэтыя слабасці, яно асуджвала сепаратызм і заклікала да аб‘яднання. Яно падкрэслівала пагібельнасць раздораў, якія цяжка адзываліся на

народных масах, якія ўрэшце і з'яўляліся творцамі гісторыі. З гэтага пункту гледжання „Слова аб палку Ігоравым" з'яўляецца геніяльным народным творам, геніяльным творам рускага народа. Увесь наш аналіз пераконвае ў тым, што перад намі выключны твор, і мы, не баючыся пераўвелічэння, скажам: „Слова аб палку Ігаравым" не толькі вялікі помнік рускай літаратуры, але гэта найвялікшы твор сусветнай літаратуры, сусветнага мастацтва.

---

05

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

*Стар.*

